Л. К. Цітова

# БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА

Вучэбны дапаможнік для 5 класа
агульнаадукацыйных устаноў з беларускай
і рускай мовамі навучання

У дзвюх частках

Частка 1

*Дапушчана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2009

УДК 821.161.3.09(075.3=161.3=161.1)
ББК 83.3(4Беи)я721
Ц74

Р э ц э н з е н т ы:

кафедра бел. мовы і літаратуры Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта» (заг. кафедры, канд. філ. навук, дацэнт *П. В. Васючэнка*);

настаўнік бел. мовы і літаратуры выш. катэгорыі сярэдняй школы № 141 г. Мінска *І. Г. Казелька*;

метадыст I катэгорыі навучальна-метадычнага аддзела Інстытута павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў аграрна-прамысловага комплексу Беларускага дзяржаўнага аграрнага тэхнічнага ўніверсітэта *А. М. Градзецкая*;

канд. філ. навук, дацэнт *М. Ф. Шаўлоўская*

На вокладцы фрагмент рэпрадукцыі карціны
У. Хадаровіча «Сакавік»

**Цітова, Л. К.**
Ц74 Беларуская літаратура : вучэб. дапам. для 5-га кл. агульнаадукац. устаноў з беларус. і рус. мовамі навучання. У 2 ч. Ч. 1 / Л. К. Цітова. — Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2009. — 176 с.
ISBN 978-985-465-489-8.

**УДК 821.161.3.09(075.3=161.3=161.1)**
**ББК 83.3(4Беи)я721**

**ISBN 978-985-465-489-8 (ч. 1)**
**ISBN 978-985-465-494-2**

## *Дарагія сябры!*

Гэты вучэбны дапаможнік на працягу навучальнага года будзе вам дарадцам і спадарожнікам у вандроўцы па дзівоснай Краіне прыгожага пісьменства. Краіна гэта створана пісьменнікамі — людзьмі таленавітымі і творчымі, якія ўмеюць выдатна спалучаць словы і цікава пра ўсё распавядаць. Яны, нібы добрыя чараўнікі, прымушаюць нас перажываць яшчэ не зведаныя пачуцці, дапамагаюць спасцігаць таямніцы чалавечай душы, даюць парады падчас жыццёвых выпрабаванняў, абуджаюць пачуццё захаплення. Аддаючы пісьменніцкай працы свой час, укладваючы ў яе талент і сэрца, майстры мастацкага слова імкнуцца падзяліцца з намі сваім жыццёвым вопытам, навучыць бачыць прыгожае, адрозніваць дабро і зло, лепш разумець людзей. Нездарма мастацкую літаратуру называюць чалавеказнаўствам. Разважаючы над перажываннямі і аналізуючы ўчынкі літаратурных герояў, чалавек пазнае сябе, часцей задумваецца над сваім месцам сярод людзей.

Краіна літаратуры — гэта валадарства кніг, у якіх захавана духоўнае багацце ўсяго чалавечага роду, досвед і мудрасць нашых продкаў і сучаснікаў — ад фальклорных калыханак, загадак і казак да найноўшых шэдэўраў мастацкага слова. Літаратурны твор — складанае, цэласнае адзінства,

дзе мае значэнне ўсё: час і месца дзеяння, абмалёўка знешнасці і паводзін герояў, выяўленне іх пачуццяў і перажыванняў, апісанні карцін прыроды і таго асяроддзя, дзе адбываюцца падзеі, пазіцыя самога аўтара.

Як мага больш чытайце, удумліва аналізуйце апісаныя падзеі, перажыванні і ўчынкі персанажаў, разважайце і рабіце высновы, атрымлівайце асалоду ад хараства і выразнасці беларускага слова. «Пасябраваўшы» з кнігамі, вы ніколі не будзеце адчуваць недахопу ў вясёлых суразмоўцах, верных таварышах, мудрых дарадцах. Спрабуйце і свае сілы ў літаратурнай творчасці. Краіна літаратуры чакае вас. Вандруйце па ёй — і вы набудзеце шмат незабыўных уражанняў і новых ведаў, атрымаеце сапраўдную душэўную асалоду.



# «МОЙ ЧАРОЎНЫ БЕЛАРУСКІ КРАЙ...»

З легендаў і казак былых пакаленняў,
З калосся цяжкога жытоў і пшаніц,
З сузор'яў і сонечных цёплых праменняў,
З грымучага ззяння бурлівых крыніц,
З птушынага шчэбету, шуму дубровы,
І з гора, і з радасці, і з усяго
Таго, што лягло назаўсёды ў аснову
Святыні народа, бяссмерця яго, —
Ты выткана, дзіўная родная мова...

*Максім Танк*

ПЯТРУСЬ БРОЎКА

## Калі ласка

У любімай мове, роднай, наскай[1],
Ах, якія словы: «Калі ласка!..»
Як звіняць яны сардэчнаю струною,
Праз усё жыццё ідуць са мною.
Трапіць госць у будзень, а ці ў свята:
— Калі ласка, калі ласка ў хату!

---

[1] *На́скай* — нашай (ад *на́скі* — наш).

Не паспелі сесці пры сустрэчы,
Як патэльня[1] засквірчэла ў печы...
Бульба, смажаніна і каўбаска,
Пакаштуйце, людцы, калі ласка!
Хлопец кажа дарагой дзяўчыне:
— Калі ласка! Будзеш гаспадыняй!..
Эх, жыццё збудуем мы прыгожа,
Ўсе з табой нягоды пераможам.
Гром грыміць. З нябёсамі размова:
— Калі ласка, цёплы дождж вясновы!
І не вельмі буйны, і не рэдкі —
На сады, на пушчы, на палеткі,
На грыбы, на ягады, на кветкі...
— Калі ласка! — наш зварот бясконцы.
Мы гаворым ранішняму сонцу:
— Калі ласка, сонца, выйдзі з хмары,
— Радасцю аблашчы[2] нашы твары,
Ты ўзнімі з сабою нашы мары!
— Калі ласка! — нашай роднай мовы
Шчырыя і ветлівыя словы.

**1.** Прачытайце вершаваныя радкі Максіма Танка, узятыя ў якасці эпіграфа[3] да раздзела. Што значыць для паэта родная мова? Праз якія паэтычныя вобразы ён перадае свае пачуцці і думкі?

**2.** Пазнаёмцеся з вершам Петруся Броўкі «Калі ласка». Як ставіцца аўтар да сваёй мовы?

---

[1] *Патэ́льня* — скаварада.

[2] *Абла́шчыць* — абласкаць, агарнуць пяшчотай, цеплынёй.

[3] *Эпі́граф* — яркае выказванне, якое змяшчаецца пасля загалоўка твора або раздзела і выяўляе яго асноўную думку.

**3.** Якія жыццёвыя сітуацыі прыгадвае Пятрусь Броўка, калі чуе ветлівыя словы «*калі ласка*»? Звярніце ўвагу на надзвычай мілагучнае, пяшчотнае, ласкавае іх гучанне. Якія гукі дапамагаюць стварыць такое ўражанне? Параўнайце беларускае «калі ласка», украінскае «будь ласка» і рускае «пожалуйста».
**4.** Якія якасці беларускага нацыянальнага характару адзначае паэт?
**5.** Падрыхтуйцеся выразна прачытаць твор. Паспрабуйце пры чытанні перадаць агульны настрой верша, аўтарскія пачуцці, свае адносіны да твора. Паразважайце, якая інтанацыя — усхваляваная, урачыстая, узнёслая, даверлівая, замілаваная, спакойна-апавядальная ці якая іншая — больш прыдатная для чытання верша?

ЯЎГЕНІЯ ЯНІШЧЫЦ

## Мова

Чую тваю жаўруковую музыку
У скошаных травах мурожных[1].
Мова! Як сонца маё
беларускае,
Ты свецішся словам кожным.
Цябе і заворвалі, і закопвалі,
І ўсё ж нашы продкі праз гора
Данеслі да нас цябе,
родную, цёплую,
Жывую і непаўторную.

---

[1] *Муро́жны* — пакрыты сакавітай густой травой (ад *мурог* — сухадольная сакавітая трава).

І калі ты мяне толькі паклікаеш,
Памру за цябе без енку[1].
Нашу́ я любоў да цябе
вялікую
У сэрцы сваім маленькім.

**1.** Чым дарагая родная мова аўтару? Якія выразныя словы ўжывае паэтэса, каб перадаць свае адносіны да яе, выявіць уласныя пачуцці?

**2.** З чым параўноўваецца ў вершы беларуская мова? Растлумачце гэта параўнанне.

**3.** Якія радкі верша сведчаць пра няпросты лёс нашай мовы? Як вы іх разумееце?

**4.** Якія аўтарскія перажыванні выказаны ў вершы:
- а) гонар за беларускую мову;
- б) захапленне яе багаццем, змястоўнасцю, мілагучнасцю;
- в) упэўненасць, што без роднай мовы жыццё чалавека непаўнацэннае;
- г) жаданне шанаваць і берагчы сваю мову, каб захаваць яе для нашчадкаў;
- д) перакананасць, што родная мова — найдаражэйшая ў свеце?

**5.** Вы прачыталі два вершы, прысвечаныя беларускай мове. Што іх яднае (змест, агульны настрой, выказаныя пачуцці, інтанацыя, будова)?

---

[1] *Енк* — працяглы жаласны стогн, выкліканы болем або вялікім горам.

**6.** Чаму не можа існаваць народ без сваёй мовы? Чым з'яўляецца родная мова для кожнага чалавека, для народа ў цэлым:

а) крыніцай мудрасці;
б) захавальніцай народных традыцый, гісторыі;
в) сродкам, што яднае людзей;
г) адзнакай пэўнага культурнага ўзроўню народа;
д) жыццёвай неабходнасцю;
е) спосабам зносін з суайчыннікамі;
ж) прадметам гордасці і захаплення?

УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ

## Бацькаўшчына

Дагарэў за брамай[1] небакрай,
Месяц паміж воблачкаў плыве.
Выйду зноў, як у мінулы май,
Басанож прайдуся па траве.
Дымная, сцюдзёная раса,
Цёмныя ў траве ад ног сляды.
А такога рослага аўса
Я не бачыў доўгія гады.
Бач, хмызы[2] спляліся, як павець[3],
Светлякі мігцяць, гараць святлей.
Перад тым, як звонка ў лозах пець,
Прачышчае горла салавей.

---

[1] *Бра́ма* — вароты ў двор дома.

[2] *Хмы́зы (хмызня́к)* — зараснік, кустоўе.

[3] *Паве́ць (паве́тка)* — пляцоўка пад страхой на слупах, дзе трымаюць розныя сельскагаспадарчыя прылады.

Лашчыцца трава да босых ног.
З дальніх паплавоў[1] плыве ракой
Ледзь прыкметны сумны халадок —
Подых юні[2] ўходзячай маёй.
Паімчаць за ёю наўздагон? —
Хоць і схопіш — усё адно падман.
Дзе каханне тых мінулых дзён —
Весніх паркаў бэзавы туман?
Нават шкадаванне — дзе яно?
Зноў вясна, і жаль знікае зноў.
(Так губляюць пах перад вясной
Ссохлыя сцяблiны палыноў.)
Ціха цмокае ў сне рака.
О, як добра, як прыгожа жыць!
Раска[3], як русалчына луска,
На вадзе ад месяца гарыць.
А вакол травіцы росны рай
І бярозак белая сям'я.
Мой чароўны беларускі край,
Бацькаўшчына светлая мая!

? **1.** Якое ўражанне зрабіў на вас верш? Якія карціны прыроды, створаныя паэтам, паўстаюць у вашым уяўленні пры чытанні твора?

**2.** Пра што нагадалі аўтару знаёмыя змалку краявіды? Якія пачуцці абудзіла сустрэча з мілымі сэрцу мясцінамі?

---

[1] *По́плаў* — луг у пойме ракі.
[2] *Юнь* — юнацтва, маладосць.
[3] *Ра́ска* — водарасці ў выглядзе маленькіх круглых пласцінак.

**3.** Якія радкі верша найбольш дакладна перадаюць душэўны стан паэта, яго хваляванні і перажыванні? Якія паэтычныя вобразы вам найбольш спадабаліся?

**4.** Як вы разумееце выразы: *дымная, сцюдзёная раса; сумны халадок; прачышчае горла салавей; весніх паркаў бэзавы туман*?

**5.** Перачытайце верш. Паэт спачатку апісвае знаёмыя з дзяцінства краявіды, якія яго асабліва ўражвалі надвячоркам, калі ў прыцемках прырода ўяўляецца незвычайнай, крыху чароўнай. Гэтыя карціны абудзілі ў паэта ўспаміны пра юнацтва — далёкія і, пэўна, самыя шчаслівыя часы. А ў канцы верша аўтар зноў вяртаецца да сузірання мілых сэрцу малюнкаў прыроды. Як паступова мяняецца настрой верша? Чым, на вашу думку, абумоўлены гэтыя змены?

**6.** Якім паўстае ў вершы вобраз Радзімы? Чаму паэт называе Бацькаўшчыну *светлай*, родны край — *чароўным*? Знайдзіце ў тэксце выразныя доказы таго, што аўтар з вялікай пяшчотай, замілаваннем, любоўю ставіцца да зямлі сваіх продкаў.

**7.** Разгледзьце на форзацы падручніка рэпрадукцыі карцін з краявідамі Бацькаўшчыны беларускіх жывапісцаў Вітольда Бялыніцкага-Бірулі «Зацвіла калужніца»[1] і Эдуарда Рымаровіча «Свежая раніца». (Звярніце ўвагу

---

[1] *Калу́жніца (ло́таць)* — шматгадовая травяністая расліна з жоўтымі кветкамі, што расце на балотах, сажалках.

на фарбы, дэталі, настраёвасць пейзажаў.) Якой паўстае беларуская прырода на палотнах мастакоў. Што агульнае ва ўспрыманні прыроды мастакамі і аўтарам верша. Якія радкі верша падаліся вам найбольш сугучнымі пейзажам мастакоў. Абгрунтуйце свае меркаванні.

**8.** Падрыхтуйцеся да выразнага чытання верша. Падумайце, як найбольш трапна перадаць аўтарскія думкі і пачуцці, выказаць свае адносіны да твора. Падбярыце адпаведную інтанацыю і патрэбны тэмп чытання.

## АНАТОЛЬ ГРАЧАНІКАЎ

### * * *

Дрымотна цісну́цца кусты
Пад цёплы бок дубровы ціхай.
І ў цішыні за тры вярсты
Чуваць, як п'е ваду ласіха.
О край мой родны! Я прашу:
Ратуючы ад пустазелля[1],
Я сам расцераблю душу,
А ты мне дай свайго насення,
Каб мог я так сумленна жыць,
Каб і мяне ў ліхую невідзь
Ніхто не мог закабаліць,
Ніхто не мог ачужаземіць.

[1] *Пустазе́лле* — тут: духоўнае збядненне.

Шалеюць скразнякі эпох.
Я чую, як Айчына кліча
На раздарожжы ўсіх дарог
Не разгубіць свайго аблічча[1].

Якая ноч! Які спакой
На вечаровым аксаміце[2]!
І толькі недзе за ракой
Крычыць зямляк: «Пера-вя-зі-це-е-е!..»

1. Якія радкі верша вас найбольш уразілі, якія вобразы вам запомніліся?
2. Верш пачынаецца і заканчваецца апісаннем ціхай ночы. Якія паэтычныя вобразы дапамагаюць перадаць спакой, гармонію ў прыродзе?
3. Што хвалюе, трывожыць паэта? Чаму падчас душэўнага ўзрушэння ён у сваіх думках звяртаецца да роднага краю?
4. Якія галоўныя чалавечыя каштоўнасці вызначае аўтар?
5. Дакажыце, што паэт найперш цэніць у людзях сумленне, самабытнасць, незалежнасць. Чаму?
6. Верш мае адметную форму: ён падзелены на тры часткі. Вызначце асноўную думку кожнай часткі.
7. Ці блізкія вам погляды паэта на жыццё, на месца чалавека ў свеце? Абгрунтуйце свае меркаванні.

---

[1] *Згубíць аблíчча* — тут: страціць сябе, сваё «я»; здрадзіць сваім прынцыпам.

[2] *Аксамíт* — тут: мяккі, цёмны колер неба.

## ЯЎГЕН КРУПЕНЬКА

* * *

Кожны з нас прыпасае Радзімы куток,
Каб да старасці чэрпаць адтуль успаміны.
*Пімен Панчанка*

Ёсць у кожнага з нас незабыўны маленства
куток,
Як у птушак, дзе вывелі дзетак, гняздоўе.
Борам стаў стогалосы за вёскай
маленькі лясок —
Для мяне ён адзіны на свеце ў маім Прыдняпроўі.
Дзе б ні быў я далёка, куды б мяне лёс ні занёс,
Хату матчыну помню — заўсёды стаіць
прад вачыма.
Чую клёкат буслiны, пад акном —
ціхі шэпат бяроз,
Ты такой перад мной паўстаеш, дарагая Радзіма.
Нізкім стаў мне даўно, што здаваўся высокім,
парог,
Ды і хата, як маці мая, за гады пастарэла.
На кляновым стале, на бялюткім абрусе, пірог,
Нібы сонца, ляжыць — ад яго на зямлі
пасвятлела.
Сонца ў лісцях бяроз, на мурожнай у росах траве,
Жаўруковаю песняй злятае на колас жытнёвы,
А ў матуліным сэрцы найвялікшае сонца жыве,
Найвялікшае сонца — мая беларуская мова.
Слова маці! Цябе перадам я сынам.
Ты — мой скарб дарагі, найсвятлейшая спадчына.
За цябе, калі трэба, жыццё я аддам,
Толькі песня не моўкнула б матчына.
А пакуль я жыву, незабыўны маленства куток

Мяне вабіць туды, ён заўсёды стаіць прад вачыма...
Борам стаў стогалосы за вёскай маленькі лясок.
Ён у кожнага свой, ды адна для ўсіх нас —
Радзіма.

1. Якія малюнкі і вобразы дзяцінства ўсплываюць ва ўспамінах паэта? Якім паўстае ў вершы яго «маленства куток»? Чаму ён для аўтара «незабыўны» на ўсё жыццё?
2. Як называе паэт матчыну мову? Паразважайце, чаму яна з'яўляецца для аўтара «найсвятлейшай спадчынай», дзеля якой ён гатовы аддаць нават жыццё? Што агульнае ў стаўленні да роднай мовы ў Яўгена Крупенькі і іншых паэтаў, чые вершы вы ўжо ведаеце?
3. Якой бачыць паэт сваю Радзіму?
4. Зямля Беларусі — якая яна ў вашым уяўленні?
5. Разгледзьце фрагмент рэпрадукцыі карціны мастака Уладзіміра Хадаровіча «Сакавік», змешчаны на вокладцы падручніка. Звярніце ўвагу на кампазіцыю карціны, яе выразныя дэталі (размешчаныя на пярэднім плане бохан свежаспечанага хлеба на ручніку і букет вярбы, вясновы краявід за расчыненым акном), на колеравую палітру, агульную настраёвасць мастацкага палатна.
6. Раскажыце пра свае ўражанні ад карціны. Чаму, на ваш погляд, яна атрымала такую назву? Ці можна было б назваць яе інакш? Як?
7. Што збліжае гэты верш з творам выяўленчага мастацтва? Якія паэтычныя вобразы, на ваш погляд, сугучныя зместу карціны? Выкажыце свае меркаванні.

## Пытанні і заданні да раздзела

**1.** Якія вершы вам найбольш спадабаліся, якія вобразы запомніліся? Кожны паэт па-свойму выяўляе любоў да бацькоўскага краю, да роднай мовы. А як ставіцеся да сваёй зямлі, да беларускай мовы асабіста вы?

**2.** Зямля Беларусі — якая яна ў вашым уяўленні? Паспрабуйце абагульніць свае ўражанні і падрыхтаваць невялікую вусную замалёўку на адну з тэм: «Мой родны кут, як ты мне мілы!», «Люблю свой край, старонку гэту…», «Наша мова — цудоўная, спеўная...», «Трапяткое, жывое, як промень у росах, несмяротнае, роднае матчына слова». Можна выбраць іншую тэму. Галоўнае — выкажыце свае адносіны да роднай зямлі, да беларускай мовы. Вашы ўражанні ад вершаў і твораў жывапісу дапамогуць у падрыхтоўцы вуснага выказвання. Карыстайцеся паэтычнымі вобразамі, якія вас найбольш усхвалявалі, былі сугучнымі вашым пачуццям і думкам. Падбярыце ілюстрацыі да сваёй замалёўкі, скарыстаўшы рэпрадукцыі карцін вядомых мастакоў ці фотаальбомы з беларускімі краявідамі.

**3.** Падрыхтуйце да выставы ў класе ўласныя малюнкі тых куточкаў Бацькаўшчыны, што вам найбольш падабаюцца.



# ЗА СМУГОЮ СТАГОДДЗЯЎ

Ад прадзедаў спакон вякоў
Мне засталася спадчына;
Паміж сваіх і чужакоў
Яна мне ласкай матчынай...
Аб ёй мне баюць казкі-сны
Вясеннія праталіны,
І лесу шэлест верасны,
І ў полі дуб апалены...

*Янка Купала*

## ВУСНАЯ НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ

За шматлікія стагоддзі сваёй гераічнай гісторыі наш таленавіты народ стварыў найбагацейшую духоўную спадчыну — безліч цудоўных міфаў, легенд, казак, песень, загадак, прыказак, прыкмет і павер'яў. Гэтыя творы вусна (паколькі яшчэ не было пісьменнасці) перадаваліся з пакалення ў пакаленне. Кожны, хто расказваў легенду або казку ці спяваў песню, звычайна нешта змяняў у іх, дадаваў сваё. З цягам часу імя першага аўтара забывалася, вусныя творы станавіліся калектыўнымі. Таму мы гаворым, што аўтар нашага духоўнага нацыянальнага багацця — народ.

Вусную народную творчасць яшчэ называюць *фальклорам*, што ў перакладзе з англійскай мовы азначае «народная мудрасць». І сапраўды, фальклорныя творы ўвабралі ў сябе веды і вопыт многіх пакаленняў беларусаў, іх уяўленні пра навакольны свет і месца ў ім чалавека, духоўныя памкненні, мары і спадзяванні нашых продкаў. Таму вусную народную творчасць мы называем паэтычнай гісторыяй народа. Нацыянальны фальклор і сёння жывіць творчасць беларускіх пісьменнікаў, мастакоў, спевакоў і кампазітараў сваімі моўнымі скарбамі, сюжэтамі і вобразамі.

## Народныя казкі

Казкі ўзніклі ў глыбокай старажытнасці, у іх увасоблены народная мудрасць, глыбокі роздум чалавека над жыццём, вопыт і назіранні многіх пакаленняў за з'явамі прыроды і законамі грамадства, веданне людскіх характараў. Мара нашых далёкіх продкаў аб лепшай долі і шчасці, іх імкненнеператварыць гэту мару ў жыццё спрыяла стварэнню цудоўных казак.

> К а з к а — апавяданне фантастычнага або бытавога зместу з шырокім выкарыстаннем вымыслу.

Беларускія народныя казкі надзвычай багатыя і разнастайныя. Сярод іх умоўна вылучаюць тры віды: казкі пра жывёл, чарадзейныя і бытавыя.

У казках пра жывёл дзейнічаюць асаблівыя героі — звяры, птушкі, рыбы, іншыя жывыя істоты (напрыклад, ліса, воўк, мядзведзь, шчупак, дзяцел, сабака, кот, певень, баран і г. д.) і нават

расліны. Сваімі паводзінамі яны нагадваюць людзей — добрых, працавітых, надзейных, разумных або непрыстойных, жорсткіх, хцівых, разбэшчаных. У казках пра жывёл сцвярджаюцца лепшыя чалавечыя якасці: адданае сяброўства, бескарыслівасць, кемлівасць[1] і адмаўляюцца няўдзячнасць, сквапнасць, баязлівасць, нахабства, лянота і іншыя людскія заганы.

У бытавых казках асуджаюцца жорсткасць, прагнасць, хцівасць[2], здрадніцтва, высмейваюцца скнары[3], гультаі і абібокі[4]. Героі бытавых казак — простыя людзі, яны не валодаюць звышнатуральнай сілай, але перамагаюць ворагаў сваім розумам, мудрасцю, знаходлівасцю. І дзейнічаюць яны ў звычайных жыццёвых абставінах.

Многія бытавыя казкі — гумарыстычныя, жартоўныя творы.

Чарадзейныя казкі — гэта завершаныя фантастычныя гісторыі, у іх прысутнічаюць не толькі незвычайныя героі (багатыры, казачныя асілкі, волаты), але часам і звычайныя людзі, смелыя, кемлівыя, працавітыя, ім дапамагаюць добрыя чараўнікі і сілы прыроды, а таксама цудадзейныя прадметы: кілім-самалёт, жывая вада і інш. Героі казак змагаюцца са злом і несправядлівасцю і заўсёды выходзяць пераможцамі. Ім супрацьстаяць пачварныя істоты, надзеленыя звышнатуральнымі здольнасцямі і магчымасцямі: шматгаловы Змей,

---

[1] *Ке́млівасць (ке́мнасць)* — здагадлівасць, востры розум.

[2] *Хці́васць* — скупасць, сквапнасць, карыслівасць.

[3] *Скна́ра* — вельмі скупы чалавек.

[4] *Абібо́к* — гультай, лайдак.

Паганы Цмок, Кашчэй Бессмяротны, Баба-яга, злыя чарадзеі. У абмалёўцы казачных вобразаў звычайна выкарыстоўваюцца элементы перабольшвання.

Народныя казкі маюць своеасаблівую і дасканалую будову. Часта яны пачынаюцца традыцыйнымі рыфмаванымі *зачынамі*: «Даўно гэта было ці нядаўна, так ці не так — цяпер ужо, напэўна, ніхто не ведае», «У якім-тось краю жылі людзі, нібы ў раю, гаравалі, працавалі дый бяды не зналі», «Было яно ці не было, праўда ці няпраўда — паслухаем лепш, што казка кажа». Звычайна казкі маюць і *канцоўку*: «Я там быў, мёд-піва піў, па барадзе цякло, а ў роце не было», «Вам казка, а мне абаранкаў вязка», «Далі мне пірог, я — за парог», «Тут і казцы канец, а хто слухаў — маладзец». Характэрныя для казак *трохразовыя паўторы дзеяння*. Адметная і *мова* народных казак — лаканічная, простая, зразумелая, надзвычай вобразная, таму чытачы без цяжкасці могуць уявіць усіх персанажаў апісаных падзей і абставіны іх дзеяння.

Казкі ствараюцца і ў наш час. Іх старанна збіраюць і занатоўваюць, каб і нашы нашчадкі ведалі сваю духоўную спадчыну. Беларускія народныя казкі — нацыянальнае багацце і гонар, імі захапляюцца не толькі нашы суайчыннікі, але і чытачы розных краін свету.

? **1.** Калі і як узніклі народныя казкі? Што каштоўнае знаходзяць у іх людзі?

**2.** Прыгадайце свае любімыя фальклорныя казкі. Чым яны вас прываблiваюць?

3. Што агульнае ў народных казках, чым яны адрозніваюцца? Якія віды казак вы ведаеце?
4. Пра што звычайна распавядаюць чарадзейныя казкі? Якія героі дзейнічаюць у іх?
5. Назавіце асноўныя асаблівасці бытавых казак. Што ў іх асуджаецца, якія чалавечыя якасці ўслаўляюцца? Чым бытавыя казкі адрозніваюцца ад чарадзейных?
6. Вызначце адметныя ўласцівасці казак пра жывёл. Каго нагадваюць іх героі?
7. Успомніце традыцыйныя прыёмы, што ўжываюцца ў народных казках. Прывядзіце канкрэтныя прыклады.
8. Раскажыце сваю любімую фальклорную казку. Намалюйце да яе ілюстрацыі і выкарыстайце іх у сваім пераказе.

## Разумная дачка

Жыў адзін бедны чалавек з жонкаю. Нарадзілася ў іх дачка. Прыйшлося спраўляць радзіны. А ў чалавека таго ні хлеба, ні да хлеба. Чым гасцей частаваць?

Пайшоў бядняк на рэчку па ваду. Аж бачыць — ляжыць у кустах цялушка. Ды такая слабая, лядашчая[1], што сама і не ўстане.

Прынёс ён цялушачку дахаты і кажа жонцы:

— Давай зарэжам яе: будзе чым гасцей частаваць.

Спадабалася жонцы цялушачка — такая рыжэ́нькая ды лысе́нькая.

---

[1] *Ляда́шчы* — кволы, слабы, хілы.

— Не, — адказвае яна, — хай лепш гадуецца.

Дык жа яна зусім кволенькая[1]. Яе, відаць, нехта знарок выкінуў, каб у хляве не здохла.

— Нічога, можа, як і выгадуем. Падрасце дачка — будзе ёй малако.

Паслухаў чалавек жонку, і пачалі яны гадаваць цялушачку.

Акрыяла[2] тая, расце як на дражджах. І дачка таксама расце як на дражджах. Ды такая разумніца ўдалася, кемлівая.

Вырасла з лысенькай цялушкі слаўная карова. Пачала яе дзяўчынка ў поле ганяць.

Загледзеўся аднойчы багаты сусед на карову бедняка.

— Дзе ты яе ўзяў? — пытаецца.

Бядняк і расказаў яму ўсё як было.

— Эге, — кажа багацей, — дык гэта ж мая цялушка! Я выкінуў яе — не думаў, што яна на ногі ўстане. А калі так — забяру сваю карову назад...

Зажурыўся[3] бедны чалавек.

— Я ж яе гадаваў, — кажа. — І яна цяпер мая.

Не згаджаецца багаты:

— Не аддасі па-добраму — пойдзем да пана на суд.

Што рабіць? Пайшлі да пана на суд.

Багаты падаў пану руку, прывітаўся: вядома, багаты з багатым свае людзі.

— Садзіцеся, — кажа яму пан.

---

[1] *Кво́ленькі* (ад *кво́лы*) — слабы, хваравіты.

[2] *Акрыя́ць* — набрацца сіл, прыйсці ў ранейшы нармальны стан пасля хваробы, якога-небудзь бедства; ачуняць.

[3] *Зажуры́цца* — засумаваць, замаркоціцца.

Багаты сеў у крэсла, а бедны стаіць ля парога, шапку зняўшы. Пан на яго нават не глядзіць.

— Ну, што добрага скажаш? — пытаецца пан у багатага.

— Ды вось, пане, якая справа, — пачаў скардзіцца багаты. — Сем гадоў таму гэты чалавек забраў маю цялушку і цяпер не аддае.

Выслухаў пан і бедняка. А потым і кажа ім:

— Добра. Суд мой будзе такі. Загадаю я вам тры загадкі: «Што на свеце сыцей[1] за ўсё?», «Што на свеце саладзей за ўсё?», «Што на свеце шпарчэй за ўсё?». Хто адгадае, таму і карова дастанецца. А цяпер ідзіце дахаты, падумайце. Заўтра прыйдзеце з адгадкамі.

Вярнуўся бедны чалавек дахаты, сеў і плача.

— Чаго ты, тата, плачаш? — пытаецца дачка.

— Ды так і так, — адказвае бацька. — Хоча багаты сусед адабраць у нас карову. Пайшлі мы з ім да пана на суд. А той загадаў нам тры загадкі. Хто з нас адгадае, таму і карова дастанецца. Дзе ж мне адгадаць тыя загадкі!

— А якія, тата, загадкі? — пытаецца дачка.

Бацька сказаў.

— Нічога, тата, не турбуйся, — кажа дачка. — Кладзіся спаць. Раніца за вечар мудрэйшая: заўтра што-небудзь прыдумаем.

А багаты прыйшоў дадому і радуецца:

— Ну, баба, карова будзе наша! Трэба нам з табою толькі адгадаць тры загадкі: што на свеце сыцей за ўсё, што саладзей за ўсё і што шпарчэй за ўсё?

---

[1] *Сыце́й* (ад *сы́ты*) — тлусцей, таўсцей.

— Вось дзіва! — усміхнулася жонка. — Тут і адгадваць няма чаго. Сыцей за нашага рабога парсюка нікога на свеце няма. Саладзей за ліпавы мёд ад нашых пчол таксама нічога няма. А шпарчэй за нашага гнедага[1] жарабца ніхто не зможа бегчы: ён жа як памчыцца, дык і вецер не дагоніць!

— Праўда, — згадзіўся багацей, — так я і скажу пану.

Назаўтра прыходзяць бедны з багатым да пана.

— Ну што, адгадалі мае загадкі? — пытаецца пан.

Багаты выйшаў наперад:

— Ды тут і адгадваць няма чаго: нікога на свеце няма сыцей за майго рабога парсючка, саладзей за ліпавы мёд ад маіх пчол і шпарчэй за майго гнедага жарабца.

— А ты, — пытаецца пан у бедняка, — адгадаў?

— Адгадаў, пане: няма нічога сыцей за зямлю, бо яна ўсіх корміць; няма нічога саладзей за сон, бо хоць якое гора, а заснеш, дык і забудзешся; няма нічога шпарчэй за людскія думкі, бо сам ты яшчэ тут, а думкі ўжо далёка-далёка.

Правільна адгадаў бядняк! Прыйшлося пану прысудзіць яму карову.

— Хто гэта цябе навучыў адгадваць мае загадкі? — пытаецца пан у бедняка.

— Мая дачка-сямігодка.

---

[1] *Гне́ды (гняды́)* — чырвона-рыжы з чорнымі хвастом і грывай (пра масць каня).

Здзівіўся пан: не можа таго быць, каб такая малая беднякова дачка адгадала яго загадкі! Захацелася яму паглядзець на разумную дзяўчынку. Прыехаў ён аднойчы да бедняка, а той якраз з жонкаю ў полі быў.

Сустрэла пана беднякова дачка-сямігодка.

— Дзяўчынка, — пытаецца пан, — да чаго мне коней прывязаць?

Паглядзела дзяўчынка на сані і калёсы, што стаялі на двары, і кажа:

— Можаш да зімы прывязаць, а можаш і да лета.

Пан і вочы вылупіў: як гэта можна коней прывязаць да зімы або да лета? Смяецца, відаць, з яго гэтае дзяўчо!

— Ну, хоць да саней прывяжы, а хоць да калёс, — растлумачыла дзяўчынка.

Бачыць пан, што беднякова дачка сапраўды надта разумная. Нават дарослы да такога не дадумаецца.

Пагаварыў пан з дзяўчынкай і паехаў, а ёй сказаў, каб бацька да яго прыйшоў.

Увечары пайшоў бядняк да пана.

— Сапраўды, — кажа пан, — разумная твая дачка. Але я ўсё ж разумнейшы.

Даў пан бедняку рэшата[1] яек.

— На, — кажа, — занясі дачцэ і скажы, каб яна пасадзіла на іх квактуху ды вывела мне да заўтра куранят на снеданне. А не зробіць гэтага — загадаю бізуноў даць.

---

[1] *Рэ́шата* — лёгкая пасудзіна ў выглядзе высокага драўлянага абруча з донцам-сеткай (для прасейвання мукі).

Прыйшоў бядняк дахаты засмучаны. Сеў на лаву і плача.

— Чаго ты, тата, плачаш? — пытаецца дачка.

— Ды вось, дачушка, бяда якая: загадаў табе пан новую загадку.

— Якую?

Бацька паказаў на рэшата з яйкамі:

— Сказаў, каб ты на гэтыя яйкі квактуху пасадзіла і вывела куранят да заўтра яму на снеданне. Хіба ж гэта можна зрабіць?

Дачка падумала і кажа:

— Нічога, тата. Заўтра што-небудзь прыдумаем. А пакуль што бяры, мама, гэтыя яйкі, пячы яечню на вячэру.

Раніцай дачка гаворыць бацьку:

— На табе, тата, гаршчок, ідзі да пана. Скажы, каб ён за дзень хмызняк высек, выкарчаваў і ўзараў, проса пасеяў, зжаў ды ў гэты гаршчок насыпаў — куранят карміць.

Пайшоў бацька да пана, падаў яму пусты гаршчок і сказаў усё, як дачка загадала. Пан падкруціў ву́сы, паморшчыўся і кажа:

— Разумная твая дачка, ды я ўсё ж разумнейшы.

Узяў ён тры сцяблінкі льну, падаў бедняку:

— Скажы дачцэ, каб яна да заўтра лён сцерла, спрала, выткала і пашыла мне з яго кашулю.

Вярнуўся бацька дахаты засмучаны. Дачка пытаецца:

— Што сказаў табе пан?

Падаў бацька ёй тры сцяблінкі льну і расказаў, што пан загадаў.

— Нічога, — адказвае дачка, — кладзіся, тата, спаць: заўтра што-небудзь прыдумаем.

Назаўтра дае дачка бацьку тры кляновыя дубчыкі і кажа:

— Занясі пану і папрасі, няхай ён іх пасадзіць, за адну ноч вырасціць і зробіць варштат[1] для кросен, каб было на чым палатно яму для кашулі выткаць.

Пайшоў бядняк да пана, падаў тры дубчыкі і сказаў, як дачка навучыла.

Пачырванеў пан і кажа:

— Разумная твая дачка — нічога не скажаш. Ды я ўсё ж разумнейшы! Перадай ёй, каб яна да мяне не пехатою прыйшла, не на кані прыехала, не голая і не адзетая, і каб падарунак мне прынесла, а я каб не мог яго прыняць. Калі зробіць усё гэта, то вазьму яе за дачку — вырасце, пані будзе! А не зробіць — дрэнна ёй будзе...

Вярнуўся бацька яшчэ больш засмучаны.

— Ну што табе, тата, пан сказаў? — пытаецца дачка.

— Ды вось, дачушка, нарабіла ты сваімі адгадкамі бяды і нам і сабе...

І расказаў пра новае заданне пана.

Дачка засмяялася:

— Нічога, тата. Як-небудзь перахітрым пана і на гэты раз. Злаві ты мне толькі жывога зайца.

Пайшоў бацька ў лес, паставіў сілок і злавіў зайца.

---

[1] *Варшта́т* — стан, каркас пад ручны ткацкі станок — кросны.

Дачка закруцілася ў рыбацкую сетку замест сукенкі, села на кіёк і паехала з зайцам да пана.

Пан стаіць на ганку і дзівіцца — зноў перахітрыла яго беднякова дачка! Узлаваўся ён і нацкаваў[1] на яе сабак — думаў, што тыя разарвуць разумніцу. Дзяўчынка выпусціла з рук зайца — сабакі і памчаліся за ім. Падышла яна да пана.

— Лаві, — кажа, — свой падарунак: вунь у лес пабег...

Прыйшлося пану ўзяць разумную дзяўчынку за дачку.

Паехаў неўзабаве пан за мяжу, а дзяўчынцы сказаў:

— Глядзі ж, каб ты тут без мяне не судзіла маіх людзей, бо дрэнна табе будзе.

Засталася дзяўчынка адна ў маёнтку[2].

Здарылася ў гэты час такая справа. Пайшлі два дзядзькі на кірмаш. Адзін купіў калёсы, другі — кабылу. Запрэглі кабылу ў калёсы і паехалі дамоў. Па дарозе спыніліся адпачыць. Ляглі і паснулі. А як прачнуліся, бачаць — бегае ля калёс малое жарабятка. Дзядзькі заспрачаліся.

Той, чые калёсы былі, кажа: «Жарабя маё — гэта мае калёсы ажарабіліся!» А той, чыя кабыла, сваё даводзіць: «Не, жарабя маё — гэта мая кабыла ажарабілася!»

Спрачаліся-спрачаліся і вырашылі ехаць да пана на суд.

Прыехалі, а пана няма дома.

---

[1] *Нацкава́ць* — падахвоціць да нападу, натравіць.

[2] *Маёнтак* — зямельнае ўладанне памешчыка (пана).

— Рассудзі хоць ты нас, — просяць дзядзькі прыёмную дачку пана.

Даведалася дзяўчынка, што ў іх за справа, і кажа:

— Няхай той з вас, чыя кабыла, выпража яе з калёс ды вядзе ў адзін бок, а той, чые калёсы, няхай цягне іх на сабе ў другі бок. За кім жарабя пабяжыць, той яго і гаспадар.

Дзядзькі так і зрабілі. Жарабя пабегла за кабылаю. На гэтым спрэчка ў іх скончылася.

Вярнуўся пан з-за мяжы і дачуўся, што прыёмная дачка без яго суд учыніла. Узлаваўся, нарабіў крыку:

— Што ж ты не паслухала мяне? Бяры сабе з маёнтка, што пажадаеш, ды ідзі дахаты, каб я цябе больш не бачыў!

— Добра, — кажа дзяўчынка. — Але мне хочацца на адыход цябе віном пачаставаць.

— Частуй, — буркнуў пан. — Толькі хутчэй.

Напаіла дзяўчынка пана віном, ён і заснуў. Загадала тады яна слугам запрэгчы каня і палажыць пана ў карэту, села сама і павезла яго дахаты. Дома з бацькам выцягнулі пана з карэты, перанеслі ў сенцы ды паклалі на салому.

— Вось табе, — кажа, — пасцель замест пярынаў. Ачухайся тут.

Прачнуўся назаўтра пан і дзівіцца: дзе ж гэта ён? Убачыў сваю прыёмную дачку, якую прагнаў, і пытае:

— Чаму я тут, у мужыцкай хаце, ляжу?

— Сам так захацеў, — смяецца дзяўчынка. — Ты сказаў мне: «Бяры сабе з маёнтка ўсё, што па-

жадаеш, ды ідзі дахаты». Я і ўзяла цябе. Уставай ды ідзі замест бацькі паншчыну[1] адбываць. Ты мужык дужы, работнік з цябе будзе нядрэнны.

Пачуў гэта пан, усхапіўся на ногі і так драпануў[2], што толькі яго і бачылі. Нават ад коней з карэтаю адрокся.

?

1. Як апісваецца разумная дачка ў казцы? У якія складаныя жыццёвыя сітуацыі яна трапляе, як іх вырашае? Дакажыце, што гэта дзяўчына надзвычай кемлівая, дасціпная[3].
2. Якія іншыя героі дзейнічаюць у казцы? Што можна сказаць пра іх чалавечыя якасці?
3. Хто з казачных персанажаў выклікае ў вас сімпатыю, каму вы спачуваеце? Што асуджаецца ў казцы?
4. Да якога віду казак вы аднеслі б гэты твор? Абгрунтуйце свае меркаванні.
5. Прачытайце казку па асобах. Падрыхтуйце інсцэніроўку аднаго-двух эпізодаў казкі. (Вызначце дыялогі, падбярыце выканаўцаў, прадумайце іх інтанацыі, жэсты, міміку, позы, касцюмы, а таксама мізансцэны[4] самадзейнага спектакля.)

---

[1] *Па́ншчына* — абавязковая прымусовая праца на пана.

[2] *Драпану́ць* — хутка ўцячы.

[3] *Дасці́пны* — тут: той, хто вызначаецца вострым розумам, незвычайным уменнем ярка (смешна або з’едліва) выказаць думку.

[4] *Мізансцэ́на* — размяшчэнне дзейных асоб і дэкарацый на сцэне ў розныя моманты спектакля.

## Залаты птах

Былі ў аднаго чалавека тры сыны: два разумныя, а трэці — дурны.

Старэйшы сын, Сцяпан, умеў на скрыпцы іграць, сярэдні, Пiлiп, — на дудцы, а меншы, Іван, ні да чаго спрыту не меў: сядзеў у запечку ды лучынкі[1] стругаў.

Вырасла ў таго чалавека ў садзе яблынька, а на ёй — залатыя яблыкі. Цешыцца бацька з яблыкаў, і сыны цешацца. Кожную раніцу ў сад ходзяць глядзець, ці цэлыя.

Праверылі гэтак аднаго разу — не хапае яблыка! І на другую раніцу не далічыліся аднаго яблыка...

Засумаваў бацька. «Відаць, — думае, — нейкі злодзей панадзіўся ў сад цягацца». Кажа ён старэйшаму сыну, Сцяпану:

— Ідзі ты, сынку, пільнаваць яблыкі.

Прыставіў увечары Сцяпан да яблыні драбіны[2], залез на іх, сядзіць ды на скрыпцы іграе. Усю ноч іграў, а пад дзень дужа спаць захацелася, — ён і задрамаў. Раптам праз сон чуе: нешта над галавою моцна зашумела, залопала. Прахапіўся Сцяпан, працёр вочы — нідзе нікога няма, толькі аднаго яблыка не хапае...

Вярнуўся ён да бацькі маркотны[3].

---

[1] *Лучы́нка* — тонкая і доўгая сухая шчэпачка, якімі даўней асвятлялі сялянскія хаты.

[2] *Драбі́ны* — прыстаўная лесвіца.

[3] *Марко́тны* — сумны, тужлівы, журботны (ад *марко́та* — туга, сум).

— Не ўпільнаваў, — кажа, — злодзея: зноў адзін яблык сарваў...

На другую ноч сярэдні сын, Піліп, кажа:

— Пайду я пільнаваць. Быць таго не можа, каб не ўпільнаваў!

Пайшоў ён, прымасціўся на драбінах ды выцінае[1] сабе на дудцы розныя полечкі. Усю ноч іграў, а пад дзень дужа спаць захацелася — ён і задрамаў. Раптам праз сон чуе: нешта над галавою моцна зашумела, залопала. Пакуль прачнуўся — зноў аднаго яблыка няма!

Брыдка яму ў хату ісці, ды што зробіш: не дапільнаваў злодзея.

На трэці дзень меншы сын, Іван, кажа:

— Дрэнныя з вас, браты, вартаўнікі. Вось я пайду, то на чым ні стане, а прыпільную злодзея.

Усе толькі пасмяяліся з яго гаворкі: ат, вядома, — дурань!

Набраў Іван цэлы жмут лучынак і пайшоў на варту. Сядзіць на драбінах, стругае лучынкі ды песенькі пад нос сабе мармыча.

Пачало на дзень займацца. Чуе Іван — нешта здалёку зашумела. Стаіўся ён, углядаецца. Аж бачыць — ляціць да яблыні вялікі залаты птах. Падляцеў блізка і хацеў яблык схапіць, а Іван злаўчыўся ды цап яго за доўгі хвост!

Вырваўся птах і паляцеў без яблыка. Глядзіць Іван, аж у яго руцэ тры залатыя пяры засталіся.

Прыбег ён у хату, пабудзіў усіх.

---

[1] *Выціна́ць* — тут: выводзіць мелодыю, старанна іграць (на музычным інструменце).

— Глядзіце, — кажа, — я злодзея дапільнаваў і тры залатыя пяры ў яго з хваста вырваў...

Паглядзелі браты і пачырванелі ад сораму, што не яны, а дурань славы даказаў. Узяла іх зайздрасць.

— Добра ж, — кажа старэйшы брат, — паеду я ў свет залатога птаха шукаць.

Узяў ён адно пяро для прыметы, набраў харчоў, грошай на дарогу ды паехаў.

Мінула, можа, з паўгода, а ні Сцяпана, ні птаха няма. Тады сярэдні брат кажа да бацькі:

— Паеду хіба я шукаць залатога птаха. Можа, заадно і брата знайду.

Набраў і ён усялякіх прыпасаў на дарогу ды паехаў.

Мінуў цэлы год, а ні братоў, ні птаха і слыхам не чуваць.

Бядуе бацька, а Іван стругае лучынкі ў запечку ды мармыча сабе пад нос:

— Трэба, мусіць, мне самому ў дарогу выбірацца.

Падумаў бацька ды і не стаў яму пярэчыць.

Нічога не ўзяў Іван з сабою: ні грошай, ні хлеба. Толькі ўзяў трэцяе пяро, кій у рукі і ножыксцізорык, той, якім лучынкі стругаў. І пайшоў пехатою залатога птаха шукаць.

Ідзе ён, ідзе, а ўжо і вечарэць пачынае. Чуе ён воўчы голас недалёка.

Пайшоў на той голас. Бачыць — сядзіць у глыбокай яме старая ваўчыха.

— Ты чаго тут выеш? — пытаецца Іван у ваўчыхі.

— Ды вось бяда якая, — адказвае ваўчыха, — бегла на паляванне, а трапіла ў яму... Памажы мне, добры чалавек, выбрацца адсюль. Я табе чым хочаш адплачу.

Іван кажа:

— Ты, старая ваўчыха, усюды гайсаеш[1], усюды бываеш: ці не скажаш мне, дзе жыве залаты птах? Калі скажаш, то вызвалю цябе з ямы.

— І скажу табе, і нават завяду да яго, — просіцца ваўчыха.

— А не падманіш?

— Не.

— Ну, то глядзі.

Прынёс Іван дзве жардзіны сукаватыя, апусціў у яму. Выскачыла ваўчыха па жэрдках наверх і кажа Івану:

— Дзякую за ратунак. А цяпер сядай на мяне, я цябе хутчэй завязу туды, чым ты сам дойдзеш.

Сеў Іван на ваўчыху, тая і паджгала[2], не разбіраючы дарогі: па палях, па лясах, па балотных кустах. Іван толькі за вушы трымаецца, каб не зваліцца.

Прымчалася ваўчыха да мора. Спынілася і кажа Івану:

— Пасядзі тут крыху, а я пабягу дзе гуску пашукаю. Трэба табе добра падсілкавацца, каб дужы быў, бо вялікая работа цябе чакае.

Сеў Іван на беразе мора, пачаў на хвалі глядзець. Шумяць яны, гайдаюцца. Цікава! Глядзеў,

---

[1] *Гайса́ць (го́йсаць)* — хутка і мітусліва рухацца, бегаць (у пошуках чаго-небудзь).

[2] *Паджга́ць (джгаць)* — хутка ісці або бегчы.

глядзеў ды і заснуў. Ці доўга ён спаў ці коратка, аж прыбягае ваўчыха з гускаю. Пабудзіла яго. Расклалі яны агонь, спяклі гуску. Наеўся Іван.

— Вось добра, — кажа, — і выспаўся і паабедаў. Цяпер ніякая дарога не страшная.

— А зараз, — кажа ваўчыха, — сядай зноў на мяне. Паплывём за мора.

Пераплылі мора. Бачыць Іван — стаіць на беразе мора залаты палац.

Ваўчыха кажа:

— Ідзі ў гэты палац. Толькі паціхусеньку, памалюсеньку, каб нідзе і не шархнуў[1], бо гэта зачараваны палац: усё ў ім спіць. Але калі ты неасцярожна дакранешся да чаго, то ўсё абудзіцца, і тады жывым табе адтуль не выбрацца. Як увойдзеш у браму, убачыш там двух сабак. Яны на жалезных ланцугах да слупоў прыкутыя. Глядзі ж, не пабудзі іх, бо як забрэшуць яны, то ўвесь палац на ногі ўзнімуць. Мінеш гэтак браму, увойдзеш у першы пакой. Там вісіць меч бразгучы. Ён залаты, дарагімі камянямі аздоблены[2]. Але ты яго не чапай, бо ён пачне бразджаць і ўсіх пабудзіць. Увойдзеш у другі пакой, там вісіць гадзіннік пявучы, і яго не чапай, а ідзі проста ў трэці пакой: у ім убачыш залатую клетку, а ў той клетцы і сядзіць залаты птах. Вымі яго асцярожна з клеткі і сам варочайся да мяне.

Пайшоў Іван у зачараваны палац. Мінуў браму з сабакамі, увайшоў у першы пакой, у другі. Бачыць — розных майстроў тут безліч: і сталяры,

---

[1] *Ша́рхаць (шо́рхаць)* — глуха шумець.
[2] *Аздо́блены* — упрыгожаны.

і слесары, і муляры[1]. А каля іх варта з шаблямі ды стрэльбамі. І дзе хто што рабіў, там і заснуў. Падзівіўся Іван на іх ды пайшоў далей, у трэці пакой.

Вось перад ім і залатая клетка вісіць, а ў ёй залаты птах сядзіць. Як убачыў Іван птаха-злодзея, дык і на перасцярогу забыўся. Схапіў клетку, сарваў са сцяны. І тут такі звон пайшоў... Напалохаўся Іван ды назад. У другім пакоі зачапіўся знячэўку[2] за залаты гадзіннік.

Той давай спяваць, на ўсе лады выцінаць. Пабег Іван далей. Ускочыў у першы пакой, схапіў меч — вельмі ж ён прыгожы быў! А меч як забразджыць... Усё ў зачараваным палацы абудзілася. Усе кінуліся за Іванам. Ды Іван не драмаў — як страла праляцеў каля сабак і выскачыў з палаца.

Бачыць ваўчыха — бяда: Іван імчыцца на ўвесь дух, а за ім цэлая пагоня. Падскочыла да яго ваўчыха.

— Сядай, — кажа, — на мяне хутчэй!

Сеў Іван, а ваўчыха — у мора і паплыла. Пераплыў Іван мора і просіць ваўчыху:

— Скажы, дзе мае браты. Я не магу без іх дадому вярнуцца.

— Эх, — уздыхнула ваўчыха, — не шукай ты лепш братоў, бо яны цябе са свету звядуць.

— Не звядуць, — адказвае Іван.

---

[1] *Му́ляр* — рабочы, які будуе што-небудзь з каменю або цэглы; будаўнік.

[2] *Знячэ́ўку* — нечакана, неспадзявана, знянацку, раптоўна.

— Ну, калі ты такі смелы, то ідзі на каралеўскі двор, — там твае браты ў астрозе[1] сядзяць. Толькі глядзі, сцеражыся іх... Яны табе дабра не жадаюць.

Развітаўся Іван з ваўчыхай, падзякаваў ёй і падаўся на каралеўскі двор.

Прыйшоў да караля, прывітаўся.

— Што скажаш? — пытаецца кароль.

— Выпусці маіх братоў, — кажа Іван. — Навошта ты іх у астрозе трымаеш?

Кароль кажа:

— Не выпушчу. Твае браты хацелі лепшых маіх коней пакрасці.

Іван і так і сяк просіць — не згаджаецца кароль.

— Дык я выкуплю іх.

— Чым жа ты выкупіш?

Дастаў Іван з-пад світкі залаты меч:

— Вось табе выкуп.

Паглядзеў кароль на меч — спадабаўся: такога ў яго няма!

— Ну, добра, — згадзіўся кароль, — забірай сваіх братоў. Толькі больш не пускай іх у маё каралеўства.

Забраў Іван братоў, расказаў ім, як дастаў залатога птаха, і пайшлі ўсе разам дахаты.

Прыйшлі яны ў цёмны лес, браты забілі Івана, а самі забралі залатога птаха ды пабеглі дамоў.

Шмат часу мінула ці не, здарылася трапіць у той лес ваўчысе. Чуе яна — дзесьці чалавек блізка. Пабегла ў той бок і ўбачыла забітага Івана.

---

[1] *Астро́г* — турма.

— Вось, — бядуе ваўчыха, — як ты мяне паслухаў! А я ж табе казала, я ж цябе навучала: асцерагайся ліхіх братоў!

Пабегла ваўчыха на высокую гару, дастала пляшачку[1] жывой вады. Вярнулася і ажывіла Івана. Устаў ён, пацягнуўся:

— Ох, як жа я доўга спаў!

— Спаць бы табе тут век-векам, каб не я, — кажа ваўчыха.

— А дзе ж мае браты? — пытаецца Іван.

— Дома. Спяшайся хутчэй і ты дадому. Там твой бацька з радасці, што браты вярнуліся і залатога птаха прынеслі, бяседу ладзіць[2]. З'язджаюцца да яго нават паны і каралі на дзіва глядзець. Але бацька цяпер цябе не пазнае, бо ты змяніўся ад жывой вады. Дык ты, як прыйдзеш дахаты, папрасіся да кухара за памочніка. А як зварыцца страва, то ўпусці ў яе па кропельцы жывой вады.

Навучыла ваўчыха Івана, што яму рабіць, і пабегла.

Вярнуўся Іван дадому. А там і праўда госці збіраюцца. Кухар аж разрываецца адзін — шмат розных страў трэба наварыць ды напячы для гасцей. Падышоў Іван да кухара:

— Давай я табе памагаць буду.

— Добра, — згадзіўся кухар, — памагай, бо мне аднаму не ўправіцца.

Узяўся Іван памагаць. А потым і кажа кухару:

---

[1] *Пля́шачка (пля́шка)* — бутэлька.
[2] *Ла́дзіць бясе́ду* — збіраць гасцей і частаваць іх.

— Ты, дзядзька, стары, змарыўся, адпачні, а я ўжо сам усё скончу.

Бачыць кухар, што памочнік яго добра стараецца, і лёг адпачыць.

Згатаваў Іван абед, уліў у кожную страву па кроплі жывой вады і пабудзіў кухара. Той панёс абед да сталоў.

Бяседнікі ядуць і стравы хваляць — вельмі ж усё смачна згатавана!

Пасля абеду кліча гаспадар кухара, дае яму гасцінец і дзякуе за смачныя стравы. Кухар кажа:

— Гэта ж тут адзін хлопец у мяне за памочніка быў, дык ён і навары ў такіх смачных страў. Сам я гатаваць гэтак не ўмею.

Гаспадар кажа.

— Дык пакліч яго да мяне, трэба і яму падзякаваць.

Паклікалі Івана. Гаспадар пытаецца:

— Дзе ты навучыўся такія смачныя стравы варыць?

— Бяда ўсяму навучыць, — адказвае Іван.

— Якая ж у цябе, хлопча, бяда?

Іван і расказаў пра тое, як ён залатога птаха дастаў, як братоў у караля выкупіў і як яны яго забілі, а добраяваўчыха ажывіла.

Стаяць браты моўчкі, белыя як палатно, а бацька пытаецца:

— Дык гэта ж ты, мусіць, мой меншы сын Іван?

— Але, — кажа Іван. — Я птаха дастаў і слова стрымаў, а яны — браты мае разумныя — ліхадзеі!

Выгнаў бацька старэйшых сыноў з дому, а з Іванам і цяпер жыве.

1. Каму з казачных герояў вы спачуваеце? Каго і за што асуджаеце?
2. Чаму старэйшыя браты, нібыта разумныя і старанныя, не змаглі знайсці залатога птаха?
3. Раскажыце, як Івану пашчасціла выканаць волю бацькі і адшукаць чароўную птушку?
4. Чым браты адплацілі Івану?
5. Якія чалавечыя заганы выкрывае казка?
6. Складзіце план казкі і падрыхтуйцеся да яе пераказу. Пастарайцеся захаваць усе адметнасці казачнага апавядання: паўторы аднолькавых ці блізкіх па значэнні слоў *(ідзе ён, ідзе; глядзеў, глядзеў ды і заснуў; ці доўга... ці коратка; ідзі паціхусеньку, памалюсеньку; і так і сяк просіць; спаць бы табе век-векам)*; казачную лексіку *(былі ў аднаго чалавека тры сыны; бачыць — бяда; прыйшлі яны ў цёмны лес; шмат часу мінула; бяда ўсяму навучыць)*.
7. Намалюйце да асобных эпізодаў казкі ілюстрацыі, падбярыце да іх радкі з тэксту.

## Музыкі

Жылі-былі асёл, сабака, кот і певень. Калі яны пастарэлі, гаспадары павыганялі іх з двароў. Неяк раз уночы сышліся ў лесе гэтыя бяздомныя. Пазнаёміліся, пачалі думаць, як на свеце ім жыць, чым займацца. Самы разважлівы з іх, асёл, унёс прапанову:

— Давайце паспрабуем стаць музыкамі.

Усім спадабалася такая прапанова, бо кожны з іх у душы лічыў сябе артыстам. І сапраўды: пе-

вень — спявае змалку, кот таксама. Сабака не толькі гаўкае, але і выць умее. Асёл наогул лічыў, што з ягоным голасам можна на любой сцэне выступаць.

Зборы былі нядоўгімі, і хутка музыкі рушылі ў дарогу.

Асёл ішоў паперадзе, сабака за аслом, кот за сабакам, певень за катом.

Ідуць яны, аж бачаць — далёка ў лесе хатка стаіць. Спыніўся асёл.

— Давайце заспяваем, — кажа ён. — Толькі голасу не шкадуйце. Няхай усе ведаюць пра наш ансамбль.

— І-і-і! — узяў самую высокую ноту асёл.

— Ку-ка-рэ-ку! — падхапіў певень і захлопаў крыламі.

— Гаў-гаў-гаў! — забрахаў што ёсць моцы сабака.

— Мяў-мяў-мяў! — енчыў кот.

Ніколі не чулі лясныя насельнікі такога канцэрта. Забіліся ў непраходныя нетры[1] дзікі і ласі, ваўкі і мядзведзі. Схаваліся ў дуплах вавёркі. Прыцiхлі ў норках мышы. Шуганулі з дрэў птушкі.

Перапалоханыя да смерці разбойнікі (а гэта яны жылі ў хаціне) выскаквалі праз вокны і дзверы і беглі куды вочы глядзяць.

Захапіўшыся спевамі, артысты не заўважылі гэтага.

— Канцэрт прайшоў на славу, — зазначыў асёл. — Можна зараз і адпачыць.

---

[1] *Не́тры* — тут: глухое, дзікае, бязлюднае месца.

Адчыніў ён дзверы, і музыканты ўвайшлі ў хатку. А там яды і рознага дабра не злічыць! Наеліся, напіліся артысты і пачалі нанач уладкоўвацца.

— Я заўсёды на сметніку сплю і сёння там лягу, — сказаў асёл.

— А я каля дзвярэй лягу, — азваўся сабака.

— Мне будзе зручней спаць на прыпечку, — падаў голас кот.

— Уладкуюся на жэрдачцы пад страхой, — прамовіў пеўнік.

Размясціліся сябры і паснулі. А тым часам разбойнікі ў лесе стаіліся і разважаюць, хто ж гэта іх так перапалохаў і што сталася з хацінаю. Пасылаюць аднаго разбойніка ў разведку.

— Ідзі, — кажуць, — праведай, што там робіцца.

Падыходзіць ён да хаткі. Ціха, нічога не чуваць. Заходзіць унутр — цёмна. Дастаў разбойнік з печы смалячок, ідзе да прыпечка, каб агонь запаліць. Аж бачыць — два вугольчыкі блішчаць. Хацеў выгарнуць іх, а кот кіпцюрамі як учэпіцца ў руку! Кінуўся разбойнік з хаты, а за ім сабака наўздагон і кусаць пачаў. А тут і певень зляцеў з жэрдачкі, ускочыў на плечы разбойніку і давай дзяўбці яго ў галаву! Разбойнік кулём за плот коціцца, прама на асла. Той як штурхане яго нагою! Небарака бразнуўся аб зямлю, падхапіўся ды бегчы ў лес. Прыбег і расказвае сваім таварышам:

— У нашай хаце нейкая невядомая сіла пасялілася! Хацеў я на прыпечку вугольчыкі раздзьмухаць, аж нехта шась мне нажом па руцэ. Кінуўся я ўцякаць, а хтось каля парога па назе шабляй аг-

рэў. Потым нейкі д'ябал з-пад страхі вылецеў ды кап'ём у галаву пачаў тыкаць. Пераскочыў я праз плот, а там нехта мяне як перацягне даўбешкай, дык я разы тры перакуліўся праз галаву. Баюся, што нас і тут не пакіне ў спакоі нячыстая сіла. Трэба ўцякаць.

Пасля гэтых слоў разбойнікі падхапіліся са сваіх месцаў і, палахліва азіраючыся па баках, назаўсёды пакінулі абжытыя мясціны. А сябры-музыкі пасяліліся ў той хатцы і сталі жыць-пажываць, бяды не ведаць.

1. Да якога віду народных казак можна аднесці гэты твор?
2. Назавіце герояў казкі. Чым адметны кожны з персанажаў?
3. Чаму сябры вырашылі стаць музыкамі? Раскажыце, як удалося героям ажыццявіць сваю мару?
4. Як трымалі сябе ў лесе разбойнікі? Чаму, на вашу думку, яны не змаглі супрацьстаяць сябрам-музыкам?
5. Прыгадайце знаёмую вам казку з падобным сюжэтам. Што яднае яе з беларускай народнай казкай «Музыкі», чым яны адрозніваюцца?

## Воўк і сабака

*(Руская народная казка)*

Худы воўк хадзіў каля вёскі і сустрэў тлустага сабаку. Воўк пытаецца ў сабакі:

— Скажы, сабака, дзе вы корм бераце?

Сабака яму гаворыць:

— Людзі нам даюць.

— Відаць, вы цяжкую людзям службу служыце?

Сабака сказаў:

— Не, наша служба не цяжкая. Работа наша — уночы двор пільнаваць.

— І толькі за гэта вас кормяць? — спытаў воўк. — Гэта ж і я хоць зараз на вашу службу пайшоў бы, а то нам, ваўкам, цяжка корм здабываць.

— Што ж, ідзі, — сказаў сабака. — Гаспадар і цябе гэтак жа карміць будзе.

Воўк зарадаваўся і пайшоў з сабакам да людзей служыць. Пачаў ужо воўк у вароты заходзіць, аж бачыць ён, што ў сабакі на шыі поўсць выцертая. Ён і пытае:

— А гэта ў цябе, сабака, чаму?

— Ды так, — сказаў сабака.

— Як гэта так?

— Ды так, ад ланцуга. Удзень жа я на ланцугу сяджу, дык вось ланцугом і выцер крыху поўсць на шыі.

— Ну, дык бывай, сабака, — сказаў воўк. — Не пайду да людзей жыць. Няхай сабе не такі тлусты буду, ды затое на волі.

1. Якая асноўная думка казкі? У якім сказе тэксту яна выражана? Ці згодныя вы з ёю? Абгрунтуйце свае меркаванні.
2. Прачытайце казку па асобах. Падбярыце адпаведную інтанацыю, каб перадаць характары герояў.

## Легенды

У духоўнай спадчыне беларусаў асобае месца займаюць легенды.

> Л е г е н д ы — фальклорныя фантастычныя апавяданні, заснаваныя на паэтызацыі гістарычных падзей і ўслаўленні народных герояў.

У легендах сцвярджаюцца высокія маральныя каштоўнасці: любоў да радзімы і гатоўнасць рашуча абараняць яе, добрасумленнае стаўленне чалавека да працы, да сваіх абавязкаў, справядлівыя і добразычлівыя адносіны паміж людзьмі. Адзнакай легенд з'яўляецца наяўнасць у іх элементаў фантастыкі: неверагодных здарэнняў, незвычайных герояў — асілкаў і волатаў — і іх дзівосных учынкаў і прыгод. Легенды дапамагаюць нам пазнаваць жыццё, яны распавядаюць пра мінулае і сучаснае: стварэнне сусвету і зямлі, паходжанне людзей і розных жывёл і птушак, узнікненне паселішчаў, рэчак і азёраў, паходжанне імёнаў і прозвішчаў. У легендах, як і ў казках, амаль заўжды існуе барацьба паміж дабром і злом, сутыкненне выключных герояў з незвычайнымі варожымі сіламі.

Існуюць легенды, пазбаўленыя фантастычнага, чарадзейнага элемента: у іх аснове ляжыць аповед пра сапраўдныя падзеі альбо тыя, што маглі адбывацца ў рэальнасці. Расказвае пра жыццёвыя з'явы і рэальных герояў звычайна сведка ці сам удзельнік падзей. Такія легенды дапамагаюць глыбей пазнаць мінулае, перадаюць стаўленне народа да розных падзей, яго ўяўленні пра гісторыю роднага краю і любоў да сваёй зямлі.

# Нарач

У гушчары старых бароў, як сляза, што ўпала з неба, блішчала вялікае возера. Вельмі прыгожае яно было. Расказы пра яго чароўнасць перадаваліся з паселішча ў паселішча і нават у далёкія краіны.

А яшчэ казалі людзі, што ў вёсцы, якая прыляпілася да аднаго з берагоў таго возера, жыла дзяўчына-сіраціна Найрыта, аднавяскоўцы звалі яе Нарай. Вочы яе блакітныя, колеру азёрнай хвалі, заўсёды весела ўсміхаліся. Залацістыя валасы тугой касою абкручвалі галаву. Голас у яе быў высокі і гучны.

Бывала, сядзе на беразе пад разлапістым[1] клёнам, дзе збіралася звычайна моладзь, на гусельках грае і спявае. Спачатку голас павольна плыве, а пасля ўзлятае высока і ляціць над узбярэжжам. У гэты час і птушкі змаўкалі. Людзі забываліся пра сваё гора.

Аднойчы, калі Нара спявала, праязджаў вёскаю пан, стары ўдавец[2]. Пачуў ён дзівосную песню і загадаў спыніць каня. Слухаў, слухаў і сказаў Нары:

— Прыгожая кветка вырасла ў дзікім краі. Табе толькі спяваць у маіх пакоях.

— Кепская з мяне будзе служанка.

— Ты будзеш гаспадыняй, жонкай маёй.

---

[1] *Разла́пісты* — які шырока раскінуў свае галіны ў розныя бакі (пра дрэва, галлё).

[2] *Удаве́ц* — чалавек, у якога памерла жонка.

Вакол Нары сядзелі на зялёнай мураве дзяўчаты і хлопцы. Адзін з іх, прыгожы чарнявы юнак, падышоў да пана.

— Гэта мая нявеста, — сказаў ён, — а пан няхай сярод паноў жонку шукае.

— Ці не сын ты таго Пятра, што бунтаваў мне народ? — успомніў пан, чырванеючы ад злосці. І залямантаваў:

— Узяць яго!

Прыслужнікі звязалі Андрэя і павезлі ў маёнтак. Больш яго ніхто не бачыў. Праз некаторы час пан зноў прыехаў да Нары даведацца, ці згодная яна прыняць з ім шлюб[1]. Дзяўчына зрабіла выгляд, што згадзілася. Тут і дамовіліся пра вяселле.

Надышоў гэты дзень. Злосны вецер гнаў цёмныя хмары, а лес спяваў жалобныя песні. Нара ехала на фурманцы[2] ў маёнтак, у руках трымала пакунак. Сустрэлі яе служанкі. Завялі ў панскія пакоі і апранулі ў шлюбнае адзенне. І Нара выйшла такой прыгажуняй, якія толькі ў казках і бываюць. Пакланілася яна пану ды папрасіла, каб перад шлюбам крышку адной пабыць у пакоях. Пан згадзіўся. Ходзіць ён па двары, на служанак пакрыквае і на дзверы паглядвае.

А Нара тым часам з пакунка дастала смаляк ды падпаліла пакоі адзін за адным. І калі шуганнуў чорны дым з вокнаў, а на даху заскакалі

---

[1] *Шлюб* — сямейны саюз мужчыны і жанчыны; *прыняць шлюб* — выйсці замуж або ажаніцца.

[2] *Фурма́нка* — падвода для перавозкі грузаў і пераезду людзей, запрэжаная коньмі.

«чырвоныя пеўні», выскачыла праз акно і на сваёй фурманцы, паганяючы каня, памчала ў вёску, на тое месца, дзе з Андрэем часта сустракала ўсход сонца, прыхілілася да клёна і горка заплакала.

Ды тут пачуўся конскі тупат. Панскія служкі! Людзей бізунамі білі. Дапытваліся, дзе Нара.

— Вунь яна! — закрычаў нехта.

— Жывую не возьмеце, — крыкнула ворагам дзяўчына і кінулася да возера.

Цёмныя хвалі з белымі баранчыкамі ішлі адна за адной, а на беразе калыхаўся човен. Той човен, у якім Нара з Андрэем не раз каталіся. Спрытна і ўмела ўхапілася яна за карму і, адштурхнуўшыся ад берага, села ў човен.

— Я адпомсціла, пан, за Андрэйку, за яго бацьку і за ўсіх, хто загінуў ад тваіх рук у тваім маёнтку, — прашаптала Нара.

Човен з дзяўчынай адплываў усё далей і далей, потым зусім знік.

Усю ноч бушавала возера. Стагналі хвалі...

З таго часу і назвалі людзі возера імем смелай дзяўчыны — Нарач.

**1.** У якія часы адбываліся падзеі, апісаныя ў легендзе?
**2.** Як выглядала, паводле легенды, чароўнае возера?
**3.** Якой паказана ў легендзе Найрыта? Чым яна вылучалася сярод аднавяскоўцаў?
**4.** Які лёс напаткаў дзяўчыну-сіраціну? Які выбар яна зрабіла? Як ацанілі людзі ўчынак Найрыты?
**5.** Якім вы ўяўляеце Андрэя?

**6.** Выкажыце свае адносіны да старога пана.
**7.** Адкуль, згодна з легендай, паходзіць назва славутага возера?
**8.** Якія яшчэ вы ведаеце легенды пра возера Нарач ці пра іншыя беларускія азёры? Раскажыце іх у класе.

## Пестунь

...Знайшлі аднойчы парабкі[1] на ўзлеску логавішча з трыма малымі ваўчанятамі. Толькі чапаць іх не сталі, бо ведалі, што раззлуюць дарослых ваўкоў — наклічуць бяду на скаціну. Ваўкі-бацькі счулі людзей, але логавішча не пакінулі. Мірнае суседства працягвалася, авечкі і гусі па-ранейшаму пасвіліся на выгане.

Аднак у хуткім часе самі ж парабкі і распудзілі драпежнікаў. Пачалі яны, ды яшчэ з сабакамі, ледзь не кожны дзень хадзіць да тых ваўчанят. Ваўкі нарэшце не вытрымалі і аднойчы ноччу сышлі з двума ваўчанятамі невядома куды. Аднаго малога бацькі пакінулі, відаць, не змаглі, а мо і не паспелі забраць з сабой. Засталося малое ваўчанё ў старым логавішчы сіратой. Два дні, забіўшыся ў кут, моўчкі трывала, а на трэці, калі зусім прагаладалася, завыла на ўвесь лес. Сабраліся парабкі каля логавішча, не ведаючы, што рабіць. Забіць ваўчанё — бацькі абавязкова пачнуць помсціць. Забраць у вёску таксама небяспечна, бацькі

---

[1] *Па́рабак* — наёмны сельскагаспадарчы работнік у пана ці заможнага гаспадара.

зноў-такі ўзлуюцца. Так, пад галодны енк малога, і вярнуліся хлопцы дадому. А неўзабаве сціхла тое ваўчанё. Як толькі ўзышло сонца, пайшлі парабкі да логавішча, каб даведацца, што з малым. Спыніліся ў кустах і бачаць: на вытаптанай каля логавішча прагаліне ляжаць кавалкі пераждаванага мяса, а побач, соладка пасапваючы, спіць ваўчанё. Спачатку падумалі, што гэта маці-ваўчыца не вытрымала і прынесла галоднаму дзіцяці паесці. Але раптам адзін з іх убачыў за густой ялінай вялізнага мацёрага[1] ваўка, што не зводзіў з людзей пільнага вока. Прыгледзеліся, ажно гэта зусім стары воўк, сівая поўсць касмыкамі тырчыць, рэбры вытыркаюцца, вочы слязяцца... І зразумелі хлопцы, што прыцёгся сюды стары на покліч малога, пакарміў згаладалае, перапалоханае ваўчанё.

Усё лета ахоўваў ён падкідыша, карміў, пеставаў малога, а неўзабаве і забраў яго з сабой. Ну, а калі людзі, якія добра памяталі, як стары воўк пеставаў кінутае ваўчанё, пачалі будавацца непадалёку ад былога логавішча, то і парашылі назваць вёску Пестунь...

**1.** Адкуль пайшла назва вёскі Пестунь?

**2.** Як трымалі сябе парабкі, убачыўшы малых ваўчанят у лясным логавішчы?

**3.** Ахарактарызуйце паводзіны дарослых ваўкоў.

**4.** Хто, на вашу думку, вінаваты ў тым, што малое ваўчанё засталося адно?

---

[1] *Мацёры* — тут: стары, вопытны.

5. Каму пакінутае ў лесе ваўчанё абавязана выратаваннем?
6. Які жыццёвы ўрок атрымалі вы, пазнаёміўшыся з гэтым творам?
7. Якія яшчэ легенды вы ведаеце? Перакажыце іх на ўроку.

## Загадкі

Загадкі — адзін з найбольш любімых народам (асабліва дзецьмі) фальклорных жанраў. Загадкі ўзніклі ў глыбокай старажытнасці. Нашы мудрыя продкі былі перакананыя, што думка, выказанае слова валодаюць магутнай сілай — яны могуць прынесці палёгку, вылечыць жывую істоту, а могуць і зусім знішчыць яе. Старадаўнія людзі цудоўна ведалі ўладу слова, адчувалі яго прыгажосць, непаўторнасць, глыбіню. Яны пакінулі нам выдатныя ўзоры вобразных і трапных характарыстык прыродных з'яў, прадметаў, рэчаў.

Загадка перадае змест праз мастацкі вобраз, поўны нечаканых параўнанняў, зблiжэнняў і паваротаў.

> З а г а д к а — вобразнае апісанне ўтоенага прадмета ці з'явы, якое патрабуе разгадкі.

Адчуваючы сваю непарыўную сувязь з сусветам, прыродай, зямелькай-карміцелькай, чалавек складаў загадкі найперш пра тое, з чым сутыкаўся ў паўсядзённым жыцці. Адухаўляючы прыроду, надзяляючы яе чалавечымі якасцямі (уменнем думаць, адчуваць, размаўляць), людзі спрабавалі ўтаіць ад яе свае сапраўдныя намеры і скрытным словам перахітрыць варожыя сілы. Нашы продкі

верылі, што расліны і жывёлы разумеюць чалавечую мову, таму карысталіся ўмоўнымі назвамі прадметаў і з'яў, сваіх дзеянняў. Палюючы на звяроў або ловячы рыбу, збіраючы грыбы, ягады, арэхі, зёлкі, карані, людзі пільна прыглядаліся да прыроды, бо ад яе залежала іх жыццё. Яны параўноўвалі таямнічае, загадкавае, невытлумачальнае з тым, што назіралі кожны дзень. Напрыклад, неба параўноўвалася з полем, зоркі — з велізарным статкам, што рассыпаўся па шырокім полі, а месяц з пастухом. Так нарадзіліся вядомыя вам загадкі: «Поле не мерана, авечкі не лічаны, пастух рагаты». Або: «Ляціць арліца па сіняму небу, крылы распластала, сонца заслала», «Крылаў не мае, а лятае, без вуснаў, а свішча», «Стукае, грукае, нідзе яго не знойдзеш».

У загадках вядомая людзям рэч паўстае ў нечаканым, незвычайным вобразе. Загадкі ствараюцца на аснове параўнання, супастаўлення ў нечым падобных з'яў і прадметаў. І чалавек павінен зразумець сутнасць утоеных рэчаў і супаставіць іх з тым, што названа ў загадцы.

Даўней самыя вопытныя і паважаныя людзі спецыяльна вучылі моладзь разгадваць загадкі, каб развіць разумовыя здольнасці, кемлівасць, фантазію, назіральнасць, трэніраваць памяць, прывучаць да развагі, аналізу. Яшчэ здаўна вядомы вясельны звычай (які, дарэчы, захаваўся і ў нашы дні): бацькі або сваякі нявесты падчас вяселля, перш чым аддаць дзяўчыну жаніху, загадвалі яму некалькі загадак. І калі малады мог адгадаць іх, радня нявесты прымала яго ў сваю сям'ю.

З цягам часу адгадванне загадак стала проста забавай. Таго, хто лёгка адгадвае загадкі, лічаць

знаходлівым, разумным. Паспрабуйце адгадаць загадку і вы:

Кішэні не мае, а сонца хавае,
Страху не мае, а ад ветру ўцякае,
Вачэй не мае, а слёзы пралівае.

Напэўна, вы здагадаліся, што гэта хмара. А вось яшчэ загадка: «Што гэта за свінка: на спіне дзеравяшка, а на жываце шарсцінка?». Параўнанне спінкі з дзеравяшкай нагадвае звычайную шчотку, а ўдакладненне пра шарсцінку адразу падказвае адгадку.

Звычайна загадка называе адну або некалькі істотных прыкмет: «Невялікі, рыжаваты, а хвост доўгі і калматы, на дрэве жыве, шышкі грызе». Безумоўна, гэта вавёрка — надта многа названа прыкмет: памер, колер, знешні выгляд і нават асноўны занятак. А вось наступную загадку адгадаць будзе не так лёгка: «Не вецер, а шуміць, не пілот, а ляціць, не змяя, а кусае». Хто ж гэта з шумам лётае ды яшчэ балюча кусае? Пэўна, гэта пчала.

У загадках вельмі часта з’явы прыроды надзелены якасцямі жывых істот: «Без рук, а малюе, без зубоў, а кусае». *(Мароз.)* А ў загадцы «Вісіць — зялёны, ляціць — жоўты, ляжыць — чорны» стварыць зрокавы вобраз дапамагаюць азначэнні, што ўказваюць на колер лістка з дрэва летам (зялёны, які моцна трымаецца на дрэве), увосень (жоўты, што пакрысе ападае з галін) і зімою (які ўжо ляжыць на зямлі, пачарнеўшы ад часу і вільгаці).

Некаторыя загадкі нагадваюць задачы: «Дзве мацеры, дзве дачкі ды бабулька з унучкай. Колькі ўсіх?» *(Трое: бабка, маці, дачка.)*;

«Ляцелі два статкі гусей. Першы статак гаворыць:

— Дайце нам адну гуску, тады ў нас будзе пароўну.

А другі статак адказвае:

— Дайце нам адну гуску, тады ў нас будзе ў два разы больш.

Колькі было гусей у кожным статку?» *(Пяць і сем.)*

Загадкі не толькі цікавыя, займальныя, яны і мілагучныя, складныя, падобныя да кароценькіх вершыкаў. Мова загадак — жывая, вобразная, сакавітая, трапная, надзвычай выразная. У беларускіх загадках выяўляюцца фантазія і адмысловае пачуццё гумару нашых суайчыннікаў, іх здольнасць вобразна ўспрымаць жыццё.

Загадкі ствараюцца і ў наш час людзьмі творчымі, з яркім успрыманнем, паэтычным бачаннем свету, дасціпным розумам. У такіх загадках расказваецца пра сённяшняе жыццё, сучасныя прадметы і з’явы: «Чорны жук паўзе па полі, гудзе і вые, зямлю рые» *(Трактар.)*; «Гудзе, як пчала, ляціць, як страла, крыламі не махае, хто адгадае?» *(Самалёт.)*; «Плыве ў прасторы, ды не ў моры, караблём завецца, ля зорак уецца». *(Касмічны карабель.)* Некаторыя беларускія пісьменнікі — Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін, Васіль Вітка, Еўдакія Лось і іншыя майстры слова — стварылі цэлыя кніжкі загадак. Адгадайце наступныя літаратурныя загадкі:

Хоць бяскрылы, а лятае,
Безгалосы — свішча,
Хоць бязрукі, а бывае,
Грушы ў садзе абівае,

Нават часам вырывае
Дрэвы з карнявішчам,
А як зморыцца — упадзе,
І няма яго нідзе.

*Н. Гілевіч*

Што за дрэва ў свеце ёсць,
Што дупло ў яго наскрозь,
А ў дупло забраўся пісар,
Вечна піша і маўчыць,
Ростам гэткі ж, як і дрэва, —
Толькі нос з дупла тырчыць.

*Н. Гілевіч*

Брат сястру пабачыць рад,
Але строгі ў іх расклад:
Прачынаецца сястра —
Брату спаць ісці пара.

*В. Вітка*

У яловіку кашлатым
Запішчалі птушаняты.
Ды зімой, ды ў маразы!
Што за птушка?
Адкажы!

*У. Паўлаў*

Прачытайце ўдумліва загадкі і пастарайцеся іх адгадаць:

1. Маленькае, залаценькае, усё поле асвеціць.
2. Усе яго любяць, чакаюць, а глянуць, убачаць — адразу заплачуць.
3. Сястра да брата ў госці ідзе, а брат ад яе хаваецца.
4. Ляціць без крылаў, бяжыць без ног, плыве без ветразя.
5. З высокай дарогі глядзіць бычок крутарогі.

6. Пакаціўся клубок, рассыпаўся гарох, пачало світаць — не было чаго збіраць.

7. У вадзе нараджаецца, а вады баіцца.

8. Круглы, як сонца, шыпіць пад ім донца. Падрумяніцца бачок — скоціцца пад ручнічок.

9. Білі мяне, білі, білі-калацілі, на кавалкі рвалі, па полі цягалі, на ключ замыкалі — і на стол паклалі.

10. Па мне паўгода ходзяць, паўгода ездзяць.

11. Два браты ў ваду глядзяцца, а разам не сходзяцца.

12. Па моры імчыцца, пад ветрам гуляе, да берага дойдзе — адразу знікае.

13. Зароў вол на сто гор, на сто печак, на сто рэчак.

14. Стукае, грукае, а нідзе яго не відаць.

15. Без голасу, а вые, без рук, а абрусы сцеле.

16. Фыркае, рыкае, галіны ламае, пыл падымае, цябе з ног збівае, чуеш яго, ды не бачыш.

17. Ляціць, а не птушка, вые, а не звярушка.

18. Як я ляцеў, то зіхацеў, а як упаў, то чорны стаў.

19. Мяне ўсе просяць, мяне чакаюць, а як з'яўлюся, хавацца пачынаюць.

20. Адзін лье, другі п'е, а трэці расце.

21. Вечарам нараджаецца, ноч жыве, а раніцай памірае.

22. Ляцяць птушкі без крыл, садзяцца — без ног.

23. На дварэ гарою, а ў хаце — вадою.

24. Хоць побач ідзе, а рукамі не возьмеш.

25. Цела не мае, без языка гаворыць, і ўсе яго чуюць.

26. Бегла ліска каля лесу блізка: ні сцежкі, ні дарожкі, толькі залатыя рожкі.

27. Стаяць слупы бялёныя, на іх шапкі зялёныя.

28. Маленькі галышак упаў з вышак, не так разбіўся, як шапачкі пазбыўся.

29. Стаіць паненачка ў чырвонай сукеначцы, хто ідзе — паклоніцца.

30. У траве, як аганькі, ружавеюць вугалькі, іх вадою не зальеш, рук і ног не апячэш.

31. Хоць у капелюшы, але галавы не мае.

32. У гародзе летам цвіце жоўтым цветам, вышэй за ўсіх узняцца б рад, бо сонцу ён малодшы брат.

33. Было жоўтым, вырасла зялёным, сонца пацалавала, зноў жоўтым стала.

34. Стаяць на полі браточкі: белыя раснічкі, залатыя вочкі.

35. Круглы хлявец поўны белых авец.

36. Каля хаты ў садочку між зялёненькіх лісточкаў, паглядзі, навідавоку шмат красунь чырванашчокіх. Хоць прывабна пазіраюць, сэрцы каменныя маюць.

37. На градзе агонь ірдзее, не пячэцца і не грэе. Ён пахучы і прыгожы, нават дождж заліць не можа. І з такіх агнёў-праменняў вараць смачнае варэнне.

38. Зранку ходзіць на чатырох нагах, удзень — на дзвюх, а ўвечары — на трох.

39. Не кравец, а ўсё жыццё з іголкамі ходзіць.

40. Лажыцца вусаты, устае гарбаты.

41. У чырвоных ботах, захаваўшы лапкі, ходзіць па балоце, спрытна ловіць жабкі.

42. Ва ўсіх дзетак адзенне з манетак.

43. Цэлы дзень лятае, усім дакучае, а ноч прычакае, тады адпачывае.

44. Чоран, ды не воран, рагаты, ды не бык, шэсць ног без капыт, ляціць — вые, сядзе — зямлю рые.

45. Кругленькі, маленькі, а за хвост не паднімеш.

46. Сівенькая, маленькая, а ўвесь свет абшывае.

47. Носік сталёвы, а хвосцік ільняны.

48. Калі не згару, то ў вадзе не ўтаплюся і ў зямлі не згнію. Хто я такі?

49. Вышэй за ўсіх стаіць, навокал глядзіць, люльку курыць.

50. Што гэта за дарога: хто ідзе, дык кульгае?

51. Мяне з дрэва наламалі, потым лыкам абвязалі, ну а я і не сумую ды па хаце ўсё танцую.

52. У жываце лазня, у носе — рэшата, на галаве пупок, адна ручка, і тая на спіне.

53. Яе мы сябрам называем, яна ж нам тайны адкрывае, мы з ёй павінны век дружыць, бо вучыць нас на свеце жыць.

54. У лесе знята, дахаты ўзята, на руках плача, а не дзіця.

55. Хто расказвае моўчкі?

56. Пяцёра братоў, гадамі роўныя, а ростам розныя.

57. Адзін гаворыць, абодва глядзяць ды абодва слухаюць.

58. Тоўсты тонкага паб’е, тонкі што-небудзь прыб’е.

59. Не рыба, а плавае, не конь, а ходзіць, не піла, а рэжа.

60. Маленькі, сухенькі, усіх адзявае.

61. З хаты ў хату водзіць, а сама не ходзіць.

62. Цяпло прыйдзе — апранаецца, холад настане — распранаецца.

63. Вярхом сядаю, на кім — не знаю, знаёмага ўбачу — адразу саскочу.

64. Еду, еду — і ні дарогі, ні следу.

65. Тысячы брацікаў звязаны, адным поясам падпяра́заны.

66. Рук і ног не мае, а дзверы адчыняе.

67. Вісіць сіта, не рукамі звіта.

68. Зімой расце коранем угару, а вясной памірае — хто адгадае?

69. Насупіцца, нахмурыцца, у слёзы ўдарыцца — нічога не застанецца.

70. У краўца іголак сотня, але з ніткай — аніводнай.

71. Ідзе без ног, б'е без рук.

72. Сядзіць Пархом на кані вярхом; сам непісьменны, а чытаць дапамагае.

73. Дзе гарады без людзей, а рэкі без вады?

74. Не крот, а капае, лап не мае, а сеянае з зямлі выкідае.

75. Паўзе чарапаха — сталёвая рубаха.

76. Сам пусты, голас густы, дроб выбівае, людзей збірае.

*(Адгадкі ў канцы падручніка на с. 170)*

**1.** Як узніклі загадкі? Якую ролю яны адыгрываюць у жыцці людзей?

**2.** Вызначце загадкі найбольш старажытныя і тыя, што створаны пазней.

**3.** Пры дапамозе якіх вобразаў увасабляюцца ў загадках рысы характару людзей, з'явы

прыроды, жывёлы, расліны, гаспадарчыя прадметы? Прывядзіце прыклады.
4. Запішыце ў літаратурны сшытак некалькі загадак, якія падаліся вам больш цікавымі, арыгінальнымі. Запомніце іх.
5. Паразважайце, для чаго чалавеку варта ведаць шмат загадак і ўмець іх адгадваць.
6. Паспрабуйце самі скласці адну-дзве загадкі і загадайце іх сябрам.

## Прыказкі

Беларусы заўжды мелі схільнасць да ёмкага, трапнага, выразнага слова. Свае неацэнныя парады — найбагацейшую «школу жыцця» — нашы мудрыя продкі пакінулі нам у выглядзе лаканічных, вобразных, сакавітых выслоўяў[1] — прыказак: «Няма лепшай вадзіцы, як з роднай крыніцы», «Не таму слава, хто на язык лёгкі, а таму — хто ў справе стойкі», «Адна галавешка і ў печы не гарыць, а дзве і ў полі не тухнуць», «Воўк сабакі не баіцца, толькі звягі не любіць». Гэтыя дасціпныя выказванні і сёння здзіўляюць сваёй змястоўнасцю, мудрасцю, глыбінёй думкі.

Беларускія прыказкі — скарбонка духоўнай сілы народа, у іх адлюстраваныя жыццё, культура, думкі і пачуцці беларусаў. У прыказках нашы прашчуры занатавалі свае высокія памкненні і мудрыя запаветы, свой надзвычай багаты калектыўны вопыт паводзін у грамадстве, жыццёвыя

---

[1] *Выслóўе* — коратка выказаная глыбокая па змесце думка.

ўрокі, што набылі за многія стагоддзі існавання на зямлі. У прыказках акрэслены тыя маральныя законы і правілы, якімі чалавеку неабходна кіравацца заўжды: у будні і ў святы, на працы і падчас адпачынку, у гасцях і ва ўласнай хаце: «Не руш чужога і не бойся нікога», «Абібокам жыць — толькі неба капціць», «Паміраць збіраешся, а жыта сей». Прыказкі — своеасаблівая энцыклапедыя жыцця народа ў розныя гістарычныя эпохі.

> П р ы к а з к і — трапныя народныя выслоўі, часам з павучальным зместам, якія даюць вобразную ацэнку чалавечым паводзінам, учынкам, якасцям.

Прыказкі часцей складаюцца з дзвюх частак — паведамлення і высновы: «Не зведаўшы броду, не лезь у воду», «Хто не шануе чужога, той і свайго не мае», «Не той багаты, хто мае, а той, хто дае». Сустракаюцца таксама прыказкі з незавершанай думкай: «Ласы на чужыя каўбасы», «Часам з квасам», «Моцны статак чарадою», «Сем пятніц на тыдні». Варта дадаць адно-два словы, і прыказка набывае абагульняльны сэнс: «Часам з квасам, а парою — з вадою», «Скупы ласы на чужыя каўбасы», «Моцны статак чарадою, а людзі грамадою».

Звычайна прыказкі маюць пераносны сэнс (падтэкст), намякаюць на нешта іншае, чым тое, пра што гаворыцца. Прыгадаем прыказку: «Ваўка ногі кормяць». Яе можна разумець і ў прамым сэнсе: каб здабыць ежу і не прапасці з голаду, ваўку даводзіцца ўвесь дзень бегаць у пошуках спажывы. Аднак гэтыя словы могуць мець

і іншы сэнс: каб жыць, трэба працаваць. (Параўнайце: *Вайка ногі кормяць, а чалавека — праца*.)

Тэматычнае багацце беларускіх прыказак здзіўляе і ўражвае. У іх найперш услаўляюцца высокія маральныя якасці чалавека: «Шануй людзей, то і яны табе паспагадаюць», «Шчыраму сэрцу і чужая болька баліць»; высмейваюцца розныя заганы чалавечага характару, выкрываюцца людскія недахопы: «Сам не гам, і другому не дам», «Скупы два разы плоціць, лянівы два разы ходзіць», «На яду мастак, а на работу так-сяк», «На мане далёка не заедзеш».

Многія беларускія прыказкі па тэмах і вобразах пераклікаюцца з рускімі, напрыклад: «Каково семя, таково племя» — «Якое карэнне, такое і насенне», «Які куст, такі і парастак», «Які род, такі і плод», «Якое дрэва, такі і клін, які бацька, такі і сын».

Прывабнасць прыказак не толькі ў іх мудрасці, дасціпнасці, але і ў надзвычайнай дасканаласці формы. Глыбокая думка, рыфма, рытміка, вобразная, лаканічная мова ствараюць дасканалы мастацкі твор, які лёгка запамінаецца. Найбольш трапныя і шырокавядомыя прыказкі называюць афарызмамі[1]: «За багацце розуму не купіш», «Добрае слова даражэй за багацце», «Ад пустога звону карысці нікому». Афарызмамі нярэдка становяцца і яркія выразы з мастацкіх або навуковых твораў вядомых аўтараў:

---

[1] *Афары́зм* — кароткае і надзвычай яркае, трапнае выслоўе.

«Не шукай ты шчасця, долі на чужым, далёкім полі» *(Янка Купала)*;

«Дарма пра песню пытацца ў глухога, дарма пра сонца пытацца ў сляпога» *(Максім Танк)*;

«Раны гояцца часам, а дружбаю — гора» *(Аркадзь Куляшоў)*;

«Слоў не крышыць ні век, ні тапор» *(Якуб Колас)*;

«Каб сонца засланіць, вушэй асліных мала» *(Кандрат Крапіва)*.

Прыказкі і афарызмы робяць нашу мову вобразнай, яркай, выразнай, эмацыянальнай.

Прачытайце наступныя прыказкі. Пастарайцеся запомніць як мага больш народных выслоўяў — яны зробяць вашу мову выразнай і адметнай, да таго ж часам падкажуць вернае выйсце ў няпростых жыццёвых сітуацыях:

Родная зямелька — як зморанаму пасцелька.

Не цані чалавека па твары, а цані па душы.

Найсмачнейшы хлеб ад сваёй працы.

Новых сяброў нажывай, але старых не забывай.

Птушка моцная крыламі, а чалавек дружбаю.

Старога вераб'я на мякіну не падманіш.

Людзей слухай, а свой розум май.

Калі ўлез у дугу, не кажы: не магу.

Не зведаўшы броду, не лезь у воду.

Час не конь, не падгоніш і не прыпыніш.

Дзе гаспадар ходзіць, там хлеб родзіць.

Малады сілу паказвае, а стары спосабу шукае.

Дай, Божа, старым вочы, а маладым розум.

На языку жаба спячэцца.

З разумным павядзешся — розуму набярэшся, а з дурнем і свой страціш.

Не чапай ліха, хай сядзіць ціха.

Калі топішся, за саломінку схопішся.

Стары вол баразны не псуе.

Пусты колас высока стаіць.

Дзе стары бурчыць, малады памаўчыць.

Папаўся ў нерат: ні ўзад, ні ўперад.

Малыя дзеткі — галава баліць, вырастуць — сэрца.

Старога паважай, малога павучай.

І баран бы касіў, каб хто касу насіў.

На чужым гарбу ў рай не заедзеш.

Кароткая пацеха, а доўгае пакаянне.

Што ведаеш, насіць не цяжка.

Дзе розумам не дайду, дык у кніжцы знайду.

Многа гаворана, ды мала сказана.

Слова, як птушка: вылеціць — не зловіш.

З мора вады не выбераш, з песні слова не выкінеш.

За аднаго вучонага дзесяць невукаў даюць.

Каму што, а галоднаму — хлеб.

Калі хочаш прапасці — пачні красці.

Белыя ручкі чужую працу любяць.

Летам гуляўшы, восенню не збярэш.

Гультая зямля не любіць.

Не пазнаўшы бяды, не ўчуеш дабра.

Працы і світкі не саромейся.

Не гадуючы малога, не будзеш мець вялікага.

Лёгкі здабытак — лёгкі пражытак.

У сваім краі, як у раі.

Дадому і конь спрытней бяжыць.

Далёкая старонка без ветру сушыць.

Усякая птушка сваё гняздо бароніць.

Работа і корміць, і поіць, і жыць вучыць.

Не чакай долю, а здабудзь волю.

На чужыне і камар загіне.

Чым за морам віно піць, лепш з Нёмана вадзіцу.

Які музыка, такое і гранне.

Ладзь калёсы зімой, а сані летам.

Быў бы хлеб, то зубы знойдуцца.

Да пары жбан ваду носіць.

Які воз, такі і гаспадар.

Чужым розумам не пражывеш.

У гультая адгаворка свая: «З раніцы росна, удзень млосна, а ўвечары камары — не прачнуся да зары».

З кута ў кут — і вечар тут.

У гультая і страха цячэ, і печ не пячэ.

Ранішні зайчык зубкі цярэбіць, а позні вочкі прадзірае.

Есць — пацее, а працуе — мерзне.

Слоў мяшок, а спраў на вяршок.

Сама каля печы, а язык за парогам.

Ні жнец, ні шавец, ні ў дуду ігрэц.

Авечку стрыгуць, а баран дрыжыць.

Хлуснёй багаты не будзеш.

Як ляжа спаць, дык забудзецца ўстаць.

Пашкадаваў воўк кабылу: пакінуў хвост ды грыву.

Анёлам ляцеў, чортам сеў.

Не так шкода, як невыгода.

Мякка сцеле, а цвёрда спаць.

Не вер казлу ў капусце, а ваўку сярод авечак.

Са свайго языка спусціш — на чужым не зловіш.

З вялікага грому малы дождж.

Як гукнеш, так і адгукнецца.

Дзе сеў, там і прыкіпеў.

Хто свята шукае, той кашулю латае.

Яшчэ не злавіў, а ўжо скубе.

Давалі, ды з кішэні не вымалі.

З якім спазнаешся, такім станешся.

З ліхім чалавекам і гадзіна векам.

З разумнаю галавою і рукам лёгка.

Рак — не рыба, кажан[1] — не птушка.

Смачны жабе арэх, ды зубоў не мае.

Не хваліся, як пачынаеш, не таіся, як зробіш.

Умей праўду сказаць, любі праўду паслухаць.

Не рабі ліхога і не бойся нікога.

Не можаш дапамагчы, то лепш памаўчы.

Меней гавары, болей пачуеш.

Дома — як хочаш, а ў людзях — як скажуць.

Адзін добры вопыт мудрэй за сем разумных павучанняў.

Языком бервяна не ачэшаш, сена не накосіш.

Ідзеш на дзень, хлеба бяры на два.

Нашто лепшы клад, калі ў дзецях лад.

Госць першы дзень — золата, другі — серабро, трэці — медзь, хоць дадому едзь.

Хто бацьку і маці зневажае, той дабра не знае.

Не той друг, што мёдам мажа, а той, што праўду кажа.

Згода будуе, нязгода руйнуе.

---

[1] *Кажа́н* — лятучая мыш.

1. Што такое прыказкі? Якую ролю яны адыгрываюць у нашай мове?
2. Ад чаго перасцерагаюць чалавека прыказкі, якія жыццёвыя ўрокі даюць?
3. Прыгадайце некалькі прыказак, дайце адпаведны каментарый[1].
4. Адшукайце тэматычна блізкія прыказкі: пра родную старонку; пра вернасць і дружбу; пра добрых, чулых і працавітых людзей; пра гультаёў і абібокаў. Якія маральныя жыццёвыя высновы вы засвоілі, прачытаўшы гэтыя выслоўі?
5. Выберыце некалькі прыказак, якія маюць прамы і пераносны сэнс. Патлумачце, як вы іх разумееце?
6. Падрыхтуйце вусную замалёўку па абранай вамі прыказцы.

## Прыкметы і павер'і

Жыццё і дабрабыт нашых прашчураў залежалі ад штодзённай цяжкай працы на зямлі, ведання прыродных законаў, умення рацыянальна весці гаспадарку, найлепшым чынам ладзіць свой быт. Нашы продкі былі не толькі працавітымі, але надзвычай назіральнымі і мудрымі, хоць часам у нечым і крыху наіўнымі. Пільна ўглядаючыся ў навакольную прыроду, яны бачылі пэўную сувязь паміж некаторымі прыроднымі з'явамі і плёнам сваёй працы — добрым ураджаем. Аналізуючы

[1] *Камента́рый* — тлумачэнні, разважанні аб чым-небудзь.

свае назіранні, людзі заўважалі заканамернасці і рабілі адпаведныя высновы, а на іх падставе фармулявалі парады, як найлепшым чынам весці гаспадарку. Гэтыя падказкі — народныя прыкметы і павер'і — паступова распаўсюджваліся ў народным асяроддзі і станавіліся штодзённымі дарадцамі селяніну: прадказвалі надвор'е на бліжэйшы час ці на больш аддаленую перспектыву; нагадвалі, калі сеяць, калі выганяць на пашу жывёлу, калі пачынаць збор ураджаю; засцерагалі ад неабачлівых паводзін; забаранялі некаторыя дзеянні.

Народныя прыкметы па форме і змесце набліжаюцца да прыказак і загадак. Яны распавядаюць пра сусвет і месца ў ім чалавека, пра паходжанне розных прыродных з'яў і іх наступствы, пра сялянскі побыт і клопаты хлебароба: «Жураўлі ляцяць высока — зіма яшчэ далёка», «Студзень пагодны — год будзе плодны», «Як у сакавіку туман, дык у жніва дождждык пан», «Май мокры і халодны — год хлебародны», «Не бойся зімы, бойся азімку»[1].

> П р ы к м е т ы — трапныя народныя выслоўі, у якіх прадказваецца пэўны вынік, пацверджаны шматвяковым народным вопытам.

Прыкметы, прадказваючы характар надвор'я, асаблівасці ўраджаю, самаадчуванне чалавека або жывёлы, дапамагалі людзям засцерагчыся ад прыроднай стыхіі, аптымальна размеркаваць свае сілы, каб своечасова пасеяць або сабраць ураджай. Сціслыя, дакладныя, вобразныя, афарыстычныя вы-

---

[1] *Азі́мак* — нечаканыя замаразкі на глебе (ранняй восенню або вясной).

слоўі лёгка запаміналіся і беражліва перадаваліся з пакалення ў пакаленне, захоўваючыся ў памяці чалавека.

Ад прыкмет трэба адрозніваць павер'і.

> **Павер'і** — народныя выслоўі, у якіх людзі асвятлялі невядомы факт, грунтуючыся не на жыццёвым вопыце, а на выдумцы, фантазіі чалавека, часам нават на містыцы.

У народзе, напрыклад, лічыцца, што чалавеку не пашанцуе, калі ён сустрэне чорнага ката або чалавека з пустым вядром ці калі яму прыйдзецца вярнуцца дадому, нешта забыўшыся пры адыходзе.

Няўменне чалавека растлумачыць многія прыродныя з'явы або здарэнні выклікáла ў яго страх, абуджала фантазію, нараджала неверагодныя здагадкі, у выніку чаго ўяўнае ўспрымалася як сапраўднае. Людзі шчыра верылі, што зязюля здольная сваім куваннем прадказаць працягласць чалавечага жыцця, што сонечнае зацьменне — прадвеснік няшчасця ці крывавых войнаў, а маланкі і грымоты сведчаць, што вышэйшыя сілы раззлаваліся на людзей. Сапраўдным вешчуном у народзе лічыўся бусел. Калі над паселішчам праляцеў бусел, людзі пыталі: «Бусел-калода, што заўтра будзе — дождж ці пагода?» І калі ён пачынаў махаць крыламі, людзі чакалі дождж, а калі лунаў над зямлёю, нерухома распасцёршы крылы, — верылі, што будзе добрае надвор'е.

Прыкметы і павер'і, што дайшлі да нас, — гэта толькі невялікая часцінка духоўнага народнага скарбу. Многае знікла без следу, і толькі дзякуючы руплівым збіральнікам гэтыя зярняткі народнай мудрасці захаваліся да нашых дзён. Яны

сведчаць пра незвычайную ўражлівасць нашых продкаў, іх багатае ўяўленне, паэтычнае ўспрыманне свету, фантазію і жаданне спасцігнуць незразумелае, таямнічае. Далучыцеся да гэтага скарбу і вы:

Студзень хаты студзіць, рана гаспадыню будзіць.

Студзень мяце — ліпень залье.

Многа снегу — многа хлеба, многа вады — многа травы.

Люты вады падпусціць, а сакавік падбярэ.

Люты халодны і сухі — жнівень гарачы.

Сонца зімой марозіць, а летам грэе.

Снежань вока снегам радуе, але марозам вушы рве.

Калі не будзе зімой бела, не будзе ўлетку зелена.

Жаўрук прылятае на праталінку, шпак на прагалінку, жораў з цяплом, ластаўка з лістом.

Май дажджлівы — год урадлівы.

Сей смела, калі ў садзе бела.

Прыйшоў марац — адмарозіў палец.

Грак на гары — вясна на двары.

Красавік з вадою — травень з травою.

Сухі марац, мокры май — будзе жыта, нібы гай.

Красавік ваду падбірае, красачкамі пускае.

Дзе араты плача, там жняя скача.

Вясною суткі мочыць, а гадзіну сушыць.

З бярозы многа соку — да мокрага лета.

Чым на рабіне больш цвету, тым макрэйшае будзе лета.

Май: каню сена дай, а сам на печ уцякай.

Май лясы прыбірае, лета ў госці чакае.

Вясновы дождж лішні не бывае.

Дуб наперад ясеня ліст пусціць — да сухога лета.

Каб на агурках не было пустацвету — садзі іх увечары.

Ноч без расы — дзень з дажджом.

Калі год сухі, купляй пчолку, калі мокры — кароўку.

Ліпень косіць і жне, доўга спаць не дае.

Што ў полі ўродзіць, тое жнівень пазвозіць.

Многа яловых шышак — на ўраджай ярыны.

Без расы ноччу суха, але туманна ў нізіне — дзень прынясе непагадзь у карзіне.

Ластаўкі нізка лётаюць — дождж будзе.

Вясёлка пасля дажджу — на добрае надвор'е.

Трайная вясёлка ў час дажджу — увесь тыдзень дождж будзе.

Сонца заходзіць у хмарку — на дождж.

Моцна парыць — на дождж.

Летам моцны вецер — на дождж.

Зоркі высыпалі ў ноч на Купалу — многа грыбоў будзе.

Не чакай лета доўгага — маліся на цёплае.

Многа ягад — да дрэннага ўраджаю жыта.

Лепшае сена тое, што косіцца па расе.

Улетку кожны кусцік начавац пусціць.

Увосень — на дзень пагод восем.

Увосень сем пагод на двары — сее, вее, круціць, муціць, рве, зверху лье, знізу мяце.

Многа рабіны — восень сырая і маласнежная.

Навальніцы ў жніўні — да доўгай восені.

У кастрычніку дождж дробны сеецца, але доўга цягнецца.

Шэрань на дрэвах — да марозу, туман — да цяпла.

Калі першы снег накрые лісце на дрэвах — рыхтуйся да халоднай зімы.

Увечары трашчаць конікі — на добрае надвор'е.

Грымоты ў верасні — на цёплую восень.

Кастрычнік зямлю балоціць, лес залоціць.

Гром у кастрычніку — будзе зіма без снегу.

Сухі і цёплы верасень — на познюю зіму.

**1.** Калі і як узніклі народныя прыкметы?
**2.** Чым адрозніваюцца прыкметы ад павер'яў?
**3.** Прыгадайце прыкметы і павер'і, якія вы чулі раней.
**4.** Пастарайцеся запомніць некалькі народных прыкмет, якія вас асабліва ўразілі.

## Пытанні і заданні да раздзела

**1.** Якія творы называюцца фальклорнымі? Калі і як яны ўзніклі?

**2.** Чым вылучаюцца народныя казкі сярод іншых фальклорных жанраў?

**3.** Што найперш прываблівае вас у легендах?

**4.** Якую ролю выконвалі загадкі ў старажытным грамадстве? Як змяніліся іх функцыі ў наш час? Прыгадайце некалькі загадак, створаных на падставе знешняга падабенства прадметаў або з'яў.

**5.** Чым каштоўныя для людзей прыказкі? Якія прыказкі вы запомнілі? У якіх канкрэтных жыццёвых сітуацыях іх можна выкарыстаць?

**6.** Паразважайце, чым падобныя народныя прыкметы і прыказкі.



# КАЗКА — У ЖЫЦЦІ ПАДКАЗКА

...Казкі вучаць
родную мову любіць,
на крылах юнацтва
ўздымацца пад хмары,
з няпраўдай змагацца,
а з праўдай дружыць
і аб недасяжным
і сонечным марыць.

*Максім Танк*

## ВУСНАЯ НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ І МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА

Мастацкая літаратура на працягу сваёй гісторыі непарыўна знітавана з вуснай народнай творчасцю. З даўніх часоў і да нашых дзён менавіта фальклор быў той асновай, на якой узнікла і развівалася літаратура пісьмовая, мастацкая. Фальклорныя сюжэты і вобразы спрадвеку ўзбагачаюць мастацкую літаратуру, а сакавітая, мілагучная, прыгожая і выразная народная мова спрыяе глыбейшаму самавыяўленню беларускіх пісьменнікаў, раскрыццю іх таленту. Абапіраючыся на народ-

ныя легенды і паданні, казкі і песні, на найбагацейшыя абрады, майстры прыгожага пісьменства стварылі шмат літаратурных шэдэўраў, яны і сёння радуюць сваіх чытачоў непаўторнымі мастацкімі набыткамі: вершамі і паэмамі, раманамі і аповесцямі, апавяданнямі і п’есамі — інакш кажучы, мастацкімі творамі розных жанраў. У іх распавядаецца пра сівую даўніну, пра падзеі сучасныя і будучыя.

Літаратурныя легенды і казкі, у адрозненне ад фальклорных, заўсёды маюць аўтара. У гэтым раздзеле сабраны творы беларускіх паэтаў і пісьменнікаў, складзеныя пад уплывам матываў, сюжэтаў, вобразаў вусна-паэтычнай народнай творчасці беларусаў.

МАКСІМ ТАНК

## Ля вогнішч начлежных

*(Урывак з паэмы «Нарач»)*

Ля вогнішч начлежных і ля невадоў
Чуў гэту легенду я часта
Ад гатаўскіх сосен і ад рыбакоў
Пра Нарач, Баторына, Мястра.

На месцы, дзе сёння шум-гоман азёр,
На золаку[1] раннім крык чаек,
Быў некалі цёмны нязведаны бор,
Быў лес без канца і без краю.

---

[1] *Зо́лак* — пачатак світання.

У нетрах, у самай глушы сасняка,
Стаяла малая хаціна;
Жыла ў той хаціне дачка лесніка,
Жыла прыгажуня Галіна.

Хто бачыў яе, той забыць век не мог
Красы яе светлай дзявочай,
І водсвет зары, што на твар яе лёг,
І косы, і сінія вочы.

Нямала сватоў прыязджала здалёк,
Але іх адмова чакала,
Бо ў сэрцы яе быў адзін Васілёк,
Якога дзяўчына кахала.

Адзін Васілёк, што майстэрствы ўсе знаў,
Адважны і дужы хлапчына,
Які шчырым сэрцам таксама кахаў
Сяброўку юнацтва — Галіну.

Прыносіў ёй розныя за́баўкі ён:
То нейкае дзіва лясное,
То часам пявунню-жалейку[1], як звон,
І нават люстэрка жывое.

Гаворыць: пільнуй падарунка майго.
Хай ён прынясе табе ўдачу.
У тоні[2] глыбокай, празрыстай яго
Свой лёс ты заўсёды пабачыш.

Бо гэта люстэрка, што сёння прынёс,
Адліў я з цудоўнага сплаву:

---

[1] *Жале́йка* — дудачка (народны музычны інструмент).
[2] *То́ня* — вадаём, дзе невадам ловяць рыбу.

З крынічных пясчынак, блакіту нябёс,
З кахання, і мары, і славы.

Зірнула дзяўчына ў люстэрка, а ў ім
Высокае сонца яснее,
І хвалі ўскіпаюць прыбоем крутым,
І чайка над возерам рэе.

Здаецца, ніштo засмуціць не магло,
Нішто шчасцю не пагражала,
Ды лета мінула, і гора прыйшло
З асенняю хмарай-навалай.

Вяртаючыся з палявання дамоў,
Аднойчы ўбачыў Галіну
Уладар неабсяжных палёў і лясоў,
Магнат ненавісны — Барына.

Убачыў, спыніў каля студні каня,
Каля леснiковай хаціны,
Пытае ў Галіны: — Адкуль ты, чыя
І як ты завешся, дзяўчына?

Не верыцца мне, што ў глушы сасняка,
На гэтых засмяглых[1] палетках[2]
Магла ты расці пад страхой мужыка,
Нябачная папараць-кветка.

Паедзем, красуня, са мной у палац.
Як кралю[3], цябе прыбяру я...
— Дарма на ўгаворы, пан, часу не траць,
Бо ехаць з табой не хачу я.

---

[1] *Засмя́глы* — высахлы ад недахопу вільгаці.
[2] *Пале́ткі* — палі, што выкарыстоўваюцца пад пасевы.
[3] *Кра́ля* — тут: каралева.

Я вольнаю птушкаю вырасла тут.
Жыве тут мой суджаны-мілы.
І нас не разлучаць ні годы пакут,
Ні гнеў твой, ні грозная сіла.

— Яшчэ мы пабачым! — Барына ўскіпеў,
І, злосны, каня ён прышпорыў,
Панёсся, як прывід, і знік сярод дрэў
Старога прадвечнага бору.

Памалу змярканнем апала імгла.
Шлях Млечны заззяў над хацінай.
І толькі пад самую поўнач змагла
Заснуць у трывозе Галіна.

Заснула, ды хутка ляснік разбудзіў
Яе да зары, да світання,
Пачуўшы, як рэхам бор загаманіў,
Рагоў паляўнічых ігранне.

— Прачніся, дачушка, прачніся хутчэй!
Грымяць на варотах прабоі,
Я выйду, няпрошаных стрэну гасцей.
Падай мне да стрэльбы набоі!

— Гэй, дзверы ў дом свой, стары, адчыняй,
Гасцям ты, як бачым, не рады.
Прыехалі мы па дачку тваю, знай,
Па панскаму слову-загаду!..

На ганак са стрэльбаю выйшаў стары,
Абвёў цівуноў[1] грозным зрокам:
— Вас многа, сцярвятнікаў, сёння ў бары
Зляцелася з нетраў далёкіх.

---

[1] *Цівýн* — наглядчык за працай сялян у памешчыка (пана).

Але хто з вас ступіць на гэты парог,
Той сённяшні дзень не пабачыць,
Сабачаю смерцю сканае ля ног
Ад кулі свінцовай гарачай!..

І тут жа злажыўся і стрэліў ляснік,
Аж рэха панеслася ноччу.
Пачуўшы звярыны загоншчыка[1] крык,
З ім разам паў скошаны лоўчы[2].

Другі раз ужо не ўвінуўся стары,
Каб стрэліць у панскую зграю,
Зваліўся сасной векавою ў бары
Ад лютых удараў нагаек.

Галіна рванулася дапамагчы,
Ды позна! Варожыя сілы
Яе акружылі, нібы крумкачы,
Схапілі і рукі скруцілі.

Пазней у забыццё, бы ў сцюдзёную тонь,
Запала яна і не чула,
Як нёс яе лесам, палонную, конь,
Як пушча стагнала ад гулу.

Ачнулася толькі пад вечар яна
У змрочным палацы Барыны,
З бядою сваёй безуцешнай адна,
У лютай няволі дзяўчына.

---

[1] *Заго́ншчык* — той, хто пры аблаве гоніць на паляўнічых звера.

[2] *Ло́ўчы* — той, хто адказваў за паляванне, наглядаў за паляўнічымі ўгоддзямі.

Як вырвацца птушцы на волю ізноў?
Каб знаў Васілёк яе гора,
Напэўна б сюды з дапамогай прыйшоў,
Разбіў бы стальныя запоры.

Ды гасне надзея, шуміць за акном
Дажджамі сцюдзёнымі восень.
Галосіць Галіна і ноччу і днём,
На лёс наракае, галосіць.

— Дзе ты, маё шчасце, па нетрах якіх,
Па сцежках далёкіх блукаеш?
Няўжо аб слязах ты не знаеш маіх,
Аб горы сірочым не знаеш?..

Галосіць дзяўчына, аж чуе ўначы,
Як нехта яе аклікае,
Як ціха ў дзвярах зазвінелі ключы:
— Галіна, дзе ты, дарагая?..

Яшчэ ёй здаецца, што гэта здалёк
Вярнулася рэхам былое;
Яшчэ ёй не верыцца, што Васілёк
Наяве стаіць перад ёю.

— Адкуль ты, мой мілы? Хутчэй уцякай
Ты з гэтай глухой дамавіны,
Пакуль яшчэ не заяснеў небакрай
І нас не пабачыў Барына...

— Не бойся! Я сёння прабраўся ў палац,
У самае логвішча[1] ката[2],
І змусіў яго мне за ўсё адказаць.
Была справядлівай расплата.

---

[1] *Ло́гвішча* — тут: жытло.
[2] *Кат* — тут: прыгнятальнік, жорсткі мучыцель.

Ён злёг пад ударам майго тапара,
Ён болей нам крылаў не звяжа.
Пара з гэтых сценаў на волю, пара!
Ты чуеш: прачнулася стража!..

Галіна ўцякае з каханым сваім.
Нясуць іх буланыя[1] коні.
Але за плячыма ўжо чуюцца ім
І крыкі, і стрэлы пагоні.

Тут кажа дзяўчыне сваёй Васілёк:
— Скачы ты да роднай хаціны,
А я, покуль ранні развеецца змрок,
Заблытаю след у далінах.

Хутчэй — не пярэч мне, хутчэй уцякай!
На час мы расстацца тут мусім.
Бывай, маё сэрца і шчасце, бывай!
Не бойся — я хутка вярнуся!..

Рассталіся. Едзе дзяўчына адна.
Знаёмыя сцежкі, хваіны,
Ды толькі на месцы знаёмым яна
Не ўбачыла роднай хаціны.

Не выйшаў, як некалі, бацька стары
Дачку сваю стрэць на дварышчы.
Адны толькі сосны гудуць у бары,
Чарнеюць кругом папялішчы.

Прысела ў знямозе на камень сівы
І вернага друга чакае.
Курлыкаюць недзе, крычаць журавы.
Марудна хвіліны мінаюць...

---

[1] *Була́ны* — светла-жоўты з чорным хвастом і чорнай грывай (пра масць каня).

А ўсё Васілька не чуваць, не відаць.
Няшчасце яго мо спаткала?
Каб глянуць на лёс свой, у змрочную даль,
Дзяўчына люстэрка дастала.

Глядзіць: на пагорку жаўцее пясок,
Шуміць пры дарозе ракіта,
Стаіць конь буланы, ляжыць Васілёк,
І кружыць крумкач над забітым.

Аклікнула мілага — глуха ўдалі
Ёй бор адказаў гулам-стогнам.
Люстэрка з рук выпала і на зямлі
На часткі разбілася з звонам.

І раптам на месцы, дзе высіўся бор,
Дзе срэбныя палі асколкі, —
Усё знікла, адны толькі хвалі азёр
Заззялі люстэркам, вясёлкай.

Дзяўчына ж крылатаю чайкай з тых год
І ў цёплыя ранкі, і ў сцюжу
Над люстрам азёраў, прасторамі вод,
Шукаючы мілага, кружыць.

І крык яе вецер нясе ўдалячынь
Над хвалямі, поўнымі ззяння,
Празрыстымі, быццам бясхмарная сінь,
Глыбокімі, быццам каханне...

**1.** Што, на вашу думку, натхніла аўтара на стварэнне гэтай паэмы?
**2.** Якой вы ўяўляеце Галіну, якім — Васіля? Падмацуйце свой адказ тэкстам.
**3.** Як апынулася Галіна ў панскім палацы-муры, пра што марыла?

4. Прачытайце радкі паэмы, дзе расказваецца пра ўцёкі Галіны і Васіля. Што перажываюць героі, на што спадзяюцца?
5. Які лёс прадказала люстэрка дзяўчыне?
6. Як, паводле паэмы, узнікла возера Нарач? Адкуль з'явілася над ім белая чайка?
7. Знайдзіце ў тэксце выразныя доказы адносін самога аўтара да герояў і падзей.
8. Параўнайце літаратурную легенду Максіма Танка з фальклорнай легендай «Нарач». Што яднае гэтыя творы, чым яны адрозніваюцца (звярніце ўвагу на адлюстраваныя падзеі, герояў, апісанні прыроды, на мову)?

ЯКУБ КОЛАС

## Крыніца

Можа, вы і не паверыце, што гэта ўсё праўда. Але ці так яно было, ці не так — спрачацца не буду. Скажу проста: гэтая крынічка, напэўна, частавала сваёю вадою яшчэ вашых дзядоў-прадзедаў. Яе вада — найчысцейшыя слёзы веснавых хмарак, што ад узнікнення свету ходзяць над зямлёю такімі прыгожымі чародкамі. Яе беражкі — аксамітныя[1] межы, з-пад гэтых аксамітаў ззяе золата жоўтых пяскоў.

А тыя землі, што ляжалі побач! Колькі хараства, колькі мудрага задумення было ў іх!

Не дзіва, што тут, каля крынічкі, кіпела жыццё, бо кожнаму хацелася стаць бліжэй да вады, каб

---

[1] *Аксамі́тны* — тут: парослы мяккай густой травой.

палюбавацца на сваё ўласнае хараство ў яе люстры, як гэта любілі рабіць прыгожыя краскі. Другім хацелася паслухаць цікавую музыку, якую складалі дробненькія хвалькі, скачучы з каменьчыка на каменьчык, трэція блукалі тут, каб крыху адпачыць у прахалодзе бліскучых хваль, чацвёртыя гарнуліся сюды — проста гледзячы на другіх.

Але крынічка была такая скромная, такая сарамяжлівая[1], што нават не звarачала ўвагі на сябе самую і ніколечкі не ганарылася сабою. Цякла і цякла сабе туды, куды несла яе нязнаная сіла, нават і не думаючы пра тое, якую важную ролю аб'яднання жыцця выконвала яна. А тая гара, што дала ёй пачатак жыцця, пазірала на яе з любасцю і гордасцю маці. Часамі яе жоўтыя камяністыя схілы асвятляліся такою радасцю, такою ўсмешкаю здавальнення, што ўсім рабілася лёгка, добра, ціха, мірна. Найчасцей гэта здаралася тады, калі ўсё вакол пачынала абуджацца пасля ночы. З-за далёкіх рубяжоў зямлі, дзе неба так нізка нахіляецца да яе, уздымалася залатая карона, яе агнявістыя бліскучыя праменні, як стрэлы, разляталіся па зямлі і па небе. Лясны жаваранак і салавейка ў цяністых кустах стараліся навыперадкі павітаць сонейка першымі, і песні іх дрыжалі прыгожай музыкаю ў хвалях паветра ціхай раніцы. І цяжка было сказаць, хто з іх лепей спявае.

Але часы змяняліся, і часам нейкі смутак ахопліваў гару. Тады яна агортвалася сівою намёткаю і аб нечым моцна тужыла. Ніхто не ведаў, якія прычыны засмучалі гэтую добрую горку. А гара-

---

[1] *Сарамя́жлівы* — сарамлівы, сціплы, нясмелы.

маці, як відаць, думала аб далейшай долі свае дачкі. Чулае матчына сэрца адгадвала тое, чаго так часта не можа прадбачыць нават сталы розум, узбагачаны веданнем з'яў і ўмоў жыцця.

— Эх, дачушка, дачушка! — уздыхала гара.

— Чаго, матулечка, так цяжка ўздыхаеш? — пытала крынічка.

— Эх, любачка! Ты яшчэ мала жывеш на свеце і шмат чаго не цяміш, блазніца. А я, стоячы тут з незапомных часоў, навучылася бачыць тое, чаго не бачыш ні ты сама, ні гэтыя пышныя і крыху надзіманыя дубы, ні наогул усе большыя і меншыя тутэйшыя жыхары. Толькі людзі, і то не ўсе, а самыя сталыя, самыя разумныя з іх, што пільна і пранікнёна ўглядаюцца ў кнігу жыцця зямлі, могуць трошкі разбірацца ў гэтых справах.

— Што ж ты хочаш сказаць, матуля?

— Мілая дачушка! Даўно я заўважаю, што ў зямлі дзеецца штось нядобрае. Чуе маё сэрца, што нейкая сіла рыхтуецца павесці цябе па другой дарозе.

— А што можа рабіцца ў зямлі? — спытала здзіўленая і зацікаўленая крынічка. — Зямля такая спакойная, нерухомая, як быццам зусім акамянела і застыла.

Слухалі травы, слухалі краскі, слухаў ракітнік і лазняк, птушкі, нават салавейка прыпыніў сваю песню і прыслухоўваўся да гэтай размовы. Усім здавалася, што нікога на свеце няма разумнейшага за крынічку, бо аб такіх цікавых і мудрых рэчах гаманіла з імі яна! А тут і крынічка шмат чаго не ведае. І ўсе замерлі — так уважліва слухалі яны гэтую гаворку.

— Эх, неразумнае дзіцятка! — сказала гара. — Гэта толькі павярхоўнаму воку не відно нічога. Зямля жыве, у яе жыцці многа-многа змен, толькі ж яны выяўляюцца так павольна, так непрыметна, і на першы погляд здаецца, што яна скончыла кола свайго існавання. А ты вазьмі вецер: чаго толькі ні робіць ён? А гэтыя прыгожыя хмаркі, што любяць так часта прапаўзаць над намі, каб адбіцца ў люстры твае чыстай вады! А іншыя схаваныя ў нетрах[1] зямлі сілы! Але не ў гэтым справа, пра гэта мы пагаворым другім разам. Справа ж у тым, што цябе хочуць павярнуць на другую дарогу.

— А чым жа, матуля, гэта кепска? Ну і пайду, і пабягу ў другіх берагах... Скажу табе, родная, мне і самой хацелася паглядзець на другія краіны белага свету.

Засмуцілася старая гара, пацямнелі яе прыгожыя схілы, бо вечар павольна апускаўся на зямлю, і за далёкімі пагоркамі хавалася сонца.

— Я мушу перасцерагчы цябе, дачушка, — зноў сказала гара. — Наўперад ты добра падумай, а ўжо тады выбірай свой лёс. Ніхто, дачушка, не можа стрымаць твайго жадання, і ты пойдзеш туды, куды цябе так цягне твая цікавасць. Ты пойдзеш у другі бок, у другія краі панясеш сваю ваду. Праўда, ты спаткаеш шмат новых з'яў, угледзіш тое, што табе і не снілася. Але памятай, дачушка, успомніш ты сваю старую матку, успомніш аксаміты тваіх беражкоў і залатое сваё дно, і

[1] *Не́тры* — тут: тое, што змяшчаецца пад зямной паверхняй.

моцна-моцна пацягне цябе сюды, бо сярод чужынцаў ты згубіш свой воблік, сатрэшся з твару зямлі. А я тут буду стаяць адна, і туга разлукі з табою высушыць маё сэрца. Ты паглядзі, вунь там, бачыш, стаяць горы, а на іх расце лес. Гэта ўсё мае сваячкі і не сягоння-заўтра яны, таксама як і я, дадуць пачатак новым крынічкам. Яны будуць бегчы сюды, і калі б ты пачакала, дык яны зліліся б з табою: нахіл зямлі якраз ідзе ў гэты бок. Тады б вы сталі магутнай ракою, і ў гурце вам не страшна было б каціцца ў свет: вас ніхто не адолее, і вы не страціце сябе на чужыне. Вы б ажывілі ўвесь гэты край, ён стаў бы багатым на зайздрасць чужынцам.

І яшчэ скажу табе адно: калі ты пачуеш, як здрыганецца зямля, дык хутчэй, як мага, старайся перарэзаць, прабегчы абвал, які ляжа ўпоперак тваё дарогі, і ты пацячэш па старым жолабе. А не зробіш гэтага, дык ужо будзеш прымушана звярнуць на другую дарогу, куды цябе горне гэтае няяснае, такое павабнае жаданне навізны.

Вечар даўно кінуў намётку шараватага змроку на заціхаючую зямлю. Гара маўчала, ціха разважаючы аб чымсьці. Поўны месяц устаў на небасхіле, усміхнуўся, бы той падарожны, страціўшы надзею на добрую долю; яго таемны і тужлівы водбліск разліўся над ціхімі разлогамі зямлі і неба. Крынічка ўсё бегла, гнала хвальку за хвалькай, поўная задумення. Булькала і звінела, як музыка, зачароўваючы зялёныя беражкі; залатыя мары сналіся над пахіленымі галоўкамі прыгожых красак. Месячык падплыў яшчэ вышэй і кінуў сваю касу ў лона крынічкі і зачараваў яе.

Цяпер ёй яшчэ мацней захацелася ісці далёка, бо ёсць невыразнае характво ў гэтых прыгожых далях, у гэтых няясных парываннях да невядомага.

Прыгожыя мары-летуценні раптоўна перабіліся. Крынічка пачула, як пад ёю здрыганулася зямля, цяжкая глыба адарвалася ад гары-маці і загарадзіла ёй дарогу.

— Я не праб'юся! Я не праб'юся! — прашаптала крынічка.

— Хутчэй, хутчэй, дачушка, ты здолееш прабіцца! — з матчынай любасцю і страхам перад дарагой стратай трывожна казала гара.

— Я не праб'юся!.. Што ж? На новую дарогу. — І ў другі бок пабегла крынічка.

Заплакала гара буйнымі росамі... Асірацела старая гара, пераляцеў кудысь салавейка, пасохлі прыгожыя краскі, і жоўтымі пяскамі засыпаў вецер прыгожую дарожку крынічкі.

Нарадзіліся і пацяклі другія крынічкі, утвараючы новае жыццё, а гэтае, калісь шумлівае і вясёлае, месца пачало заміраць і глухнуць. І толькі гара з абветранымі схіламі яшчэ сведчыла аб даўнейшых часах поўнага жыцця. Нават трава не расла тут, і толькі непатрабавальны сівец[1], які прывык да цяжкіх умоў жыцця, сям-там раскідаўся крупінкамі па гары.

Прайшоў час.

Была раніца. Сонейка пачынала новы дзень. Ціха ўздымаўся над лагчынамі туман, крычалі

---

[1] *Сіве́ц* — шматгадовая травяністая расліна (трапляецца на лугах, лясных палянах, ускрайках балот).

дзесь гусі. Лесавы жаваранак ужо снаваў у небе і вітаў яснае сонца. Ён так і застаўся тут, каля гэтай гары-сіраты, і толькі адзін разганяў яе журбу; часамі ўсмешка засмучанай радасці асвячала яе жоўтыя схілы.

Скончыўшы песню, жаваранак сеў на камень, што ляжаў на самым версе гары, і сказаў:

— Паслухай, маці, а да цябе прыйшлі дарагія госці, толькі яны баяцца зірнуць табе ў вочы.

На купінках сіўца блішчалі, як слёзы, буйныя кроплі расы.

— Ах, мілая матуля, — загаманілі кроплі, — мы прыйшлі, бо вельмі ж смуціліся па табе ў далёкіх невядомых краях. Мы — часткі твае роднае крынічкі, што цякла з твайго сэрца. Даруй жа нам, матка, што мы не паслухалі цябе. — І расказалі аб сваім бадзянні.

Аб чым маглі сказаць яны, падумайце самі. Гара ж ім сказала:

— За тое, што вы не паслухалі свае маткі і кінулі сваю радзіму, вы будзеце вечна кружыцца па свеце і ніколі не збудзеце сваёй жальбы па родных кутках, і нідзе не будзеце мець вы прытулку на свеце.

Прыгрэла сонейка, заззялі кропелькі дарагімі каменнямі і зніклі. Куды ж яны дзеліся? Куды?

? 

1. Якое ўражанне аказала на вас казка Якуба Коласа? Выкажыце свае пачуцці.
2. Якой аўтар малюе крынічку? Як характарызуе яе?
3. Чым засмучана маці-гара? Як пра гэта гаворыцца ў творы?

4. Як паплацілася за сваю бесклапотнасць і неабачлівасць дачушка-крынічка? Выкажыце свае адносіны да гары і крыніцы.
5. Знайдзіце ў тэксце радкі, у якіх сфармулявана галоўная думка казкі.
6. Паразважайце, ці падыходзіць афарызм Янкі Купалы *Не шукай ты шчасця, долі на чужым далёкім полі* ў якасці парады дачушцы-крынічцы.
7. На якія часткі можна ўмоўна падзяліць твор? Падбярыце загалоўкі да кожнай з іх.

УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ

## Нямоглы бацька

Быў калісьці — так даўно, што Месяц толькі-толькі яшчэ з'явіўся на нашым Небе, — у людзей на зямлі такі паганы звычай: не карміць старых бацькоў.

Дзікія былі людзі. Дзікія-найдзікія. Аж цяпер сорамна ўспамінаць пра іх, такія дзікія. Як убачаць, што маці або бацька больш ахвотна на сонейку грэецца, чым косіць ці жне, дык адразу завозяць іх на калёсах або на санях у глухі лес, пакідаюць трохі ежы і едуць дахаты. А калі тыя хлеб з'ядуць, то або памруць з голаду, або застынуць, або дзікая звяруна іх разарве.

Такі быў Закон. І хто Закона трымаўся, таго хвалілі. А хто не трымаўся, таго маглі выгнаць у дзікую пушчу.

Ты пачакай іх да канца вінаваціць. Страшэнна цяжка, у голадзе і холадзе, жылі тыя дзікія людзі.

Частыя былі неўраджаі, таму запасаў аніякіх не было і быць не магло. А ўродзіць некалькі гадоў запар — з'явяцца ворагі. І ўжо або аддай ім, або ляж у сечы[1]. Таму кожныя рукі лічыліся: ці могуць яны яшчэ трымаць касу або меч? А калі ўжо не могуць, калі толькі кавалак да рота нясуць — нашто яны?

Адвозіў чалавек у лес старога бацьку і ведаў: ягоныя дзеці тое самае з ім зробяць. Як ты віншуеш, так і табе дзякуюць. Бо жылі гэтыя людзі па адзіным законе — законе карысці.

Дык вось, жыў сярод тых людзей у адной лясной вёсцы малады чалавек. А імя яму было Пятро.

— Глядзі — аднойчы сказаў Пятру сусед Гнат, — бацька твой ужо вось-вось пачне кароткай касою ў місцы касіць. Рыхтуйся.

— Да чаго? — нібы не зразумеў Пятро.

— Ваўкоў гадаваць.

А Гнат быў адзіны такі на вёску. І было ў таго Гната багата (таксама бедна, але болей, чым у суседзяў, і таму, як воўк за падлу, болей іншых трымаўся ён за Закон), і быў той Гнат самы большы гад. І голас меў у грамадзе.

Зірнуў Пятро на бацьку — сапраўды, у таго рукі-ногі саслабелі, за сахой не пройдуць, лука не нацягнуць. Зусім нямоглы чалавек.

І стала тут Пятру неяк непамысна[2]. Ну нібы выпадкова муху праглынуў. Не ведае, што з ім такое. Проста кепска. А бацька глядзіць на яго і нічога не кажа.

---

[1] *Се́ча* — бой, бітва.

[2] *Непамы́сна* — моташна, нудна, брыдка.

Пятро забыўся на тую размову з суседам, ды надышла восень, і паклікалі яго пад вясковы супольны[1] дуб. Прыйшоў ён, а там ужо грамада шуміць, віруе. І больш за ўсіх каламуціць ваду ў тым віры Гнат. Крычыць, рукамі махае, як малы.

— Чаго марудзіш, Пятро?! — гарлае, аж у вачах туман. — Гані ў лес ваўчыны недаедак.

— Ты чаго гудзіш, як свіння? — раз'ятрыўся[2] на яго Пятро. — Чаго так пільна хочаш? Крыві чужой?

— Згінуў твой стары грыб. А калі згінуў, трэба яго рваць з коранем. А то ад яго і на здаровыя зараза пойдзе.

Грамада сумуе, але хто галасней крычыць, таго і слухаюць.

— Ты гэта, Пятро... таго... — сказаў урэшце другі сусед, Максім. — Ты, значыцца... гэна.

Нічога не зробіш. Пайшоў Пятро дахаты. Бацька паглядзеў на яго ўважліва і зняў з калка торбу.

— Кладзі лусту хлеба. Ды меней, меней...

— Дык нашто тады ўвогуле?

— Падумаю яшчэ нейкую ноч. Але ж з пустым жыватом думаць сумна... Сала не кладзі. У хаце прыдасца. Малому... Так, Пятро, так. Закон такі. Ідзі запрагай каня.

Выйшаў бацька з хаты. Цяжкавата яму лезці на калёсы.

---

[1] *Супо́льны* (дуб) — тут: месца, дзе збіралася на сходы вясковая грамада.

[2] *Раз'ятры́цца* — моцна раззлавацца.

— Ты чаго так многа саломы паклаў? Ды мяккай, аўсянай?

— Дык назад жа прывязу.

Едуць вёскаю ў лес. Рэдкія сустрэчныя вочы хаваюць. А некаторыя і падбадзёрваюць старога:

— Нічога, хутка і мы за табою.

І толькі Гнат на ўвесь свет гарладзёрыць:

— Правільна, Пятро! Няма чаго ў рот валачы, калі барану валачыць не можаш.

Пятро праехаў моўчкі.

Прыняў іх разам з калёсамі мокры і чорны лістападаўскі лес. Часцей і часцей пачалі трапляцца між дрэў аленевыя, а можа, і чалавечыя косці.

Прыехалі. Зрабіў Пятро з яловага лапніку будан, паклаў у салому торбу. Нацягаў сушняку, насек яго дробна. Развёў цяпельца[1]. Дастаў з торбы хлеб, сала, біклажку з він ом.

— Гэта нашто? — спытаў бацька. — Бяры ўсё. І салому бяры.

— Татка, — глуха сказаў Пятро, — няўжо ты думаеш, што я цябе тут пакіну?

— І пакінеш. Бо Закон. Заб'юць цябе, — сказаў бацька.

— Не бойся за мяне, — адказаў Пятро і паехаў.

Заміргаў у гушчары за спі́наю агеньчык. Знік.

Ноч у лесе, сутонне[2] ў вёсцы. Гнат ля хаты зіркае на воз.

---

[1] *Цяпе́льца* — невялікі касцёр, вогнішча.

[2] *Суто́нне* — паўзмрок; час пасля захаду сонца перад надыходам ночы.

— Салому ўсё ж пакінуў?

— А што? Чысцей будзе!

Усю ноч праварочаўся ў хаце Пятро. А наступнай ноччу, пакінуўшы ў стайні каня, пайшоў крадком у пушчу. Доўга блукаў. Няма агню і няма. Усё, значыцца, ясна. Замарыў бацька агонь, каб лішне не мардавацца[1]. Не паверыў. Дый праўда, не было такога яшчэ на свеце.

...Аж раптам... «Ёсць ён! Ёсць агонь! Ёсць!» Бяжыць ён на агонь. Галіны яму вочы высцёбваюць.

А агонь зусім згасае. І нібы згасае ля яго скручаная постаць.

— Татка! Татка! — крычыць ён і спяшаецца.

То бацьку абдымае, то косці аленевыя збірае і кідае ў будан. Памерці захацеў. Не паверыў.

Ускінуў бацьку — лёгкага — на гершкі і нясе. А агонь за імі згасае-згасае. Згас. І чуе Пятро — мокрая ў яго патыліца.

— Ты што, плачаш?

— Плачу. За цябе. Цяпер можна расказваць. Ведаеш, чаму такіх дужа старых на вёсцы адзін я?

— Ведаю. Бітва была дзесяць гадоў назад.

— Так. Напалі. І мы ўсе, хто на парозе, — перад дарогаю ў лес — вырашылі патаемна: лепей ужо там легчы, чым ад сваіх... Усе палеглі, адзін я застаўся.

Прынёс Пятро бацьку ў хату, адгарадзіў частку каморы[2] і зрабіў там пралазы на гарышча ды ў

---

[1] *Мардава́цца* — пакутаваць.

[2] *Камо́ра* — халоднае памяшканне пры хаце для захоўвання запасаў ежы, адзення і іншых рэчаў.

падпамосце. Адтуль — на панадворак. І там бацька стаў жыць. Глухой ноччу — у хаце, удзень — у падпамосці і на гарышчы. А ноччу цёмнай і па двары патупае. Як ваўкі жылі, ад усіх хаваючыся. Але жылі.

У той год пала на людзей нібыта нейкая кара. Ураджай быў — на каціную долю, ледзь зіму перажыць.

«Нічога, — думалі людзі, — неяк дажывём да шчаўя. Адсеяцца — ёсць жыта ў ссыпных ямах. А там яно, можа, і ўродзіць».

Аж не. Напалі якраз перад вясной суседзі (у іх яшчэ горш было), пачалі людзі з імі біцца. Гарэлі свірны[1], усё насенне ў ямах папяклося — ні гаспадарам, ні суседзям, якіх адбілі. Людзі спачатку раўлі пад супольным дубам, а пасля і рукі апусцілі: жывымі ў зямлю трэба класціся. Прыйшоў Пятро дахаты дый кажа бацьку: так вось і так, усе паміраць будзем.

— Кара. Закон пераступіў, — кажа бацька. — Не шкадуеш?

— Не. Зіму разам. І цяпер — усе разам. Такі Закон — мой.

— Нашто ўсе разам? Хадзі, нешта скажу.

...І вось з’явіўся Пятро зноў пад дуб, дзе прыбітая маўчала ўся грамада.

— Усё, — толькі й сказаў сусед Максім, — цяпер дзяцей заб’ю, а пасля і сам. Ані зерня пасеяць... Ну, Пятро?

---

[1] *Сві́ран* — халодны будынак, прызначаны для захавання збожжа, мукі, прадуктаў, а таксама розных рэчаў.

— Не трэба забіваць, — голасна сказаў Пятро. — Здыміце салому са стрэх. Ад застрэхі-капяжа і да сярэдзіны пакрыцця.

— І што? — скрывіўся Гнат.

— Абмалаціце. І падмяціце дошкі, што знізу падстрэшка.

І праўда, крылі ж страху, беручы неабмалочаныя снапы. Кінуліся людзі на стрэхі. Абмалацілі салому. Змялі разам з пылам зярняткі (шмат іх нападала на падстрэшкавыя дошкі). Набралі насення, каб хоць сяк-так засеяць ніўкі.

— І падзяліцеся сакрэтам з суседзямі, — сказаў Пятро.

— Чаго-о? — узвіўся Гнат. — Ды мы іх...

— Падзяліцеся. Іначай кепска будзе.

На радасцях падзяліліся. І — нібы ад палёгкі, нібы ад падзякі — жыта ва ўсіх пайшло густое, кашлатае, як мядзведзь.

— Чаму не да канца стрэхі загадаў агаліць? — спытаў Максім.

— А вось каб вымерзлі ўсходы — тады б аж да казлоў[1] усе кроквы[2] і латы[3] агалілі, але знайшлі б што другі раз у зямлю кінуць.

— Вой, не на дабро такі розум, — сказаў Гнат. — Быць бядзе.

---

[1] *Казлы́* — цэнтральны драўляны брус даху хаты, да якога мацуюцца кроквы.

[2] *Кро́квы* — два брусы (апоры), злучаныя верхнімі канцамі пад вуглом, а ніжнімі прымацаваныя да верхніх бэлек сцяны.

[3] *Ла́ты* — абчасаныя жэрдкі, якія кладуцца ўпоперак крокваў (калі крыюць страху).

І як накаркаў. Пачало ўжо красаваць[1], пачало весяліцца жыта, калі аднойчы з'явілася над гаем вялікая галава. Ішоў Велікан. Не з добрых волатаў, а з тых, што народу ў шкоду. Нагой ступіць — вада ў след набягае і робіцца стаў[2].

— Жыта якое! — загрымеў, як сто перуноў. — Тут і пасялюся.

Наламаў бярвення, зрабіў на самай гіганцкай асіне падмосце, а на падмосці з валуноў пабудаваў сабе замак.

— Тут буду сядзець. Збожжа збераце — з'ем. З-пад казлоў збераце, засееце — і тое з'ем. А пасля вас з'ем.

Паспрабавалі стрэлы ў яго кідаць — не далятаюць стрэлы да замка. Велікан стральцоў злавіў і з'еў, каб астатнім непавадна было. Смяротна затужылі людзі. Прыйшоў Пятро ў хату.

— Усё, татка. Цяпер прападаць будзем.

— Не шкадуеш?

— І ў соты раз я такі б Закон пераступіў. Цяпер — разам.

— Нашто? — спытаў нямоглы бацька. — Хадзі сюды...

І зноў сказаў Пятро людзям, што сабраліся пад супольным дубам:

— Нічога мы з ім, Веліканам, не зробім сілаю.

— А нашто сілаю? — высунуўся Гнат. — Я яму падарункі нашу. Хвалю.

— Ён цябе пазней за ўсіх з'есць... Не, людзі, не хваліць яго трэба, а сабраць дзяцей, асабліва

---

[1] *Красава́ць* — цвісці.

[2] *Стаў (ставо́к)* — невялікая сажалка.

сірот тых, з’едзеных, і хай кожны дзень пад тую асіну яны ходзяць ды плачуць, ды моляць.

— А што з таго? — здзекліва спытаў Гнат.

— Нічога. Толькі сіроцкая сляза мацнейшая за ўсё. А вам, дзеці, я нешта шапну на вуха, хадзіце сюды.

Тыя слухалі без слёз. Бераглі іх для дрэва і замка на ім.

Што раніца, то глухла наваколле ад плачу дзяцей пад волатам асінай. Ляжаць ніцма адзін да аднаго, плачуць, моляць Веліканa. А той толькі з неахайнай барады чырвоныя дзёсны ды белыя зубы паказвае. Так ідуць хвіліны, дні, тыдні. Скора жніво.

— Ну і выплакаў нешта? — спытаў Гнат у Пятра.

А Велікан рагоча на дрэве, як жарабец, і не бачыць, што пад падмосцем зжоўкла лістота.

Гнат зноў баламуціць. І людзі ўжо з рукамі да Пятра падступіліся. А той стаіць спакойна і паверх галоў глядзіць на дрэва:

— А вы цярпенне майце.

...І вось падступіла ўначы дзікая хмара, пачалі з яе лупіць бліскавіцы, заварочаўся дзікай каменнай крушняй[1] пярун, наляцеў ураган. Храснула, ляснула аб зямлю ў хмарах смярдзючай парахні дрэва, з ракатаннем і грукатам пасыпаліся з яго каменныя брылы[2], пахавалі пад сабой Веліканa.

І ўстала над гэтай бясслаўнай магілай вясёлка.

---

[1] *Кру́шня* — тут: куча камення.

[2] *Бры́ла* — вялікі абломак; глыба.

Засыпалі багатае збожжа ў сусекі і ямы. Велікана пазбавіліся. З суседзямі мір. Дык не, зноў чмуціць[1], падбухторвае людзей Гнат. Злуецца на іх і на ўвесь свет. І вось аднаго рання падступілі ўсе з доўбнямі ды з камянямі да парога Пятровай хаты.

— Не сваім гэта ён розумам, — насаджваецца Гнат. — Гэта ён у Чорнай Сілы розум пазычыў.

— Праўда, — сказаў Максім. — Ты просты розумам. Як мы.

— Так, не сваім, — адказаў Пятро. — Бацькавым.

— Дык ты ж яго ў пушчу звёз!

— А ноччу назад прывёз.

— Не верце, — раве Гнат. — Конь і калёсы ў двары былі.

— А я на спіне. Як ён мяне малога.

— Глядзеў я, — залямантаваў Гнат, — косці ў будане.

— Аленевыя косці.

Пайшоў Пятро ў хату і вывеў адтуль бацьку:

— Жылі сілай, а розум забывалі. Жылі сённяшняй карысцю. Знішчалі «ўчора» і таму не мелі права на «заўтра».

— Гнаць іх у лес! — гарлае Гнат. — Закон пераступілі! Што ён такое дзецям сказаў, што дрэва з Веліканам ляснулася?!

— Забыў ты, — сказаў бацька, — што «сіроцкія слёзы дарма не мінаюць, пападуць на белы камень — камень прабіваюць».

---

[1] *Чму́ціць* — баламуціць, дурыць галаву.

Кінуў Гнат камень у Пятра — дзверы ў трэскі разнёс.

— Вось што, — сказаў тады Максім, — правільна ён зрабіў, пераступіўшы такі Закон. Болей таго не будзе. Шануйце дабрыню, хай і слабую. Шануйце мудрасць, хай сабе нямоглую. Насіце на руках бацькоў... Кланяйцеся гэтым двум да долу, людзі!

І тыя пакланіліся.

— Ну а ты? — спытаў у Гната Максім.

— А я пры сваім, — сказаў той. — Я свайго, як час прыйдзе, завязу-такі ў пушчу.

— А мы не дамо, — сказаў Максім. — Наш ён цяпер, а не твой. А калі ўжо гнаць кагосьці ў пушчу, дык гэта цябе. Ідзі, вый там на ветах[1], воўк.

І тут натоўп зароў. Уся ярасць на Закон, увесь адчай і ўся палёгка выліліся ў рыку.

— Хай ідзе!

Той пачаў аддаляцца. Тады Максім спытаў у бацькі:

— Дык няўжо толькі слёзы бязбацькавічаў дрэва ссушылі?

— Ну, не толькі, — усміхнуўся той. — І яшчэ нешта.

— А што ж тады?

— А гэтага ні я, ні дзеці вам пакуль не скажам, — адказаў Пятро. — На той выпадак, калі з'явіцца сярод вас хаця адзін на дзесяць тысяч такі вось Гнат. І вось калі пачне ён бацьку крыўдзіць, а тут наступіць яму на хрыбет бязлітасны

---

[1] *Ве́тах* — месяц у апошняй квадры, на зыходзе.

Велікан — вось тады толькі хай бацька адплаціць яму дабрынёй за зло. Добрай мудрасцю за злосную дурасць. А мы пакуль памаўчым.

І людзі зарагаталі. А Гнат аддаляўся ў пушчу, як камяк былой нянавісці.

І так памёр Закон стары.

І так стаў новы Закон.

?

1. Раскажыце пра свае ўражанні ад прачытанай казкі.
2. Калі адбываецца дзеянне ў творы? Што гэта былі за часы?
3. Якога закону трымаліся дзікія людзі? Чаму Пятро парушыў яго?
4. Прыгадайце, якія выпрабаванні выпалі на долю вёскі?
5. Як Пятро змог падказаць сялянам выйсце з цяжкага становішча?
6. Што за чалавек быў Гнат? Чаму Пятро не мог з ім паразумецца?
7. Які лёс напаткаў Велікана?
8. Як вы разумееце словы старога бацькі, адрасаваныя аднавяскоўцам: *Жылі сілай, а розум забывалі. Жылі сённяшняй карысцю. Знішчалі «ўчора» і таму не мелі права на «заўтра»*?
9. Якую выснову зрабіў Максім пасля ўсіх выпрабаванняў, што перажыла вёска? Знайдзіце і зачытайце яго словы.
10. Што збліжае гэту літаратурную казку з фальклорнымі творамі? Знайдзіце ў казцы выразныя адзнакі ўплыву вуснай народнай творчасці (прааналізуйце падзеі, канфлікт паміж героямі, мову твора).

ГЕОРГІЙ МАРЧУК

# Чужое багацце

Не стану хітраваць, ёсць у казцы святая няпраўда, але ёсць і намёк — добрым малайцам урок, дзяўчатам навука, старым суцяшэнне.

Сірата Ганначка ранішнюю малітву заўсёды заканчвала словамі: «Святы Божа, Святы Моцны, Святы Бессмяротны, даруй нам правіны нашы». Свята памятала яна матчын запавет, які вельмі строга загадваў хутара не кідаць, на зямлі лён вырошчваць, жыта, каноплі, калодзеж з жывой вадой людзям не аддаваць. Ды праўду старыя кажуць: чужое багацце вочы коле.

Адразу за хутарам, дзе жыла сірата, смалярня[1] пана Майданскага была. А сам Майданскі, людзі здагадваліся, прыслужваў Кадуку — самаму галоўнаму Балотнаму чорту. Кадука, які наганяў на ўсіх страх і жудасць, ніхто ў вочы не бачыў. Аднак усе ведалі, што Майданскі бярэ прыклад са свайго гаспадара: носіць чырвоны плашч, чорны шыракаполы капялюш і ніколі не здымае боты на высокіх абцасах.

Майданскі варыў смалу і прадаваў яе для дарожных патрэб. Але гэта была толькі хітрасць. Большую частку смалы ён перапраўляў патаемнымі сцежкамі ў Балота да Кадука, а той перапрадаваў яшчэ далей — самому Люцыпару ў Пекла.

Для Люцыпара грэшнікаў заўсёды мала. Усе іхнія багацці — дамы́, банкі, срэбра ды золата —

---

[1] *Смаля́рня* — прадпрыемства, дзе вырабляюць смалу.

былі набыткам не толькі Сатаны, але і яго адданых сяброў, такіх, як Кадук, а той зрэдку дзяліўся са сваімі памагатымі. Майдански таксама меў побач сваіх прыхвасняў: аднавухага Пачварніка, вартавога смалярні, і касавокую Русалку, якія так і глядзелі, каб з чужой бяды прыбытак мець. Яны сварылі між сабой суседзяў, разлучалі любых, распачыналі войны.

І ўсё было б як мае быць, ды вось толькі каханне ды дабро — лютыя іх ворагі. Здаўна служкі д'ябла не набліжаліся да тых дамоў і хутароў, на якіх раслі лён, жыта, каноплі.

Свята памятала запавет сваіх бацькоў-нябожчыкаў Ганначка: увесну, калі рыхтавалася да сустрэчы свайго сябра Бусла, гняздо якога месцілася на ліпе, што расла ля ганка, кідаць у зямлю насенне льну, жыта і канапель, прыгаворваць пры гэтым: «Сею лён, сею лён, каноплі, жыта, дай, Божа, дай, Божа, каб усё ўрадзіла».

Сонейка ззяе, Жаўрук спявае, а на душы ў Ганначкі скруха-туга. Не можа яна дачакацца свайго любага Іванку, якога забралі ў салдаты, і лістоў ад яго яна ой як даўно не атрымлівала. «Можа, на вайне ён?» — падумала і яшчэ больш зажурылася. Няўжо не вернецца да яе Іванка? Бацькі ж яго хату ў суседняй вёсцы прадалі і падаліся да сябе на Украіну. Хутчэй бы Бусел прыляцеў, можа, ён вестку ад любага прынясе.

Да прылёту Бусла старанна рыхтаваліся і ворагі — Пачварнік з Русалкаю. Яны пачалі ўгаворваць сірату аддаць ім калодзеж. У гэтым калодзежы Пачварнік хацеў зрабіць патаемны склад

і хаваць зброю. А пакуль тое ды сёе, пачаў ён рыхтаваць для Бусла гняздо-прынаду[1].

А гняздо тое было незвычайным. Зжыць са свету Бусла наважыліся Пачварнік з Русалкаю, каб ужо ніхто не мог абараніць сірату.

У свавольнай Русалкі таксама была свая мара. Надта ж ёй хацелася трапіць на баль Кадука, прывабіць яго і зрабіцца жонкай усемагутнага чорта. Надакучыла ёй у рачной ціне дні марнаваць. Вось чаму абодва яны так угаворвалі Ганначку не сеяць лён, жыта, каноплі. Не паслухалася іх сірата, памятала матчыны словы: «Ніхто з нячысцікаў не зможа пераступіць твайго парога, калі ля дому будуць расці лён, каноплі, жыта».

Вось чаму і сварыліся Пачварнік з Русалкаю:

— Ды калі б не я, цябе б гаспадар смалярні Майданскі не зрабіў бы гандляром.

Так яны маглі палову дня крычаць і клясці адзін аднаго, пакуль не ўмешваўся пан Майданскі:

— Сварку спыніць! Ну што, задзіры, адгаварылі сірату?

— Яна нас не слухае, — паведаміў Майданскаму Пачварнік.

— Кепска. На той зямлі, дзе растуць лён, жыта, каноплі, Кадук не мае ўлады над людзьмі, — Майданскі нервова пагладзіў свае чорныя вусікі.

— Засуха патрэбна. Хай Кадук пашле засуху, — прапанаваў Пачварнік, — вада ў калодзежы перасохне, нечым будзе паліваць рунь[2]. Бусла мы

---

[1] *Прына́да* — усё тое, што прываблівае.
[2] *Рунь* — усходы, пасевы азімых культур.

адужаем, а вось калі салдат Іванка вернецца, кепска нам будзе.

— Супакойцеся. Іванку на вайне кантузіла. Ён памяць згубіў. Не знойдзе сюды дарогі, — супакоіў іх Майданскі.

— Адкуль ты ведаеш? — не давала веры Русалка.

— У Кадука на двары багата чароўных камп'ютараў. Яны ўсё яму паказваюць. Не дачакаецца Ганначка свайго збавіцеля. А калі раптам ён і з'явіцца, дык не пазнае яе, ён жа памяць згубіў, не памятае, хто ён, кім быў раней. Бусел — першы вораг Кадука.

— І чаго ён яго так баіцца? — здзівіўся Пачварнік.

— Будзеш усё ведаць, хутка састарэеш. Выконвай, што табе загадалі, і мы хораша зажывём! — пераканаў іх гаспадар смалярні.

— Я зайздрошчу чужому багаццю, — адразу сказаў Пачварнік.

— Я зайздрошчу чужому шчасцю, — прызналася і Русалка.

— А я зайздрошчу чужой волі. Завалодае Кадук Ганначкінай душой, мы пераможам, кожны атрымае сваё. Ты, Пачварнік, — зямлю, калодзеж. Ты, Русалка, будзеш прынята пры двары Кадука, пачнеш па ўсім свеце вандраваць. Мне абяцалі ўладу над усімі банкамі і рэстаранамі.

— Дык чаму ён сам не заманіць Бусла ў пастку — і ўсё ў парадку? — абураўся Пачварнік.

— Аракулы-прадказальнікі прадказалі, што Бусел прынясе яму пагібель. Вось чаму ўсё лета, пакуль Бусел гасцюе ў Ганначкі, Кадук сядзіць у сваім балотным палацы за дванаццаццю замкамі.

 

— Ды я гэтага Бусла з аўтамата! — завёўся Пачварнік.

— Бусел — птушка Боская, — астудзіў ягоны запал Майданскі, — яна нам непадуладная. Прымусім падманам добрага і шчырага Іванку застрэліць Бусла залатой куляй.

— Засуха патрэбна. Калі ежы не будзе, Бусел сам адгэтуль паляціць.

— Пазваніце, пан Майданскі, Кадуку і раскажыце пра ўсё, — прасіла Русалка.

Згадзіўся Майданскі і пазваніў Кадуку.

— Дармаеды! Абібокі! — закрычаў у трубку Кадук, голас у яго быў скрыпучы, непрыемны, нават страшны. — Прыляцеў Бусел?

— Не. Яшчэ не! — разам адказалі Майданскі і Пачварнік.

— Добра, невукі. Я зраблюся віхрам і прынясу засуху. Чакайце. Ваша шчасце, што сёння трынаццатае, пятніца!

Не паспеў Майданскі схаваць свой тэлефон, як над гарызонтам з'явілася невялікая чорная хмарка, на вачах яна ператварылася ў буру-віхор. За некалькі секунд віхор абляцеў хутар. Спалохалася Ганначка. Гарачыня стаіць, нібы ў пустыні.

Лён, жыта, каноплі не растуць. Вады ў калодзежы амаль не засталося. А яшчэ больш растрывожылася яна з-за таго, што Бусел і салдат Іванка дарогу не знойдуць: усё пяском пазаносіла.

Русалка з Пачварнікам павесялелі. Вярнуліся яны да смалярні (яе віхор абышоў, не закрануў), смачна паабедалі і ад задавальнення запелі на свой лад...

 

Пакуль яны балявалі, прагледзелі Бусла. Ён спакойна праляцеў над лесам, смалярняй, абмінуў замаскіраванае гняздо і сеў на родную ліпу ля ганка Ганначкінай хаты. Дзяўчына нарадавацца не можа на дарагога госця. Абдымае яго, лашчыць па галоўцы. Пытае, ці не бачыў у чужых краях Іванку? Бусел галавой хістае, маўляў, не бачыў, не сустракаў. Зажурылася Ганначка, але духам не пала: удваіх з Буслам бяду адужаць лягчэй. А Майданскі, Пачварнік, Русалка пасля багатага пачастунку вырашылі гадзінку адпачыць. Толькі ляглі, як з'явіўся чорны, маленькага росту Кадук. Схамянуліся яго падначаленыя — і на калені, паклоны адбіваюць. Сто гадоў жыцця атамнага яму зычаць.

Кадук казлінай нагой як тупне:

— Даю вам трынаццаць дзён. Калі не заманіце сірату ў мой балотны палац, літасці не чакайце.

— Яна не паддаецца на ўгаворы, цягае з калодзежа ваду. А ён чароўны: вады ў ім не менее, — паведамляе Майданскі.

— Хлусня. Я зараз дастану з акварыума чорную жабу, што харчуецца толькі адной смалою і выдыхае атручанае паветра. Адвярніцеся. Ніхто не можа яе бачыць.

— Чаму? — напалохалася Русалка.

— Таму што, — угнявіўся Кадук, — хто пабачыць яе, адразу зробіцца сляпым. Беражыце яе больш за свае вочы, — строга загадаў.

Кадук выцягнуў з акварыума чорную жабу, схаваў яе ў торбачку, торбачку паклаў у вядро з вадой і працягнуў Майданскаму.

— Неўзаметку падкіньце жабу ў калодзеж!

 

— Зробім, — адказаў Майдансկі.

Пачварнік адвярнуўся, як і загадаў Кадук, і раптам у бінокль убачыў Бусла:

— Бусел! Бусел прыляцеў!

Пачуў Кадук пра Бусла — і куляй да сябе ў балота. Толькі паспеў сказаць: «Забіце яго!»

Перш-наперш вырашылі заманіць Ганначку ў сваю пастку, каб Бусел адзін застаўся. Надумаліся спачатку запусціць у калодзеж жабу, а пасля ўгаварыць дзяўчыну накіравацца да Кадука па жывую ваду. А пасля... Няма такой сілы, якая б адужала Кадука ў яго ўласным палацы-логаве. Але, каб кінуць жабу ў калодзеж, трэба адцягнуць Ганначкіну ўвагу. Для гэтага пан Майдансկі апрануўся ў іспанскія ўборы і прыкінуўся сеньёрам матадорам[1]. Песню нават прыдумалі. Русалка словы напісала. Яна ж усім замежным цікавілася.

Прыйшлі ў Ганначкіну хату. Русалка ўзялася расхвальваць госця, маўляў, такі прыгажун. Майдансկі ўключыў магнітафон, пачаў скакаць, абцасамі стукаць-грукаць, рукі разводзіць, як яго Русалка навучыла. Сапраўдны «артыст балета». Песня нават спадабалася Ганначцы. Русалка і сама падпявала.

А тым часам Пачварнік цішком сваю брудную справу зрабіў: жабу ў калодзеж падкінуў.

Хвацка скакалі Майдансկі і Русалка, але надта ж разышліся. Прыкмеціла Ганначка, што адна нага «сеньёра» чортаў капыт нагадвае. Здагадалася яна, што пад іспанскімі ўборамі Майдансկі ха-

---

[1] *Матадо́р* — галоўны ўдзельнік бою быкоў, які наносіць смяротны ўдар быку; тарэадор.

ваецца, але выгляду не падала. «Сеньёр» запрасіў яе на конкурс прыгажунь у горад Мадрыд. Бясплатна авіябілеты дае. Першае месца, прэміі, грошы — усё абяцае. Русалка ад зайздрасці прытомнасць страціла. Ды не згаджаецца Ганначка ні на якія абяцанкі. Пайшлі госці ні з чым.

Раніцай выцягнула Ганначка вядро вады з калодзежа і ахнула. Не вада, а гразь са смалою. Пачварнік з Русалкаю ў засадзе ляжаць, рукі ад задавальнення паціраюць. Усё атрымалася належным чынам. Не жыць больш на хутары Ганначцы.

Бядуе сірата, не ведае, як калодзежу дапамагчы, як яго вылечыць. Чужынцы — Пачварнік, Русалка, Майданскі — па яе хутары, як па сваёй зямлі, пахаджваюць, парады даюць.

— Трэба ісці да Кадука. Толькі ў яго жывая вада ёсць.

— Ты жывую ваду вылееш у свой калодзеж, ён і паздаравее. Я ведаю, усё жыццё з вадой справу маю, — нахабна маніць Русалка.

Не дае веры Ганначка. Зноў падышла яна да калодзежа, зазірнула глыбока-глыбока і раптам убачыла на дне чорную жабу, ад якой зыходзіла пранізлівае святло. Заплюшчыла вочы дзяўчына, ды позна. Глядзіць на дом, на буслінае гняздо, на поле і нічога не бачыць. Зразумела яна, што асляпла.

Пачварніку і Русалцы толькі таго і трэба. Сталі яны яе суцяшаць, угаворваць. Параіцца сіраціне няма з кім, і згадзілася яна раніцай пайсці да Кадука па жывую ваду. Не забылася, на ноч прачытала малітву, закончыла яе словамі: «Святы Божа, Святы Моцны, Святы Бессмяротны, даруй

 

нам правіны нашы». Нейкім цудам гэтыя словы пранесліся над лесам, балотам, полем і даляцелі да маленькай чыгуначнай станцыі Гарынь, дзе толькі што выйшаў з цягніка салдат Іванка. На ім шынель, старыя боты, за плячыма торба льняная. Яму было ўсё роўна, дзе выходзіць. Як убачыць з акна цягніка калодзеж, дык і выходзіць на станцыі і рушыць да калодзежа. На гэты раз ён калодзежа не ўбачыў, але праз сон пачуў словы малітвы, што прамаўляла Ганначка. Іванку заўважыў Бусел, які кружыў высока ў небе. Бусел паляцеў наперад, не пакідаў па-за ўвагай салдата і падказваў яму шлях.

Аднак не паспеў дайсці да хутара салдат, як раптам перахапілі яго на скрыжаванні Пачварнік з Русалкаю і заманілі ў смалярню. Яны пазналі Іванку, пачалі частаваць яго абедам, півам паіць.

Расказаў ім Іванка пра сваё гора: на вайне страціў памяць. Ляжыць ён паранены і сніць Анёла-Ахоўніка, які кажа яму: «Кінь зброю, вяртайся на радзіму! Па дарозе ты мусіш ачысціць сорак калодзежаў, і тады дзяўчына напоіць цябе жывой вадой з саракавога калодзежа; у той самы момант памяць вернецца да цябе».

— Вось трыццаць дзевяць калодзежаў я ўжо ачысціў, — кажа Іванка. У вас тут усюды пясок. Можа, падкажаце, дзе крэмень адшукаць, каб калодзеж ачысціць: бачыў я тут адзін недалёка, — звярнуўся Іванка да Пачварніка і Русалкі.

Скемілі яны, што Ганначкін калодзеж салдату ад чорнай смалы век не ачысціць, але на хітрыкі пайшлі. Паслуга за паслугу. Мы табе, маўляў, дазволім на нашай зямлі набраць крэменю, а ты за гэта адну птушачку застрэль, з якой у нас варожасць смяротная.

— Усё зраблю, калі крэменем падзеліцеся... Спяшацца мне трэба. Словы малітвы пачуў... не ведаю, чые гэта словы, але чалавеку, што іх прамовіў, кепска... гора ў яго вялікае, — адказаў Іванка. — Каго страляць трэба?

— Адразу відаць, што чалавек дзелавы. Ды Бусла праклятага. Вунь там сядзіць. Стрэльбачку і кульку залатую табе гаспадар смалярні пан Майданскі напракат дасць. За ўсё заплачана. Птушачка на зямлю ўпадзе — камень твой, — распараджаўся Пачварнік.

Хоць Іванка і страціў памяць на некаторы час, але душу д'яблу не прадаў. Вельмі важна кожнаму чалавеку, калі напаткаюць яго гора, бяда, адзінота, душу зберагчы, не прадаць яе чорту, зразумець, дзе дабро, а дзе зло.

«Нешта тут не тое, — падумаў Іванка. — Няўжо Бусел, святая птушка, замінае ім? Відаць, яны толькі здаюцца добрымі, а самі подлыя».

— Вы стрэльбу рыхтуйце, а я ў разведку схаджу да Бусла. Прымеруся, дзе лепш засаду наладзіць, — сказаў Іванка.

Назіраў ён за Буслам хвілін трыццаць. Дзіўная птушка: нічога не кажа, а ўсё як чалавек робіць — носіць, збірае на дарозе каменьчыкі і кідае іх у калодзеж. Ды не разумее, што калодзежу можа дапамагчы толькі крэмень. Здзівіўся ён Буслінаму розуму. Падышоў, загаварыў з ім.

— Я цябе, браток, забіваць абавязаны. Але я гэтага не зраблю. Ты прыгожая, разумная птушка. Не бойся. Давай мы перахітрым тваіх ворагаў. Калі будзеш ляцець над балотам, я стрэлю, але міма. Ты ж зрабі выгляд, што куля ў цябе трапіла,

і каменем упадзі на зямлю. Узлятай толькі тады, калі пачне змяркацца.

Разумны Бусел заківаў галавой у знак згоды.

— Вось і добра. Дзякуй! Ты больш каменьчыкі ў калодзеж не цягай, пачакай, я ачышчу калодзеж.

Вярнуўся Іванка да сваіх новых «сяброў». Тыя яго ўжо чакалі, каб ісці на паляванне. Далі яму стрэльбу і пайшлі. Побач з ім Русалка з Майданскім, за імі — Пачварнік з біноклем. Падказваюць, перашкаджаюць салдату. Бусел кружыць, усё бліжэй, бліжэй. Стрэліў Іванка. Як і дамовіліся, каменем упаў Бусел на купіну і ляжыць, не варушыцца. Пачварнік глянуў у бінокль. Усё выдатна. Ухвалілі Іванку, завялі ў каменяломню. Узяўся ён калоць крэмень. Майданскі ж з хеўрай[1] з дакладам да Кадука заспяшаліся. Маўляў, усё ў парадку. Бусла, якога вы так баяліся, сярод жывых няма. На свае вочы бачылі.

Як назад ішлі, збочылі да хутара. Іванка камень крышыць, Бусел на купіне ляжыць, Ганначка адна ў хаце сядзіць. Падышла да яе Русалка і кажа:

— Бусел не вытрымаў засухі, паляцеў адгэтуль. Збірайся, трэба ісці да Кадука па жывую ваду. Там баль наладжваюць. Усе знакамітасці з'явяцца. Патанцуеш адзін танец з Кадуком — абсыпле золатам, жывой вады дасць. Жыццё — цуд. Не ўвесь жа век аслеплай быць. Дапамогі чакаць няма ад каго. Разлічвай толькі на нас.

---

[1] *Хе́ўра* — група людзей, якія аб'ядналіся для разбою, злачынства; зграя, шайка, банда.

 

Згадзілася Ганначка, і накіраваліся яны да Кадука, а Пачварнік гаспадарыць на двары ўзяўся. Грандыёзныя планы ў Пачварніка. Ён ужо наважыўся смалярню купіць, толькі б на балі ў Кадука ўсё атрымалася, як задумалі.

Тым часам Іванка скончыў работу, склаў камень у мех, выйшаў з каменяломні. Бачыць, Русалка вядзе за руку прыгажуню — ні ў казцы сказаць, ні пяром апісаць. Надта ж спадабалася яна Іванку, вырашыў ён паглядзець, куды яны кіруюцца. Так ішлі з купкі на купку, пакуль не апынуліся сярод балота. Бачыць — а спераду сухое дрэва, у дрэве дупло з чалавечы рост. Да яго і пайшлі Русалка з дзяўчынай. Як высветлілася, не дупло гэта, а ўваход у Кадукоў падземны палац. На ліфце ўніз спусціліся, Іванка за імі, а там гасцей поўна, слугі мітусяцца з пачастункамі на падносах. А на падносах — віны заморскія. Замест сцэны — экраны тэлевізараў ды камп'ютараў.

Пан Майданскі падвёў да Кадука сірату Ганначку і салдата, якога ён прыкмеціў. Пачаставалі салдата віном, падарылі пярсцёнак залаты, гадзіннік-тэлевізар. Толькі невясёлы Іванка. Увесь час турбуецца ён з-за сляпой дзяўчыны. Не п'янее ягоная галава. Цвярозы ў яго розум. Бачыць салдат, што Майданскі ап'янеў. «Дай, — думае, — спытаю, хто гэта дзяўчына і што з ёй?» Майданскі ўсё пра дзяўчыну і расказаў: як убачыла яна чорную Кадукову жабу і аслепла на трынаццаць дзён і трынаццаць начэй, а думае, што аслепла назаўсёды. Вось Русалка і прывяла яе сюды па жывую ваду. Але каб атрымаць яе ад Кадука, трэба з ім патанцаваць. Вось тут уся таямніца: варта Кадуку

 

дакрануцца да Ганначкі — і дзявочая душа апынецца пад яго ўладай.

«Вось што ён надумаў», — зразумеў Іванка злосную Кадукову задуму. Тут пачулася змяінае сыканне. Усе ведалі, што за гэтым сыканнем мусіць з'явіцца сам Кадук. Вельмі шкада зрабілася Іванку Ганначкі. Не мог ён дапусціць, каб такая прыгажуня балотнай пачвары ў лапы трапіла. І пачаў ён думаць, як уратаваць яе. У залу тым часам заляцеў віхор, і з яго з'явіўся Кадук.

— Ці падабаецца вам у мяне? Ці дастаткова ежы, пітва, ці весела? — пытае ён піскнівым голасам.

— Усё даспадобы. Усім задаволены! — хорам адказваюць госці.

Кадук чырвонымі вачыма агледзеў усіх.

Падвёў да яго Майданскі салдата і расказаў, што той забіў Бусла.

— Малайчына! Прасі, чаго пажадаеш. Усё дам. Прасі, — вымавіў Кадук, а сам вачэй не зводзіць з Ганначкі.

— А ты не хлусіш? Ты на самай справе Кадук? — нечакана спытаў Іванка. Усе госці вохнулі нават.

— Ці ж я не падобны на Кадука, Люцыпаравага сына? — здзівіўся Кадук і злёгку ўгнявіўся.

— Не! Дзед мне калісьці казаў, што ў сапраўднага Кадука барада пазалочаная, — смела адказаў Іванка.

Усміхнуўся Кадук:

— Ты маеш рацыю, салдат. Раз на год Кадук бараду залоціць, калі шлюб бярэ. Сёння менавіта такі дзень. Нявеста побач. Ты майстра на ўсе

рукі. Дазваляю табе пазалаціць маю бараду. Пан Майданскі, падайце служываму залаты парашок.

Майданскі выканаў загад Кадука.

— Што яшчэ трэба?

— Парашок... так... і смала.

А навошта?

— Перамяшаем са смалой, тады золата лепш на барадзе ўтрымаецца.

— Лагічна, — адказаў Майданскі.

Іванка хуценька перамяшаў смалу і залаты парашок, расплавіў і паднёс гаршчок да Кадука. Той асцярожна апусціў сваю доўгую бараду.

— Не горача? — пацікавіўся салдат.

— Самае то, — адказаў з усмешкай Кадук. — Чым аддзячыць табе, салдат?

— Дазвольце адзін танец з вашай новай нявестай станцаваць.

— І ўсё? Танцаваць — не ночку гуляць. Дазваляю, — паблажліва адгукнуўся Кадук.

Танцуе Іванка з Ганначкай і ціха пытае:

— Навошта ты сюды прыйшла?

— Па жывую ваду.

— Не давай веры. У Кадука яна атручаная.

— А ты хто?

— Сябра твой. Хачу табе дапамагчы. Як толькі ўсе пачнуць скакаць, уцякайма адгэтуль.

— Куды? Я ж дарогу да свайго хутара не знайду.

— Там, дзе Бусел лётае, — там і хутар, — супакоіў дзяўчыну Іванка. — Я табе дапамагу.

Кадуку павольны танец быў не даспадобы, завёў ён хуткую музыку. Не ўседзела Русалка, так ёй карцела паказаць перад Кадуком свой спрыт, падхапіла яна Майданскага, пайшла скакаць.

Але раптам канцэртмайстар завёў новы танец і абвясціў яго танцам жаніха і нявесты. Хацеў быў Кадук выцягнуць бараду з гаршчка, ды не можа — смала застыла. Схапіў ён гаршчок і ў шаленстве забегаў па зале. Кляне салдата, а таго ўжо і след прастыў. Ускараскаліся наверх Іванка ды Ганначка, ды кулём прэч ад заклятага месца пабеглі. Служкі панікуюць, госці напалохаліся, на падлогу паваліліся: Кадук раз’юшаны, дык жахлівы.

— Камп’ютарам, камп’ютарам заблакіруйце ліфт, зачыніце выхад! — крычыць ён, але ніхто не цяміць, на якім камп’ютары прыладжана сістэма кіравання. Нарэшце Майданскі ўключыў адзін экран, і стала відаць, што салдат з Ганначкай пераадолелі балота, набліжаюцца да лесу.

— Адразайце мне бараду да самага падбародка, — загадвае Кадук. — Хутчэй, хутчэй...

Адрэзалі пазалочаную бараду, вызвалілі Кадуку рукі, ён жа ўвесь час у руках трымаў гаршчок.

— У пагоню! — загадаў ён Майданскаму, Русалцы і свайму целаахоўніку.

— Стамілася я, давай адпачнём, сіл больш няма, — прапанавала салдату Ганначка.

— Нельга. За намі пагоня. Наперадзе калодзеж. Вып’ем вады, сіл паболее, — адказаў Іванка.

— Асцярожна! Не пі! Там чорная жаба. З-за яе я і аслепла, — спалохалася Ганначка.

— Ведаю. Мы Кадукову прыслужніцу адтуль крэменем вытурым.

Кінуў Іванка ў свой саракавы калодзеж крэмень. Забурліла вада, успенілася. Зрабілася жабе моташна.

Каб жывую ваду атручваць, трэба жабе смалою падмацоўвацца. Памкнулася яна наверх, выкараскалася вонкі. Наважылася да смалярні скакаць, ды ўбачыў яе з вышыні Бусел, ухапіў за шкірку ды ў рот: на тое яна і жаба, каб Бусел яе глынуў. Не ведаў ён, што жаба незвычайная, што Кадукова смерць у ёй хаваецца. А калі б ведаў — яшчэ б хутчэй глынуў. Бусел чорту ніколі сябрам не быў.

Не дайшоў Кадук да хутара, спыніўся, нядобра яму зрабілася, ногі скамянелі. Уключыў камп'ютар на сваёй руцэ і бачыць, што стаяць ля калодзежа Бусел, Ганначка і салдат, жывую ваду набіраюць.

Здагадаўся ён, што Бусел чорную жабу глынуў і што зараз яго, Кадука, нішто ад пагібелі не ўратуе.

Умылася вадою Ганначка, і адразу заслона з яе вачэй спала. Зірнула яна на свайго збавіцеля, пазнала:

— Іванка! Родны!

Пачуў гэтыя словы салдат, і адразу памяць да яго вярнулася. Азірнуўся вакол, пазнаў родныя мясціны, хутар, калодзеж, любую Ганначку, якая абяцала чакаць яго з арміі. Абняў яе, верную ды прыгожую. Глядзіць на закаханых Кадук, і слабасць яго апанавала. Пачварнік за ім з засады назірае. Хаця і абвешаны ён зброяй з галавы да ног, а на самай справе баязлівец. Уцёк агародамі.

Канае Кадук. Паклікаў Майданскага:

— Адпомсці ім за мяне, вось табе капсула з атрутай. Усё, што тут ёсць, разлі на хутары. Пяцьсот тысяч гадоў нішто жывое там расці не будзе. Табе перадаю палац мой і ўладу галоўнага Балот-

 

нага чорта. Працягвай нашу справу. Я паміраю. Ператваруся ў віхор і больш ніколі не з'яўлюся. Пылам вам дапамагаць буду. Вось табе дыск ад усіх камп'ютараў і пярсцёнак з пячаткай самога Сатаны.

— Усё зразумеў, бацька родны! Жаданне тваё выканаю як мае быць, — адказаў Майданскі.

— Капсулу з атрутай беражы... — прамовіў апошнія словы Кадук і знік, толькі пыл завіхурыўся.

Тут прыбег увесь у слязах Пачварнік, давай скардзіцца: яго ў каршэнь з хутара прагналі, тавар канфіскавалі[1], пагражаюць. Вядома, усё гэта ён навыдумляў, каб спачуванне да сябе выклікаць. Пачула яго расказ Русалка — перадумала ўцекачоў даганяць. Бокам, бокам да сябе ў рэчку. Хоць і сумна там, журботна, але ж надзейна. А з такімі сябрамі адно пагібелі дачакаешся.

— За мной! — загадаў Майданскі.

Пачварнік спаслаўся на боль у нагах і памкнуўся да сябе на Пачвару — акрайчык зямлі паміж лесам і балотам. Перачакаць вырашыў вайну Майданскага з Іванкам. У Пачварніка сутнасць такая: падбухторыць да сваркі, бойку справакуе, а сам у схованку, каб пасля з пераможцам нарабаванае дабро ды трафеі[2] падзяліць.

— Эх, здраднікі! Вы яшчэ пашкадуеце. Прыбяжыце да мяне на паклон, — прыгразіў Майданскі і з целаахоўнікам рушыў да хутара.

---

[1] *Канфіскава́ць* — тут: забраць.

[2] *Трафе́й* — багацце, захопленае ў пераможанага праціўніка.

Вельмі спяшаліся Іванка ды Ганначка, рупіліся, палівалі вадой з калодзежа лён, каноплі і жыта. «Святы Божа, Святы Моцны, Святы Бессмяротны, даруй нам правіны нашы», — ціха прасіла Ганначка. Закрасавалі лён і каноплі; вытыркнуліся жытнія каласкі. Ганначка з ільну сатчэ палатно, нашые кашуль, з канапель алей выцісне. Іванка з зерня мукі намалоціць, напякуць яны смачных пірагоў.

Спазніўся Майданскі са сваім целаахоўнікам. Просіць Іванку, каб той сірату яму вярнуў, інакш ён усё навокал атруціць. Кажа так Майданскі, а сам увесь час галаву ад канапель, ільну ды жыта адварочвае. Бо як гляне на іх, дык уся злосць знікае і на сон яго цягне. Накіраваў ён целаахоўніка дзялянкі з жытам, ільном, каноплямі павытоптваць, парасткі з карэннем павырываць. Ды Іванка не лыкам шыты. У арміі добра засвоіў прыёмы рукапашнага бою. Застаўся Майданскі адзін. Выняў капсулу, пагражае ўсё атруціць. Выліў кроплю яду на траву, яна адразу пажухла і завяла. Тады Іванка паліў яе жывой вадой — трава выпрасталася, ажыла, зазелянела.

— Няма чаго радавацца! Я дачакаюся свайго часу, — страшыць Майданскі. У яго ад злосці нават хвост вырас. Зусім у чорта ператварыўся.

— Не дачакаешся! Мы дзяцей сваіх навучым лён, жыта, каноплі садзіць, калодзеж берагчы, родную зямлю шанаваць, адно аднаму дапамагаць, — адказвае яму Іванка.

— А вось і першая летняя навальніца! Дачакаліся, дзякуй Богу! — узрадавалася Ганначка.

 

Стаў Іванка перад Майданскім і кажа:

— Выбірайся, пакуль цэлы, чорт балотны, чуеш — навальніца. Гэта Ілля табе з нябёсаў прывітанне пасылае.

Вядома, як чэрці навальніцы баяцца; хуценька спусціўся Майданскі ў падземныя лабірынты Кадука, толькі яго і бачылі. А шчырым ды добрым людзям чаго грому нябеснага палохацца?

Добры дождж апырскаў зямлю, сонца выйшла з-за хмар. Усё жывое жыццю радуецца.

— Я кахаю цябе, Ганначка, — казаў шчаслівы Іванка.

— І я кахаю цябе, Іванка, — адказвае шчаслівая Ганначка.

Ім хацелася спяваць. І яны заспявалі сваю песеньку: «Сонейка ззяе, ветрык вее. Бусел клякоча над галавой. Няма той сілы, што б разлучыла, мілая, мілы, з табой».

Тут і казка канчаецца. Я на вяселлі быў, гуляў, піва піў. Пеўніка мне падарылі, які ўзлятае на дрэва і салоўкай спявае. Дачка мая паказвае яго ўсяму мястэчку. Не верыце? Чыстая праўда. Таму што казкі без праўды не бывае.

**1.** Які запавет атрымала прыгажуня Ганначка ад сваёй маці? У чым яго сэнс?

**2.** Узгадайце, якія выпрабаванні выпалі на долю Ганначкі? Як яна з імі спраўлялася? Хто дапамагаў ёй?

**3.** Што аб'ядноўвае Ганначку, Іванку і Бусла? Чаму яны трымаліся разам?

4. Хто з герояў прадстаўляе ў казцы злыя сілы? Ахарактарызуйце кожнага з персанажаў. Што агульнае паміж імі?
5. Якія эпізоды казкі вам запомніліся? Перакажыце іх сваімі словамі.

ПЯТРО СІНЯЎСКІ

## Зачараваная гаспадарка

Казку казаць — не снапы вязаць. Языком малоць — што моркву палоць. Калі ёсць ахвота, сядай каля плота, слухай, матай на вус... Жыў ды быў адзін беларус. Багацце меў, бо стаяў ля хаціны хлеў. Тут жа пуня[1] для сена, на дровы павець. Што яшчэ трэба мець? Во-во, здагадлівы: карову, цялушку, курэй... ну, і гэтак далей.

І гэта не ўсё. Што даражэй любой навукі? Вядома ж, здароўе і моцныя рукі. Меў Гаўрыла і тое, і другое. А яшчэ... за лесам луг, перад возерам агарод, у хаце печ, на печы кот, у святліцы калыска, у калысцы — касец. Пакуль з соскай, але маладзец. І яшчэ два сыны ў Гаўрылы: яны бацьку ва ўсіх справах падмога — і на кірмашы з цыганом старгавацца, і за камель[2] добра ўзяцца. Работу зробяць так, што і перад суседзямі не сорамна.

З тым і жыў Гаўрыла (пад Полацкам). Ад вяселля да наваселля, ад радзін да хрэсьбін, ад свята

---

[1] *Пу́ня (адры́на)* — вялікая халодная будыніна для захоўвання сена.

[2] *Каме́ль* — ніжняя патоўшчаная частка дрэва.

сонца да свята марозу: з дня ў дзень, з года ў год працай славіў свой род.

Пакорны быў не толькі людзям. Бывала, дождж ідзе — ён кошык пляце. А на свята ў Гаўрылы поўна хата гасцей. Затое ж калі работа — упоцемках абуваў-разуваў боты. Сала з часнаком, з хрэнам еў, малаком запіваў, мабыць, таму на марозе пацеў і ў спякоту не млеў. Ладно́, калі здаровы, — усё адно, ці фасолю лушчыць, ці ехаць па дровы.

З кожным годам усё лепш і лепш жылося Гаўрылу. Нават выпадала часта вечаркам пасядзець на лавачцы ў двары і паразважаць, чаму лісце дрыжыць у асіны, а ў адлігу далёкі лес сіні, чаму камары таўкуць мак, а то на захад сонца глядзець проста так.

Ды якая ж казка, калі ўсё добра! У казцы, як і ў жыцці: добра, добра, а потым як здарыцца, хоць у бубен бі, хоць у жалейку грай, а бядзе тое, па што прыйшла, — памры, а аддай. То не ў бульбе лебяда, а бяда дык бяда. Дык вось слухай: падчаравалі Гаўрылу. Што-што, а гэта даўней на Белай Русі ўмелі. Хто ячмень малаціць, хто сеяць авёс, а хто ў суседаву шчыліну ўторкнуць свой нос. Ці там ведзьма шапнула, а можа нячысцік[1] накруціў залом[2] (такіх, вядома, калі зловяць, частуюць калом). Ёсць жа на свеце людцы: такі ў жвіры рыдлёўкай капне — і то чарвяка парэжа! Знаць, у яго на родзе шкадлівасць упісана.

---

[1] *Нячы́сцік* — нячыстая сіла, чорт.

[2] *Зало́м* — заблытаны і заламаны чараўніком пук жытніх сцяблінак, каб наклікаць бяду на поле селяніна.

 

І пайшло ўсё наперакос. Залом быў ці не залом, а толькі карова ў Гаўрылы стала казой: пойдзе гаспадар карміць худобу — стаіць яна, жвачку жуе. Толькі вочы занадта сумныя, як бы што сказаць хоча і не можа. Не ўмее. А прыйдзе жонка Гаўрылава з даёнкай — у хляве не карова, а каза. З казы ж малако вядома, хоць ты яе па шэрсці гладзь, хочаш — пугай лупцуй. Падоіць гаспадыня казу, даёнку хусткай накрые і бягом дахаты, каб суседзі такі сорам не ўбачылі. Ды ніяк не народзіцца той чалавек, які б здолеў свет спадмануць: там побач з хлявом алешына расла, на ёй сарока сядзела, усё гэта згледзела і панесла па свеце: «Каза барадой трасе, а Гаўрылава жонка пустую даёнку дамоў нясе». Сарока, калі што добрае ўбачыць, тады маўчыць, калі ж у каго бяда, тады кпіць.

Ды адна бяда не ходзіць: пасее Гаўрыла жыта — вырасце гірса[1]. Сажне ячмень — то каласы пустыя, то зялёненькія, што і на печы пры патрэбе не прарастуць. Свіння апаросіцца — Гаўрыла тузін[2] сысункоў налічыць. Пойдзе гаспадыня іх малаком паіць: і лічыць няма чаго — адзін ля маткі бегае і той як на чужых нагах. Косіць Гаўрыла луг — трава мядовая, духмяная, хоць чай вары. Зімой жа ад таго сена аж дух выварочвае. Квактуху гаспадыня на яйкі пасадзіць — прывядзе куранят плойму, а як у пёры ўлезуць — адны пеўні. Адкорміць Гаўрыла парсюка пудоў у дванаццаць, асвяжуе — парася. А зверху на ўсе напасці пацукі

---

[1] *Гірса́* — пустыя (без зерня) каласы.
[2] *Ту́зін* — дванаццаць.

ў двары завяліся. Гаўрылаў кот Баюн сабе памаўзуе[1], па гаршчках вяршкі злізвае, пацукі сабе ў нару цягнуць што толькі пад лапу трапіцца. Кот Баюн сядзіць на печы і чаруе сам сябе сваімі ж песнямі, а ў пацукоў у іхніх норах усю зіму паміж сабой дзяльба ідзе — муку на крупы, гарох на жыта…

З той прычыны ў Гаўрылы цяпер і плуг не арэ, то дождж у дварэ, то сонца паспяшаецца ўзысці, а куды ж без расы касіць ісці?!

У доме сваркі, калатня пачалася — Гаўрыла жонку ў бедах вінаваціць, яна гаспадара кляне, а на стале акраец хлеба ўсё меншы і меншы становіцца.

Сам не свой Гаўрыла — па двары бегае, ад адной работы да другой кідаецца. На ўсё наваколле святая нядзеля ў звон б'е, людзей на свята склікае, а Гаўрылу і адпачыць часу не стае. Ад гасцей цураецца, да суседа не завітаецца. Сыноў работай змучыў так, што ім і свет нямілы стаў.

Адна ўцеха ў Гаўрылы: сыны як волаты выраслі. Два старэйшыя — разумныя, і малодшы — у жыце хрышчоны, Алесем нарачоны, у лузе спавяданы, хлебам гадаваны, працай навучаны. Рукі ад зямлі чыстыя, душа ад неба светлая. Касой махане — бацькавых два пракосы зойме. Ну, не два, дык паўтара, гэта ж казка! Вельмі добры быў Алесь, а такому не ўсюды жыць лёгка.

Палюбуецца Гаўрыла на сыноў, душу ўсцешыць, але як уздумае, што і ім біцца-таўчыся над за-

---

[1] *Памаўзава́ць* — рабіць усялякую шкоду.

 

чараванай гаспадаркай, як прывязанай карове на вытаптанай пожні, — месяц спаць замінае. І надумаўся ён сыноў выправіць з дому — свет вялікі, можа, там сабе шчасце-долю знойдуць.

Цяжкім было развітанне: цёмная хмара сонца закрыла, віхор узняўся, вось-вось з хаціны дах сарве, плот зваліць, ранетку-яблыню з каранямі выверне. Але тут і дождж пайшоў, шчаслівага шляху напрарочыў.

Сказаў бацька сынам: «Не ешце дармавога хлеба — бокам выйдзе. І не заставайцеся там, дзе здалёк гаварыць пачынаюць, бо чым кончаць — невядома».

Ішлі браты сцяжынкай, прасёлкавай дарогай, шырокім бальшаком. Доўга ці коратка ішлі — прыйшлі ў Полацк.

Ідуць па вуліцы, аж бачаць — палац белакаменны. Над дзвярыма надпіс: «МІЛАСЦІ ПРОСІМ».

Раз просяць — чаму ж не зайсці! Ім і дзверы адчынілі. Сустрэлі ветліва, гаварылі мядова.

Век такога браты не бачылі! Людзей у палацы безліч. Скачуць пад музыку па люстэркавай падлозе ў заморскіх уборах. Навакол гоман вясёлы, жарты, смех... Светла і радасна тут, нібы ў лесе вясновым.

Расказалі браты людзям пра бацькаву бяду, а ім лагодна раяць:

— Заставайцеся ў нас. Не знойдзеце вы адказу на сваё пытанне. А калі і знойдзеце, не малым розумам вялікія справы вырашаць!

Агледзеліся браты: у палацы ні касіць, ні жаць — а жыць-пажываць бяды-ліха не ведаючы. Паесці захацеў — рукой узмахнуў, адкуль ні

вазьміся, на стале віно — і белае, і чырвонае, мяса рэзанае, бітае, кручонае... Нагой тупнуў — музыка чароўная зайграе...

Прабылі браты ў палацы тры дні і тры ночы. А як адну хвіліну! Іх не гоняць, а самім куды ж ісці?!

Ды вось трэцяга дня адчуў Алесь, што рукі ў яго брудныя, а памыць не ведае дзе. Ён туды-сюды, у каго ні запытае — людзі толькі плячыма паціскаюць і глядзяць на яго, нібы ён пацука з'еў.

Учуў хлопец душой сваёй светлай — пакуль не позна, выбірацца адсюль трэба. Стаў братоў клікаць:

— Хадзем адсюль, пакуль у багну не ўскочылі. Бацька наказваў хлеб толькі зароблены есці.

Сярэдні, Ніл, прыслухаўся, а Глеб і вухам не вядзе, сам жа думае: «Бацька нас шчасце шукаць выпраўляў. Яно — тут. Няма ў мяне ахвоты ў брудным двары гліну мясіць ды гной трэсці».

Алесь з Нілам сталі падымацца з крэслаў, каб пайсці, — і не могуць. Як хто прыляпіў іх да сядзенняў! Ды крутануліся, ірвануліся — праз дзверы і ходу...

І ў добры час! Бо хто ў тым палацы чацвёртую ноч перабудзе — назаўжды там застаецца. Удзень там балі ды гулі, а ўночы такія справы рабіліся, якія лепш добраму воку не ўбачыць, далікатнаму вуху не чуць. Тады хоць у вяроўку лезь!

Далей пайшлі Алесь і Ніл па Полацку ўдвух. Доўга ці каротка ішлі — стаіць на іх шляху палац гранітны, над дзвярыма надпіс: «МІЛАСЦІ ПРОСІМ». Раз просяць — як абмінуць? Ім і дзверы адчынілі. Сустрэлі паважна, гаварылі мудрона.

А калі браты расказалі пра зачараваную гаспадарку, адказалі так:

— Такую бяду рукамі не развесці. Але ўвечары ноч чакаюць, справу складаную не распачынаюць. А вось раніца! Як на той добры бок устанецца, то што ўчора была незрухомая бяда — стане крынічная вада. Пражывіце ў нас тысячу дзён і тысячу начэй — мы вам чорную кніжку дадзім, чытаць яе навучым, вось там і знойдзеце, дзе той чараўнік жыве і якім спосабам перамагчы яго.

— Каб даведацца, чаму не родзіць жыта і лён, не трэба вучыцца тысячу начэй і дзён, — адказаў людзям Алесь.

А Ніл, як бы і марыў усё жыццё навучыцца тую кніжку чытаць, — у палацы застаецца. Развіталіся браты на прыступках палаца мудрасці. Далей Алесь пайшоў адзін.

Тут змяркацца пачало, цішыня такая — альбо радуйся, ці нягоды чакай. Ідзе Алесь, а навакол мясціны незнаёмыя, і страх яго апанаваў, як бы вось-вось злыдзень на яго з лазіны скочыць і ў горла ўчэпіцца.

Раптам як ішоў, так у сцяну каменную і ўпёрся, ледзь лоб не расквасіў. Далей, уперад, шляху няма. Кінуўся Алесь у адзін бок, у другі, назад... Колькі крокаў прабяжыць — нібы выйсце блісне, а перад ім у імгненне сцяна вырастае. Пот халодны ў хлопца на лбе выступіў, па спіне мурашкі забегалі. Цёмна, жудасна — і ад каго літасці чакаць? Маўчаць халодныя сцены.

Лабірынт гэты быў Змея Гарынавіча, і ніхто адсюль жывы не выходзіў. А калі выходзіў, быў у яго ўжо не свой розум: думаў той не сваімі думкамі, гаварыў не сваімі словамі.

 

Б’ецца Алесь, як шчупак у нераце, у каменным мяшку — ці ж можа маладая кроў змірыцца з няволяй, гарачае сэрца згаснуць у адзіноце? Здаецца яму, зваяваў бы любое войска, перамог бы любога злога асілка. Але ж з кім сілаю мерацца?! З гэтымі халоднымі бяздушнымі сценамі? Спрабуе ён сцяну рукамі зрушыць-разарваць. Рукі акрывавіў, ужо і ногі яго не трымаюць. І ўжо толькі паўзком — плячом, спінай — ірвецца хлопец на волю.

А калі зусім знямогся, распластаўся на сырой зямлі. Уверсе неба бачыць, зоркі... Месячык поўны, ясны, жывы, але вельмі далёкі. Зірнуў Алесь на месячык і зразумеў — як далёка ад яго жыццё. Тут і згінуць яму невядомым. Вочы закрыў — і... зарагаталі жудасным смехам сцены:

— Ха-ха-ха! Прапаў ты, сын Гаўрылы! Раздушым мы цябе, выціснем з твайго сэрца сок дабрыні, разбавім ім сваю хітрасць, хцівасць і сквапнасць. І будзем гэтым він[о]м белы свет паіць-тлуміць, каб больш такіх разумнікаў не знаходзілася парадкі свае ўстанаўляць на зямлі гаспадара нашага, найчарнейшага Змея Гарынавіча.

Адкрыў Алесь вочы: маўчаць халодныя сцены. І ўспомнілася яму рака, што ля парога бацькавай хаты нясе невядома адкуль свае чыстыя воды ў вечным спакойным задуменні. Такая плынь! Такая магутнасць! Ласкавасць, сіла і чысціня! І ён клікаў яе ў сваім перадсмяротным сне.

І яна прыйшла сваёй несупыннай плынню.

Ачнуўся Алесь ад свежасці. І нібы сілы ў яго прыбавілася ў сто разоў. А вада ўсё прыбывала, затапляючы каменны мяшок: жудасны смех не-

прыступных сцен ужо захлёбваўся, траціў сэнс і моц сваёй фанабэрыстай[1] упэўненасці.

Алесь не спужаўся вады — узрадаваўся ёй. Толькі б хапіла яе сілы! Каб было яе яшчэ больш, больш… Вада ж заліла хітры каменны мяшок лютага Змея і ўзняла Алеся над ім, вынесла яго на квяцісты луг, на травы шаўковыя, мядовыя — такія адным толькі пахам сваім добрага чалавека лечаць, думкі ясняць.

Тут вада спала, вярнулася ў звыклае рэчышча, пацякла сваім спрадвечным шляхам. Разводдзе закончылася.

Алесь жа, як зусім ачнуўся, агледзеўся — ля самай Дзвіны ён. На ўскраіне Полацка. Да храма Святой Сафіі рукою падаць. Тут і раніца новага дня настала. Па рацэ сонца зіхатнула, кожная кропелька радасцю засвяцілася — як і не было тых неадольных для чалавека каменных сцен…

Доўга ці каратка ішоў, прыйшоў да цёмнага лесу. А там на ўзлеску хатка на чатырох камянях. У хатцы той знахарка чэрствы хлеб жавала, свой век дажывала.

Адчыніў Алесь дзверы, парог пераступіў, а яна (на тое і знахарка!) кажа:

— Заходзь, сын Гаўрылы, даўно чакаю і клопат твой ведаю. Дапамагу, калі ты — і сам магу. Сядай на лаву, слухай пра сваю справу.

І знахарка расказала Алесю пра тое, як перамаглі добрыя асілкі Змея Гарынавіча, спалілі, а попел па белым свеце развеялі-распылілі. Ды ў трыдзевятым царстве паміж дубам і ясенем лапік

---

[1] *Фанабэ́рысты* — важны, пыхлівы, ганарысты.

скуры яго паганай застаўся. Вось і адрадзіўся дармаед. Павуцінне сплёў. Ад яго цяпер усё зло па зямлі шлындае. І брат Алеся — Глеб — у яго на пабягушках.

— Здолееш прайсці да замка Змея — будзеш пераможцам. Не адзін добры маладзец спрабаваў, ды з чым выходзіў, з тым і вяртаўся. Дарогу ж да палаца ведаюць толькі людзі адной вёскі. Але ў іх вечны разлад паміж сабой, адзін аднаму ў вочы не глядзяць. Хто зможа іх прымірыць, таму і пакажуць, дзе Змеяў палац.

Дзень і ноч — суткі прэч, і апынуўся Алесь у той вёсцы, пра якую знахарка расказвала. Людзі ў ёй панурыя ўсе, нібы толькі што старасту пахавалі. Толькі Алеся заўважылі — да яго кінуліся: у пасцілцы перад сабою нясуць штосьці.

— Цябе сам бог да нас прыслаў. Знайшлі мы чужое шчасце — на ўсіх яго не хапае, а калі аднаму аддаць — той ворагам астатнім будзе. Вось і носімся, як курыца з яйкам, днямі над ім прападаем, а поле неаранае стаіць, пожні някошаныя, печы халодныя. Ты ж чалавек прышлы, бяры яго сабе, збаў сяло ад навалы.

Глянуў Алесь на чужое шчасце, а яно такое, што ні пяром апісаць, ні ў казцы расказаць. Хіба толькі ўбачыць хоць разок. І не можа Алесь ад яго вачэй адвесці — прываражыла хлопца, шэпча яму салодкім голасам:

— Кінь ты свае клопаты дробныя-непатрэбныя. Бяры мяне, будзеш маім гаспадаром. А я ўсё зраблю, чаго толькі твая душа ні зажадае.

І вяскоўцы яго ўгаворваюць:

— Бяры, хлопча, яно ж нічыё. Вось жыццём нацешышся!

І ўзяў бы Алесь, як бралі ўсе добрыя малойцы, што да Змея дабіраліся. Узяў бы, каб не быў у жыце хрышчоны, у лузе спавяданы, хлебам гадаваны, працай навучаны. У яго ж рукі ад зямлі чыстыя, душа ад неба светлая — а такім чужое шчасце вачэй не мазоліць.

Але як людзям дапамагчы, каб чужое шчасце і ім вачэй не мазоліла?

Узяў Алесь каня, прывязаў да яго чужое шчасце, гікнуў — і памчаў конь у свет: там, пэўна, і знойдзецца той чалавек, які згубіў яго.

І адразу ў вёсцы нібы яшчэ адно сонца ўзышло! Не стаяла больш чужое шчасце папярок горла нікому, і не хавалі цяпер людзі вачэй адзін ад аднаго, не ўтойвалі зайздрасць і злосць.

Сяляне падказалі Алесю, дзе замак Змея Гарынавіча. Гэта ён падкінуў чужое шчасце, каб разлад быў, а адзін ніхто з усёй вёскі дарогі да палаца не ведаў. Маглі яе знайсці толькі разам.

Ступіў Алесь на ганак палаца і толькі падумаў: «Як жа мне такое страшылішча перамагчы?» — а палац сам сабою і рухнуў, нібы скрозь зямлю праваліўся. На яго месцы трошкі пыл заклубіўся, а потым убачыў Алесь перад сабою луг квяцісты, а на ім сам Змей Гарынавіч ляжыць, ледзь дыхае. Вочы яго ўжо чорны свет не бачаць.

А быў той палац ліхам крыты, жорсткасцю збіты, падмуркам яму была хлусня, хітрыкі — дзвярыма, вокны на плётках віселі, сцены з нагавораў складзены, печы — з ленасці. І не мог ён устаяць хвіліны перад праўдзівым і сумленным чала-

 

векам. Уся ж сіла Змея Гарынавіча была ў яго палацы. Палац рухнуў — і стаў Змей пакорны, нібы тая авечка.

Агледзеўся Алесь — а побач з ім і брат яго, Глеб, той, што застаўся ў Полацку есці дармовы хлеб. Абшарпаны стаіць, нібы толькі што з жабрацкай дарогі.

Скруцілі браты Змея, у мяшок укінулі і назад у дарогу рушылі. Да знахаркі зайшлі. А яна і кажа Алесю:

— Ёсць каля вашага дома крыніца з жывою вадзіцай, набяры ў ёй вады, памачы бацьку рукі, вочы прамый — ён і стане відушчы, чуць будзе.

— Ён жа не сляпы і не глухі, — запярэчыў Алесь.

— Вочы яго бачаць, але не ўсё разумеюць. Вушы чуюць, ды не тое, што трэба. А цяпер спяшайцеся, калі бацьку жывога бачыць хочаце.

Паімчалі браты што духу ёсць да бацькавай хаты...

Тым часам, пакуль сыны былі ў свеце, Гаўрыла дошак нагабляваў, труну зрабіў. З разладу і гора паміраць сабраўся — рукі злажыў і ляжыць, чакае старую з касой.

Ды ў добры час Алесь з Глебам вярнуліся. Бацьку рукі, вочы жывой вадой абмылі, той і аджыў. Нарадаваўся вяртанню сыноў і моцна заснуў, бо ўжо вечар быў.

Браты ж тым часам зацягнулі мяшок са Змеем Гарынавічам на вясковую кузню і прыладзілі яго агонь раздзімаць — вось адкуль горан у кузні.

А Гаўрылу назаўтра ні свет ні зара певень разбудзіў:

— Кукарэку, кукарэку!
Уставай, Гаўрыла, ідзі за раку.
Там лён спее, жыта таўсцее —
не дастанецца лайдаку.

Дзівіцца Гаўрыла, што даўно не чуў, пра што певень па раніцах спявае. Усхапіўся з ложка, сыноў разбудзіў, і заспяшаліся яны гаспадарку спраўляць.

А певень ужо другі раз спявае, падганяе Гаўрылу:

— Кукарэку, кукарэку —
у каровы малако на языку...

Пагнаў Гаўрыла карову ў поле, прыгледзеўся — у яе пыса ўніз скіравана, вочы на зямлі шукаюць, значыць, і корм яе пад нагамі, а не над рагамі.

Так і стаў Гаўрыла зноў разумець мову прыроды — адчараваў-такі Алесь чары Змеевы.

З той пары ў Гаўрылы павялася зноў гаспадарка, і не была больш карова казой, а сякера — касой.

І сарока цяпер маўчыць. Хіба толькі пра Ніла ўспомніць і тады трашчыць:

— Пакуль Ніл усю навуку вывучаў, столькі папер спісаў, што не можа ў іх разабрацца. І цяпер з шафы ў шафу пераносіць, перакладае, пылам перасыпае, усё шукае, у якой запісаў, як бацькаву гаспадарку расчараваць.

Вось вам і казка, а мне лазы вязка.

**1.** Якім паказана жыццё Гаўрылы ў пачатку твора?

**2.** Што здарылася раптам з Гаўрылавай гаспадаркай? Як гэта паўплывала на яго сям'ю?

 

3. Якое рашэнне прыняў Гаўрыла, каб змяніць лёс сваіх сыноў? Які запавет яны атрымалі ад бацькі?
4. Раскажыце, з якімі выпрабаваннямі сустрэліся хлопцы падчас вандроўкі па свеце. Які жыццёвы шлях выбраў для сябе кожны з братоў — Ніл, Глеб і Алесь?
5. Як дапамог Алесь вяскоўцам пазбавіцца разладу ў вёсцы? Чаму ён адмовіўся ад прапановы ўзяць *чужое шчасце*?
6. Хто з казачных герояў вам падабаецца больш? Абгрунтуйце свае адносіны.
7. Прааналізуйце мову казкі. Выпішыце ў літаратурны сшытак некалькі выслоўяў, якія вам больш спадабаліся.
8. Што яднае гэту казку з фальклорнымі казкамі? (Звярніце ўвагу на апісаныя падзеі, характары герояў, будову казкі, адметнасці мовы.) Пацвердзіце свае назіранні канкрэтнымі прыкладамі.
9. Прачытайце казку па асобах.

АНДРЭЙ ФЕДАРЭНКА

## Падслуханая казка

Настаўнік даў вучням хатняе заданне — кожнаму намаляваць якуюсь кветку.

Марыйцы спачатку заданне падалося лёгкім. Дзяўчынка добра малявала, да таго ж ведала і любіла мноства самых розных кветак. Ранняй вясной яна любіла дзьмухаўцы і лотаць, улетку — смолкі і валошкі, увосень — вяргіні і астры... Якая ж з

гэтых кветак самая прыгожая, самая любімая? За акном цяпер не вясна, не лета і не восень, а сцюдзёная зіма, белыя гурбы снегу, і адзіныя кветкі — тыя, што намаляваў мароз на аконным шкле.

Дзяўчынка думала-выбірала ўвесь вечар і потым у ложку, засынаючы, таксама думала. Ад гэтага ёй прысніўся сон. Прысніўся заліты сонцам, запоўнены птушынымі спевамі празрысты летні дзень, поплаў, які нагадваў дарагі стракаты дыван, — столькі на ім было кветак... І калі яна, босая, лёгкая, ступала па гэтым мяккім дыване, кветкі схіляліся да яе і хвалілася кожная сваёй прыгажосцю. Вядома, гэта быў сон, і таму кветкі маглі размаўляць. Галасы іх пераліваліся ціхім журчаннем ручайка, ранішнімі жаўруковымі спевамі, лёгкім пошумам ветрыку, які забаўляецца з маладой лістотаю... Пунсавелі красуні-ружы і стараліся прыхаваць пад лісцем свае шыпулькі; звінелі, бы нанізаныя на нітку парцалянавыя[1] званочкі, бялюткія ландышы; выхваляліся адзін перад адным смешныя таўстуны цюльпаны самых розных колераў; надуваліся ад гонару таўсташчокія півоні; разбегліся і застылі па ўсім поплаве бесклапотныя рамонкі; сінелі між імі маўклівыя сціплыя незабудкі, сон-трава і «цвяток» яе, Марыйчынай радзімы — непаўторная валошка...

Дзяўчына слухала, любавалася кветкамі і аніяк не магла выбраць лепшую. Гэтая прыгожая, а паглядзіш — другая яшчэ прыгажэйшая... Раптам яна пачула меладычныя, танюткія і чыстыя, як

[1] *Парцаля́навы* — фарфоравы.

 

перазвон крышталю, галаскі. Дзяўчына агледзелася. Ах, яна нават не заўважыла, што наступіла на цэлую сямейку непрыкметных сярод гэтай раскошы колераў і пахаў звычайных маргарытак! Цяпер яны, прымятыя, падымаліся з зямлі, атрэсваліся, расправулялі пялёсткі і лісточкі, падстаўлялі сонцу свае бела-ружовыя вяночкі з жаўтком пасярэдзіне. Яны гаварылі так ціха, што дзяўчынцы, каб пачуць іх, давялося прысесці і нагнуцца ледзь не да зямлі.

— Каб толькі гэтая дзяўчынка захацела паслухаць нас! — сказала адна з кветак, і Марыйка, як гэта бывае толькі ў снах, чамусьці адразу зразумела, што гэта нямецкая маргарытка. — Каб дала нам хоць крышачку ўвагі! Можа, тады яна выбрала б нас? Мы нiколькі не горшыя за іншыя кветкі. Гэта ж акурат мы здавён-даўна прыносім дзецям і дарослым радасць, стараючыся прадказаць іхні лёс. Можна загадаць любое жаданне, потым абрываць па чарзе пялёсткі, і тое слова, пры якім будзе абарваны апошні пялёстак, і павінна азначаць: збудзецца ці не збудзецца апошняе жаданне.

— Гэта праўда, — азвалася другая кветка, і зноў Марыйка адразу зразумела, што гэта маргарытка-француженка. — Мы цвіцём з ранняй вясны да позняй восені, і няма ў свеце краіны, дзе нельга было б нас сустрэць, дзе не варажылі б на нашых пялёстках! Я таксама расказала б гэтай дзяўчынцы, як яшчэ ў старадаўнія часы рыцары дарылі нас сваім дамам і на стужках, якімі абвязвалі букеты, рабілі такія надпісы: «Кожная кветка мае сваю вабнасць, але калі б мне прапанавалі на выбар адразу тысячу кветак, усё адно я выбраў бы маргарытку».

— А я расказала б дзяўчынцы, — падхапіла кветка-грачанка, — што нашая назва «маргарыткі» пайшла з грэчаскай мовы і азначае «жамчужыны». І гэта нас апяваў паэт, сцвярджаючы, што мы, незлічоныя белыя кветачкі, рассыпаныя па зялёным лузе, — здаёмся сапраўднымі жамчужынамі!

— А я, — умяшалася кветка-італьянка, — распавяла б дзяўчынцы адну з самых прыгожых легендаў пра нашае паходжанне. Вядома, што вялікае сонца больш за ўсё на свеце любіць кветкі, клапоціцца пра іх, песціць, як дзяцей... А кветкі карыстаюцца гэтым і заўсёды аб нечым у яго просяць: адны хочуць быць больш буйнымі, другія — больш духмянымі, трэція — мець прыгажэйшыя пялёсткі... І толькі мы, маргарыткі, ніколі ні аб чым не прасілі, заўсёды адчувалі сябе шчаслівымі, такімі, як стварыў нас Бог. Больш за ўсё мы радуемся, калі нас зрываюць дзеці і гуляюць з намі. І ў падзяку за нашу сціпласць сонца цалуе нас, пакідаючы свой знак — жоўтую плямку пасярэдзіне белых пялёсткаў.

— Я расказала б дзяўчынцы, — прамовіла кветка-аўстрыйка, — што выява букеціка маргарытак ёсць нават на мармуровым помніку. Ён узведзены ў памяць аўстрыйскай імператрыцы Лізаветы, якая заўчасна загінула, а маргарыткі — сімвалы яе дабрыні і сардэчнасці.

— Я, — сказала кветка-англічанка, — радуюся таму, што гэтая дзяўчынка наступіла на нас. У Англіі і цяпер існуе звычай: калі наступіш на дванаццаць маргарытак адразу, вясна надыдзе раней.

— І ў Скандынавіі мы служым прадвесніцамі вясны і аднаўлення жыцця, — падтрымала швед-

ская кветка. — Менавіта ў Швецыі ўпершыню быў наладжаны збор ахвяраванняў для хворых на сухоты[1], а кветкай, якую даравалі кожнаму, хто рабіў грашовы ўклад, былі выбраны мы, маргарыткі!

— А я, — абазвалася апошняя кветка, — расказала б дзяўчынцы пра нашу агульную з ёю цудоўную і нешчаслівую радзіму. Я расказала б, як яшчэ са старадаўніны тапталі мяне чужацкія коні і людзі, як з веку ў век вострыя сохі і плугі падразалі разам з дзёрнам мае карані, і я, як і іншыя кветкі і травы, угнойвала глебу; расказала б, як паласавалі мяне цяжкія жалезныя гусеніцы цягачоў і танкаў і як вырывалі, перамешвалі мяне з зямлёю разрывы бомбаў і снарадаў; расказала б, як прысыпала мяне смяротным радыяцыйным попелам і брудам... І ўсё ж я выжыла! Нездарма ў нашай мове я завуся стакротка. Я зноў расту паўсюль, дзе толькі могуць умацавацца карані, і я хачу, каб бегалі па мне басанож, каб зрывалі мяне і варажылі на маіх пялёстках шчаслівыя дзеці, хачу радаваць вочы і адаграваць душы дарослых...

Марыйка прачнулася. Яшчэ нейкі час у вушах у яе адгалоскам звінелі ціхія крышталёвыя галасы, а перад вачыма стаялі бела-ружовыя зорачкі з жоўтымі пячаткамі пасярэдзіне.

Яна ўжо ведала, якую кветку будзе маляваць.

? **1.** Якое заданне атрымала Марыйка ад настаўніка? Як дзяўчынка паставілася да яго выканання?

---

[1] *Сухо́ты* — хвароба туберкулёз.

 

2. Прыгадайце, які сон убачыла Марыйка? Як дапамог ён дзяўчынцы падрыхтавацца да ўрока?
3. Якія кветкі прысніліся Марыйцы? Аповед якой з іх вам падаўся найбольш цікавым і чаму?
4. Пра што расказала дзяўчынцы беларуская кветка маргарытка.
5. Чаму, на вашу думку, Марыйка вырашыла намаляваць стакротку?

## Пытанні і заданні да раздзела

**1.** Прыгадайце літаратурныя казкі, змешчаныя ў гэтым раздзеле. Які твор вам найбольш спадабаўся? Чаму?

**2.** Чым падобныя і чым адрозніваюцца фальклорныя і літаратурныя легенды і казкі? Звярніце ўвагу на адлюстраванне падзей, абмалёўку герояў, будову і мову твораў.

**3.** Якая была галоўная мара жыцця маці-гары з казкі Якуба Коласа «Крыніца»? Чаму гэта мара не ажыццявілася?

**4.** Узгадайце назву гэтага раздзела. Якія жыццёвыя падказкі вы атрымалі, пазнаёміўшыся з яго творамі?



# ПРЫРОДЫ ВЕЧНАЯ КРАСА

Заўжды, заўжды, усюды, у кожны міг,
З жыццём усім, з якім навечна ў згодзе,
Ад самых шчырых роздумаў сваіх
Мне пакланіцца хочацца прыродзе!

*Кастусь Кірэенка*

МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

## Зімой

Здароў, марозны, звонкі вечар!
Здароў, скрыпучы, мяккі снег!
Мяцель не вее, сціхнуў вецер,
І волен лёгкіх санак бег.

Як мары[1], белыя бярозы
Пад сінявой начной стаяць,
У небе зоркі, ад марозу
Пахаладзеўшыя, дрыжаць.

---

[1] *Ма́ры* — тут: здані, прывіды.

Вільготны месяц стуль на поле
Празрысты, светлы стоўп[1] спусціў
І рызай[2] срэбнаю раздолле
Снягоў сінеючых пакрыў.

Узрывайце ж іх санямі, коні!
Звіні, вясёлых бомаў[3] медзь!
Вакол лятуць бары і гоні[4],
У грудзях пачала кроў кіпець.

1. Якім настроем прасякнуты верш? Чым выклікана ўзрушэнне паэта?
2. Якой паўстае прырода ў вершы? Апішыце свае ўражанні.
3. Растлумачце сэнс вобраза *Як мары, белыя бярозы // Пад сінявой начной стаяць.*
4. Як вы разумееце паэтычны вобраз *У небе зоркі, ад марозу // Пахаладзеўшыя, дрыжаць*?
5. Чаму, на вашу думку, паэт называе вечар *звонкім,* месяц *вільготным*?
6. Растлумачце ролю зваротkaў у выяўленні аўтарскіх пачуццяў.
7. Разгледзьце на форзацы рэпрадукцыю карціны Эдуарда Рымаровіча «Раўбічы». Якой бачыць мастак зімовую дарогу? Якія фарбы пераважаюць у карціне? Які настрой яна перадае?

---

[1] *Сто́ўп* — тут: сноп святла.
[2] *Ры́за* — тут: надзвычай прыгожы снегавы покрыў.
[3] *Бо́мы* — званочкі.
[4] *Го́ні* — прасторы, палі.

**8.** Ці ёсць што агульнае ва ўспрыманні зімовага пейзажу Максімам Багдановічам і Эдуардам Рымаровічам? Абгрунтуйце свае меркаванні.

АНАТОЛЬ ГРАЧАНІКАЎ

## Зоры спяваюць

Чуеш, спяваюць зоры,
Якія дзіўныя галасы
У гэтым нябесным хоры!
Журлівыя[1], светла-звонкія,
Натомленыя, як дзіцячыя, — тонкія.
Самотныя, бесклапотныя,
Радасныя, гаротныя
Чуеш, спяваюць зоры.
Якія дзіўныя галасы
У гэтым нябесным хоры!

**1.** Якія спевы чуе паэт у нябесным хоры? Чаму аўтар называе галасы *дзіўнымі*? Як вы разумееце гэта азначэнне:
а) галасы ўражваюць тым, што не падобныя да звычайных галасоў;
б) іх гучанне і мелодыя выключнай, дзівоснай прыгажосці;
в) галасы чароўныя, нерэальныя, казачныя? А можа, у гэтым слове заключаны нейкі іншы сэнс? Які?

---

[1] *Журлі́вы* — журботны, сумны, маркотны.

2. Што, на вашу думку, надзвычай уразіла паэта, калі ён глядзеў на зорнае неба?
3. Як вы разумееце выраз *нябесны хор*? (Гэта гукі, што нібыта гучаць з вышыні, з неба? Ці надзвычай прыемная, мілагучная, быццам незямная мелодыя, якая стварае ўражанне выключнай гармоніі, абсалютнай суладнасці гучання (параўнайце: *дзявочы твар нябеснай прыгажосці, нябесная мелодыя, незямныя пачуцці*)?)
4. Паспрабуйце параўнаць вершы Максіма Багдановіча і Анатоля Грачанікава. Што агульнае заўважылі вы ў выяўленні аўтарскіх пачуццяў, у абмалёўцы карцін прыроды, у агульнай настраёвасці твораў, іх гучанні, сродках моўнай выразнасці?
5. Прыгадайце, пра што думаеце і што адчуваеце вы самі, калі бачыце рассыпаныя па небе зіхатлівыя зоркі.

ЯКУБ КОЛАС

## Песня ляснога жаваранка

*(Урывак з трылогіі «На ростанях»)*

Эх, як прывольны прасторы наднёманскіх лугоў! Часамі над прасторамі зялёнага мора, як вартаўнікі, узнімаліся пышныя постаці адзінокіх дрэў, пераважна дубоў, параскіданых дзе-нідзе сярод лугу, а месцамі і цэлыя дубовыя гаі. Многа тут для іх прастору і сонца. Ёсць дзе разгарнуцца іх магутным карэнням, камлям і галінам.

 

Між гэтых дрэў асабліва кідалася ў вочы падарожнага старадрэвіна-хвоя, што стаяла зусім адна на высокім грудзе непадалёку ад Нёмана. Тоўсты, гладкі, бы вытачаны, камель з карою накшталт адмысловай чарапіцы высока ўзнімаў верхавіну, заламаўшы яе набок пад простым вуглом; на гэтым заломе змайстраваў сабе бусел даўгавечнае гняздо. Ад усяе адзінокае хвоі, ад гэтай пахіленай у бок лесу верхавіны павявала нейкім смуткам, як бы ўзлажыла яна цяжар на свае плечы і схіліла пад ім галаву.

Пачынала развідняцца.

Прыбярэжныя кусты ўсё больш і больш вырысоўваліся, выплывалі з ранічнага змроку, святлелі, развясельваліся, і шырэй разгортваліся прыгожыя краявіды, поўныя радаснага спакою і маўклівага задумення.

Дарога павярнула ўлева, пайшла грудамі, шчыльней тулячыся да Нёмана, дзе ён апісваў вельмі зграбную луку, падыходзячы да лесу. Уся гэта лука выглядала пышным старасвецкім садам, дзе замест пладовых дрэў раслі разложыстыя, дуплястыя, з асмаленымі жараламі дубы, убраныя чорнымі шапкамі буславых гнёздаў. Часамі гэтыя гнёзды, заціснутыя ў развіліны стромкіх аголеных шпянёў, высока ўзнятых над зялёнаю каронаю дуба, што пачынаў сохнуць зверху, здаваліся нейкімі дзіўнымі падвескамі над дубамі, бо самыя шпяні скрадваліся адлегласцю і губляліся ў празрыстых хвалях паветра.

Не даходзячы да лукі, выгнуўшыся яшчэ раз каля лесу вельмі прыгожаю дугою, Нёман забіраў управа, пралёгшы роўнаю, бліскучаю стужкаю па-

між лугамі і полем. На адным канцы дугі стаялі кучаравыя пышныя хвоі, звесіўшы над вадою махрыстыя галіны і аплёўшы пясчаны бераг цэлаю сеткаю смаляных карэнняў. За імі пачыналіся маладыя сакавітыя баравіны, перамешаныя са старым лесам. Там-сям з зялёнага мора маладога хвойніку высока ўзнімаліся парасоны-верхавіны хвой-старадрэвін, што як бы аглядалі зялёныя прасторы свае маладое змены, цешачыся яе размахам і сакавітаю жыццёвасцю. І гэты малады хвойнік, і гэты лес, і гэтыя хвоі зліваліся ў адну сцяну лесу, вырысоўваючы прыгожую вычварную лінію паваротаў, разгортваючы сваё цёмна-зялёнае крыло і ахопліваючы пясчанае поле, дзе раскінуліся маўклівыя пагоркі. А над усім гэтым ляжалі цішыня і спакой раніцы.

...Над ускрайкам лесу, дзе пачыналіся жоўтыя пяскі, зазвінела песня ляснога жаваранка. Ён першы тут вітаў надыход дня, і песня расплывалася ў маўклівым паветры звонам тонкага дарагога металу, напаўняючы ясна-сінія разлогі надзем'я і глыбокую цішыню зямлі, агорнутай затоена-радаснаю задумлёнасцю. Здавалася, усё навокал занямела, зачараванае цудоўнымі тонамі песні гэтага вольнага песняра ўзлескаў і пясчаных пустак між лесу. Снуючыся высока ў небе, раняла птушка мяккія, ласкавыя мелодыі, сатканыя са звону срэбраных струн, з булькання лясных ручайкоў, з зумкання пчаліных крыльцаў, шолаху красак. І ўсе гэтыя тоны спляталіся так гарманічна-своеасабліва ў песні ляснога жаваранка, што яна даходзіла да самых глыбінь сэрца і калыхала самыя тонкія струны душы.

 

Ніякая іншая птушка, нават праслаўлены салавей, не можа параўнацца ў спевах з лясным жаваранкам. Толькі свае песні спявае ён у бязлюдных мясцінах, дзе рэдка бывае чалавек і мала хто чуе іх. Мелодыя ж спеваў надзвычай багатая, разнастайная, дзівосна прыгожая і такая чоткая, такая выразная, што яе можна палажыць на ноты, а мастак-музыка, напэўна, змог бы выканаць на скрыпцы, але афарбоўкі яе тонаў не патрапіць перадаць ніякі музычны інструмент.

**1.** Пастарайцеся ўявіць карціны, намаляваныя Якубам Коласам. Чым незвычайным усхвалявала яго прырода? Якім паўстае ў апісанні наднёманскі луг? З чым ён параўноўваецца? Як выглядае Нёман на фоне лугу?
**2.** Звярніце ўвагу на апісанне старой хвоі. Якое пачуццё выклікала яна ў аўтара? Чым можна, на вашу думку, яго вытлумачыць?
**3.** Што парушае цішыню і спакой лугу?
**4.** Перачытайце апісанне Нёмана на досвітку. Вызначце месцазнаходжанне аўтара. Які настрой пануе на наднёманскіх прасторах?
**5.** Вы прачыталі надзвычай паэтычнае апісанне спеваў ляснога жаваранка. Якія пачуцці яно ў вас выклікала?
**6.** Што адчуваў аўтар, слухаючы песню ляснога жаваранка? Як успрымала гэту мелодыю наваколле?
**7.** З чым параўноўвае пісьменнік спевы жаваранка? Якімі азначэннямі карыстаецца аўтар, каб дапамагчы нам адчуць прыгажосць і непаўторнасць *мяккай, ласкавай мелодыі*?

8. Як пісьменнік называе самога жаваранка? Ці можна сцвярджаць, што аўтар — не толькі таленавіты слухач, але і выдатны майстар слова? Абгрунтуйце свой адказ.
9. Ці даводзілася вам чуць песню ляснога жаваранка? Раскажыце пра свае ўражанні.
10. Вывучыце на памяць частку гэтага апісання. (Пастарайцеся як мага лепш перадаць у сваім чытанні прыгажосць песні ляснога жаваранка. Для гэтага спачатку ўважліва перачытайце ўрывак яшчэ раз, паспрабуйце ўявіць створаныя пісьменнікам карціны, «пачуць» гукі, тоны, пералівы дзівоснай мелодыі. Падумайце над інтанацыяй, выберыце патрэбны тэмп чытання, вызначце словы, якія трэба выдзеліць голасам, расстаўце паўзы.)

## Пра эпітэт

Мастак для выяўлення сваіх творчых задум скарыстоўвае пэндзаль і фарбы, кампазітар і музыкант — ноты і музычны інструмент, а паэты і пісьменнікі ў сваім ужытку маюць толькі слова. Мастацкія творы захапляюць, хвалююць і ўражваюць нас, бо, чытаючы іх, мы нібы становімся саўдзельнікамі падзей, быццам чуем і бачым усё, што апісваецца ў творы. Дасягнуць выключнай выразнасці ў вобразнай перадачы падзей і раскрыцці чалавечых характараў майстра́м прыгожага пісьменства дапамагаюць вобразныя выяўленчыя сродкі мовы, і найперш мастацкія азначэнні — эпітэты. У якасці эпітэта выступаюць

словы, ужытыя ў пераносным значэнні. Яны вылучаюць у прадмеце або з'яве асабліва значныя, істотныя прыкметы і ўласцівасці, на якія абавязкова неабходна звярнуць увагу. Эпітэты дапамагаюць уявіць пэўныя вобразы і малюнкі, яны моцна ўплываюць на наша ўспрыманне.

Максім Багдановіч у вершы «Зімой» назваў вечар *звонкім*. Нас не здзіўляе, што вечар *марозны*, гэта азначэнне больш звыклае, хоць яно стварае адпаведны настрой — вясёлы, бадзёры і жыццярадасны. А вось эпітэт *звонкі* зусім нечаканы ў спалучэнні са словам *вечар*. Для нас прывычныя словазлучэнні *звонкі голас, звонкае рэха, звонкі метал*. Але ў паэта звонкі вечар. Чаму? Пастарайцеся ўявіць зімовы марозны вечар. Напэўна, кожны з вас заўважаў, што ў марознае надвор'е, асабліва ўвечары, любы гук, нават скрып снегу пад нагамі, рэзкі, гучны, выразны, яго далёка чуваць. Адным трапным словам паэт стварыў цэлую карціну і нават перадаў свой надзвычай радасны, святочны, узнёслы настрой, сваё захапленне дзівоснай карцінай прыроды, шпаркай яздой, меладычным гучаннем званочкаў.

Прыгадаем і другі эпітэт — *вільготны* (месяц). Гэты эпітэт у дадзеным словазлучэнні таксама нязвыклы. Аднак калі мы ўважліва прыглядзімся да яркага месяца на цёмным небасхіле, то мусім пагадзіцца з паэтам: месяц надзвычай ясны і чысты, вакол яго ствараецца нібы німб[1], ён зіха-

---

[1] *Німб* — зіхаценне ў выглядзе круга вакол галавы святога на іконе.

ціць, быццам дрыжыць, кожнае імгненне змяняе абрысы. Контуры месяца размываюцца. Дададзім яшчэ, што звычайна марознае паветра нібы калышацца, і гэта яшчэ ўзмацняе ўражанне. Таму ў вершы ўзнікае яшчэ адзін цудоўны вобраз: *У небе зоркі, ад марозу // Пахаладзеўшыя, дрыжаць.* Душу паэта ахоплівае адчуванне казачнай прыгажосці, чысціні, пяшчоты, замілавання.

Э п і т э т — мастацкае азначэнне, якое вобразна (жыва, наглядна, паэтычна) характарызуе прадмет, з'яву, чалавека.

У якасці эпітэтаў часцей сустракаюцца прыметнікі (рыза *срэбная,* паветра *маўклівае,* галасы *журлівыя, светла-звонкія, натомленыя, самотныя;* мелодыя *мяккая* і *ласкавая*), але бываюць і другія часціны мовы (дзяўчына-*красуня*, *брыльянты*-росы, ручай — *жэўжык-пястун,* які *лагодна* пяе, *сярдзіта* бубніць).

Эпітэты, што сустракаюцца ў творах сучасных паэтаў і пісьменнікаў, істотна адрозніваюцца ад тых, якія ўзніклі ў далёкія часы, — у народных казках, легендах, песнях. Нашы продкі найперш адзначалі ў прадметах або з'явах толькі самае агульнае, што часцей паўтаралася. Так з'явіліся вобразы: поле *шырокае,* ночка *цёмная,* зорка *ясная,* бярозка *белая,* вясна *красная,* хмарка *залатая,* пчолка *ярая,* лісточак *зялёненькі,* вецер *буйны,* зімачка *лютая,* перапёлачка *шэрая* і інш. Такія ўстойлівыя, нязменныя азначэнні, што ўжываюцца часцей за ўсё з пэўнымі словамі, называюць сталымі, або фальклорнымі, эпітэтамі.

 

ЯКУБ КОЛАС

## На рэчцы

*(Урывак з паэмы «Новая зямля»)*

Ніхто з дамашніх не згадае,
Чым рэчка Костуся займае,
Якая іх звязала сіла,
І чым яна так хлопцу міла.

Бывала, толькі чуць разднее,
Чуць трошкі ў лесе пасвятлее,
Глядзіш — на рэчку ён шыбуе[1]
І лёд сякеркаю мацуе[2],
То падбяжыць і скаўзанецца,
І сам сабе ён засмяецца;
То спыніць крок, замрэ, застыне —
Такая радасць тут хлапчыне!
Лядок закохкае, угнецца
І вось-вось зломіцца, здаецца,
Але нястрашны і знаёмы
Для хлопца гэтыя надломы,
Палоскі-стрэлы гаваркія,
І моцны скрэпы ледзяныя.

Марозік крэпіць, лёд таўшчэе,
І рэчка вольная нямее,
Да дна вадзіца вымярзае
І ходу, бедная, не мае,
І цесна там ёй, і няміла
Яе халодная магіла.

---

[1] *Шыбава́ць* — хутка, жвава ісці.
[2] *Мацава́ць* — правяраць моц, трываласць.

 

Але дарма: жывую сілу
Не запраторыш ты ў магілу,
Мароз бязжаласны і люты[1]!
Хоць ты звязаў і крэпка путы,
Скаваў і рэчкі, і азёры,
І ўсё зацiснуў пад запоры,
Разлёгшысь лёдам і снягамі
Над чыстым полем і лугамі,
Ды ты жыцця, брат, не здалееш,
Як ты ні дурыш, ні шалееш.
Глядзі — скрозь ковы ледзяныя
Сачацца кропелькі жывыя,
Дарогу новую шукаюць
І лёд вадою заліваюць.
І праўда: рэчачка-крынічка
Хаця і мелка, невялічка,
Але такую сілу мае,
Што лёд угору падымае
І ломіць глызу[2], як націну[3].
— Гэ, брэшаш ты, мароз, не згіну
Я пад карою ледзяною,
Пабарукаемся з табою! —
Як бы гаворыць смела, гулка
Марозу бойкая рачулка.
І між марозам і вадою
На гэтай рэчачцы зімою
Такія справы вынікаюць,
Што надта Костуся займаюць.
Калі на рэчку ён ні прыйдзе,
Глядзіць — штосьці новае там выйдзе:

---

[1] *Лю́ты* — вельмі моцны, бязлітасны.
[2] *Глы́за* — ледзяная глыба.
[3] *Наці́на* — кволая, нетрывалая расліна.

То лёд, уздуўшыся гарбамі,
Бубніць, як бубен, пад нагамі,
То ападзе наніз, угнецца,
На дно пластамі пакладзецца.

А па кустах, на абалоні[1],
Ціскі парваўшы і супоні[2],
Вада шырока разальецца,
І снег на кашу пабярэцца.
І як ні гне мароз, ні гладзіць,
Але нічога не парадзіць,
І чуць ён толькі аслабее,
Чуць-чуць адліжкаю[3] павее,
Глядзіш — вадзіца лёд злізала,
Ў раўку пясочак паказала,
І хвалькі жвавыя за хваляй,
Як і нябыта, бягуць далей,
Пакуль мароз не засярдуе
І сілу зноў ён не пачуе,
Каб закаваць раўчук праворны
За розум надта непакорны.

І вось надарыцца часамі
Мароз над усімі маразамі;
Ідзе сярдзіта, пагражае,
Па даху гонтамі[4] страляе;
У завітушках дым бялявы
Нясе, як воблак кучаравы,

---

[1] *Абало́нь (абало́на)* — частка даліны ракі, якая ў паводку заліваецца вадой.

[2] *Супо́ня* — тут: лёд, што стрымлівае ваду.

[3] *Адлі́жка (адлі́га)* — пацяпленне пасля марозу, халадоў.

[4] *Го́нты* — невялікія дошчачкі для пакрыцця даху дома.

І потым з ім набок рванецца,
Бы пісар-вухар расчаркнецца.
А як вакенцы размалюе
І розных дзіваў там намосціць,
Яму аматар[1] пазайздросціць,
І прад марозам ён спасуе.
Мароз — штукар[2] і жарты любіць,
Не раз, штукуючы, загубіць
Таго, хто ў рукі пападзецца,
Яшчэ над бедным насмяецца:
«Прыляж, бядача, ты з дарогі. —
Няблізкі хатнія парогі»,
Мароз дарожным падпявае:
«Лажысь — пасцелька пухавая
І ўся агоньчыкамі ззяе!
Засні, сагрэйся, мой пахілы,
Пакуль табе прыбудуць сілы,
А я салодкі сон навею
І гожай казкаю сагрэю».
І хто паддасца нагаворам,
Засне навекі над прасторам
Халодных зор, снягоў глыбокіх,
Сярод дарожак адзінокіх.
Мароз — мастак і, пыху поўны,
Узносіць слуп на неба роўны,
Высокі, вогненны, крывавы!
Той слуп — і страшны, і цікавы —
Гарыць злавесна, увесь чырвоны,
Мароз на небе ставіць троны.
Вянцы на месяц ускладае,

[1] *Ама́тар* — тут: мастак.
[2] *Штука́р* — фокуснік, выдумшчык, жартаўнік.

Па снезе зоркі рассыпае,
І так прыгожа, так старанна
Бярозе белай тчэ ўбранне,
Бы той дзяўчыне пад вянчанне.
І як з-за лесу сонца ўстане
І на бярозу тую гляне,
Засвецяць у інеі праменні,
Як найдарожшыя камені.

Мароз — паважны. Як вяльможа,
Знасіць свавольніцтва не можа,
І на той час, як ён пануе,
Па небе хмарка не вандруе,
І ўсе стварэнні занямеюць,
І патыхаць вятры не смеюць,
Ўсё ціха, мёртва, нерухома.
Сядзіць звяр'ё між буралома
І знаку жы́цця не пакажуць.
Вароны дзюбы не развяжуць.
Ўсе нахахорацца, ні зыку[1],
Уладарства холаду вяліка.
І верабей з усёй раднёю
Не шкне[2], схаваўшысь пад страхою.
Адзін мароз адно ўладае,
На ўсё ён рукі накладае,
Ўсё гне халоднаю нагою;
І лес пад сіняю смугою
Застыў, стаіць, як амярцвелы,
Башлык надзеўшы чысты, белы.
І толькі ён, мароз заўзяты,

[1] *Зык* — рэзкі, адрывісты гук; выкрык.
[2] *Не шкне* — сцішыўся, не падае голасу.

Мароз занадта зухаваты[1],
Адзін па лесе пахаджае,
Бо роўных ён сабе не мае.

...Ўжо Костусь двойчы неўзаметкі
Саскокваў з печы на разведкі,
У вокны доўга прыглядаўся,
Ў малюнкі так ён углыбляўся,
Што ў іншы свет перабіраўся.
На шыбе ўсё: снапкі ржаныя,
Чароты[2] хвацкія, буйныя,
І розных красак, траў нямала.
У душу летам патыхала.
А з ім і вобразы другія
Ўставалі, сэрцу дарагія.
Вось тут лясок, вось крыж пахілы,
Як вартаўнік чыёй магілы,
На ціхай горцы пахіліўся,
Бы аб пакойніку маліўся;
Там нібы рэчачка цікава
Звілася ў вербах кучаравых...
Ўсё так павабна, так прыгожа,
І так на праўду ўсё пахожа,
Што хлопец сам не памятае,
Дзе ён і што ён разглядае.
— Не стой ты, хлопец, пры аконцы:
З акна, як з зяўры[3], дзьме бясконца!
Зноў будзеш кашляць, — кажа маці.

---

[1] *Зухава́ты* — бойкі, удалы, малайцаваты, хваткі.

[2] *Чаро́т* — высокая травяністая расліна, якая сустракаецца на балотах і ў вадаёмах.

[3] *Зя́ўра* — пашча (у звера).

 

А хлопцу ўжо абрыдла[1] ў хаце
Ніяк блазноце[2] не сядзіцца,
На рэчцы хоча апыніцца.
А тут яшчэ, як на спакусу,
Чуць дзядзька з хаты паказаўся,
Мароз ужо прымайстраваўся
І белым пухам сеў на вусу.
І хто з двара ў дом ні прыходзіць,
Пра холад гутарку заводзіць:
— Ну ж і мароз — аж нос зрывае!
А як на ўсходзе чырвань грае!
Слупы такія паўставалі,
Пажарам страшным загулялі
Такія з'явы ў белым свеце!
Ну, як тут вытрываць, скажэце?
Кастусь у запечку стхарыўся[3],
Абуцца ў лапці прымудрыўся,
А ў лапцях вушкі скураныя
Былі ўжо досыць пажылыя;
Цішком сабраўся, апрануўся
Ды ў лес з сякеркаю кульнуўся.
А лес, як добры той знаёмы,
Стаіць збялелы, нерухомы
Абапал рэчачкі сцяною,
Над ёю сплёўшыся страхою,
Далёка кінуўшы галінкі;
А маладзенькія ялінкі

---

[1] *Абры́дзець* — апрацівець, апрыкраць.

[2] *Блазно́та* — тут: легкадумны, безразважны чалавек, што цікавіцца толькі гульнямі і забавамі.

[3] *Стхары́цца* — прытаіцца, як тхор, сцішыцца, каб не прыцягваць да сябе ўвагі.

Пад белым пухам чуць заметны;
Яны так мілы, так прыветны,
Бы тыя красачкі-дзяўчаткі,
Надзеўшы гожыя апраткі.
Затое ж хвоечкі малыя
Стаяць, як сіраты якія,
Ад снегу выгнуўшысь дугою,
На дол прыпаўшы галавою.
«Пагнуў вас снег, мае хваінкі.
Эх вы, гаротныя націнкі!» —
Над імі Костусь разважае,
І жаласць хлопца пашыбае[1].
І ён да хвоек падбягае.
Сняжок з іх ціха атрасае —
І хвойкі зразу ажываюць,
Ўгару макушы падымаюць,
Спярша павольна, бы баяцца,
А потым пойдуць разгінацца.
А хлопчык рады і смяецца,
Стаіць з мінуту, не схіснецца,
Аддаўшысь нейкім думкам-марам,
Аж б'ецца сэрца яго жарам.

Але пара, пара за дзела!
І ён на рэчку сходзіць смела.
Замерла рэчка між лясамі,
Бярозы голымі сукамі
Спляліся з вольхамі над ёю;
Яліны цёмнай чарадою
Навіслі густа салашамі[2].

---

[1] *Пашыба́ць* — прабіраць, пранізваць.
[2] *Сала́ш* — шалаш, будан.

А вось старая дзеравяка
Упала ў рэчку, небарака[1]:
Відаць, што бура палажыла
І мост жывы з яе зрабіла.
А лёд, бы мур сцямна-зялёны,
Чуць пасярэдзіне падняты,
Ляжыць, цяжэрны і зацяты[2],
Вартуе ходы ўсе і гоны,
Каб і стрыжэньчык не прабіўся.
І вось тут Костусь прыпыніўся,
На лёд глядзіць, штось разважае
І ў ход тапорык свой пускае.
Лядок закашляў, заіскрыўся,
На срэбра-друзачкі[3] пабіўся;
Ляцяць крупінкі ледзяныя,
Бы ўлетку пырскі дажджавыя,
І чуць апошні лёд зламаўся,
З зямлі клубок вады падняўся
І з шумам коціць поўзверх лёду,
Пачуўшы волечку-свабоду,
Ўсё большы-большы круг займае...
Але што гэта так спявае?
Адкуль тут музыка нясецца?
Чыя тут песня ў душу льецца?
Такога спеву сугалосся,
Што тут над рэчкаю панёсся,
Ніхто не зложыць, не зайграе.

---

[1] *Небара́ка* — тут: тое, што выклікае спачуванне, спагаду.

[2] *Заця́ты* — упарты, скрытны, затоены.

[3] *Дру́зачка* — маленькі асколачак чаго-небудзь разбітага.

Ці гэта казку лес складае?
Ці даль ачнулася нямая
І немасць песняй парушыла,
Што спакон векаў утварыла?
Ці то нябёсы адамкнуліс
І ціха-ціха адгукнуліс
Зямлі, усяму яе стварэнню?
Ці то вясна йдзе ў аддаленні?
...Расце, гарыць душа дзяціна
І ўсё на свеце забывае,
І шчасце, радасць спажывае.
І хоць дазнаўся ён прычыны,
Адкуль той звон і спеў птушыны,
Але як стане прыслухацца,
Пачне сапраўды сумнявацца,
Што гэта іней так з вадою
Вядзе размову тут зімою.
Дык вось чым рэчка хлопцу міла,
Чым так яго прывараўжыла!

?

1. Чым захапляе рэчка Костуся?
2. Якія *справы вынікаюць* паміж вадой і марозам на рэчцы? З якім пачуццём піша пра гэта аўтар? Растлумачце радкі: *Але дарма: жывую сілу // Не запраторыш ты ў магілу, // Мароз бязжаласны і люты!*?
3. Як паэт малюе *Мароз над усімі маразамі*? Якія чалавечыя рысы прыпісвае яму?
4. Перачытайце апісанне зімовага лесу. Як выглядаюць ялінкі, чым яны ўражваюць хлопчыка? Пры дапамозе якіх моўных выяўленчых сродкаў паэту ўдаецца стварыць такую выразную карціну зімовага лесу?

5. Чаму паэт, калі Костусь углядаецца ў размаляваную марозам шыбу, гаворыць: *У малюнкі так ён углыбляўся, // Што ў іншы свет перабіраўся*? Што гэта за свет?
6. Вывучыце на памяць урывак, які вам найбольш спадабаўся.

## Пра параўнанне

Вы пазнаёміліся з творамі Якуба Коласа «Песняляснога жаваранка» і «На рэчцы». Аўтар з такім замілаваннем, любоўю, захапленнем паказаў непаўторныя карціны прыроды ў розныя поры года, што немагчыма застацца абыякавым. Апісанне надзвычай прыгожай і мілагучнай песні ляснога жаваранка кранае ўяўленне, заварожвае нас. У другім творы вельмі яскрава, пераканальна, дакладна абмаляваны рэчка, лес, луг, паказаны магутны і грозны Мароз — гаспадар зімы. Карціны закутай лёдам рэчкі, свавольнай і непакорлівай крынічкі, заснежанага лесу, казачных узораў на вокнах мімаволі паўстаюць перад вачыма. Што дапамагло паэту дасягнуць такой выразнасці, жывасці, нагляднасці ў стварэнні мастацкіх вобразаў, перадачы сваіх пачуццяў? Напэўна, вы заўважылі, што ў творы многа мастацкіх сродкаў выразнасці — эпітэтаў. Аднак значна дапамагаюць нашаму ўяўленню і параўнанні. Яны ўжываюцца для таго, каб паказаць незнаёмае, нябачанае раней праз супастаўленне яго са знаёмымі прадметамі і з’явамі.

П а р а ў н а н н е — супастаўленне двух прадметаў або з’яў на аснове іх падабенства.

Параўнанні звычайна пачынаюцца словамі *як, нібы, як бы, як быццам, падобна да, накшталт, нібыта* і інш. Прыгадаем знаёмыя радкі:

А маладзенькія ялінкі
Пад белым пухам чуць заметны;
Яны так мілы, так прыветны,
Бы тыя красачкі-дзяўчаткі,
Надзеўшы гожыя апраткі.
Затое ж хвоечкі малыя
Стаяць, як сіраты якія,
Ад снегу выгнуўшысь дугою,
На дол прыпаўшы галавою.

Гэтыя параўнанні дапамагаюць нам уявіць зімовы лес: прыгожыя, гордыя і чароўныя ялінкі ганарліва выступаюць, нібы дзяўчаткі-красуні ў святочных строях, ведаючы сабе цану. Маленькія ж хвойкі не могуць выбавіцца з-пад снегу і таму ціха стаяць, пакорлівыя і самотныя, бездапаможна ўгнуўшыся пад цяжкімі гурбамі, як занядбаныя сірацінкі.

Параўнанні могуць быць выражаны і назоўнікам у творным склоне: *песня расплывалася ў маўклівым паветры* ***звонам*** *тонкага дарагога металу;* ***сілачом*** *стаіць дуб разложысты.*

Параўнанні вылучаюць новыя якасці, рысы, асаблівасці ў звыклым, даўно знаёмым, дапамагаюць больш ярка ўявіць невядомыя рэчы і з'явы, выказаць свае адносіны да іх.

АНАТОЛЬ АСТРЭЙКА

## Над ракой

Ледзь варушыцца лісце ракіт,
І суцішана Нёман плюскоча.
Выйшаў месяц на ясны блакіт
Прагуляцца па чэрвеньскай ночы.

І спынілі гамонку лясы
Пад празрыстым святлом месяцовым,
І аселі крупінкі расы
На кустах і на травах мядовых.

Беразняк сніць над рэчкаю сны,
Пахіліўшы купчастае веццє.
Хто не любіць красуні вясны,
Калі месяц так хораша свеціць!

Вось і месяц між хмар патануў,
І ў суцёмках вада не ільсніцца.
Я вітаю жыццё, і вясну,
І зару, што на ўсходзе ірдзіцца.

?

**1.** Які настрой пераважае ў вершы? Якія аўтарскія пачуцці выказаны ў творы: радасць, захапленне, лёгкі смутак, туга або якія іншыя?
**2.** Што асабліва ўзрушыла паэта? Якім ён бачыць летні вечар?
**3.** Якія карціны і паэтычныя вобразы, створаныя аўтарам, дапамагаюць успрыняць цэласную карціну веснавой прыроды?

ПЯТРУСЬ БРОЎКА

## Кропля

Дождж прарваўся з ветрам
У спякоту,
Па пясках ударыў
Буйным шротам...
За адно імгненне,
За хвіліну
Перамыў лістоту на галінах,
Пачапіў на кожнае іглінцы
Па адной засмучанай
Слязінцы.

Прашумеў. Суняўся.
Ціха стала.
І слязінка кожная зайграла.
Колькі ў кроплю
Фарбаў назаткана,
Быццам свет увесь у ёй сабраны:
Поле,
Луг,
Сады ўсяго пасёлка,
І рака,
І неба,
І вясёлка!

**1.** Ахарактарызуйце агульны настрой верша. Якія эмоцыі выклікаў у вас гэты твор?
**2.** Перачытайце верш яшчэ раз, паспрабуйце ўявіць карціны, створаныя паэтам. Апішыце іх словамі.
**3.** Чаму, на вашу думку, аўтар абраў такую форму, калі вершаваная страфа разбіваецца

на кароткія радкі-словы (каб паказаць зменлівасць прыроды падчас навальніцы, перадаць напружаны рытм дажджу, стварыць панараму зрокавых малюнкаў, выказаць уласныя пачуцці ці выявіць нешта іншае)? Выкажыце свае меркаванні.

**4.** Растлумачце паэтычны сэнс моўных выяўленчых сродкаў у творы. Якія вобразы падаліся вам больш яркімі, арыгінальнымі? Якая інтанацыя, на вашу думку, больш прыдатная для чытання верша: спакойная, нетаропкая, бадзёрая, узнёслая, урачыстая ці якая іншая?

АНАТОЛЬ ГРАЧАНІКАЎ

## Верасень

Зноў верасень —
Запаслівы грыбнік —
Шчыруе па імшастых баравінах[1].
Трымціць раса на звонкіх павуцінах,
І травастою пах яшчэ не знік.

Немітуслiва
Промні аж да дна
Прасвечваюць азёрныя глыбіні.
І гронкі[2] ацяжэлыя каліны
Насыціліся сокамі спаўна.

---

[1] *Баравíна* — узвышаны ўчастак у бары.
[2] *Грóнка* — скопішча ягад або кветак на адной галінцы.

Мне даспадобы
Верасень заўжды.
І не таму, што я ў ім нарадзіўся.
У верасні мне свет увесь адкрыўся
У спеласці сакоўнай — малады.

Так, свет!
І сам я ў вераснёвы час
Прасвечаны святлом яго, як гронка,
Спяваю і не ціха, і не звонка
Для вас, абшары родныя, для вас,
Шчымліва
Адчуваючы душой
Закончаную яснасць у прыродзе,
І ў жураўліным сцішаным палёце,
І ў засцюдзёлай быстрыні рачной.

Вулля
Шукае позняя пчала.
Лагодна-мяккі свет, нібы вашчына[1].
І дабратой прасвечана Айчына
У барвах[2] баравіннага святла.

1. Якой паўстае восеньская прырода ў першых дзвюх страфах верша? Якія паэтычныя карціны ў іх намаляваны? Паспрабуйце ўявіць і апісаць іх словамі.

---

[1] *Вашчы́на* — пустыя пчаліныя соты або неачышчаны воск.

[2] *Ба́рва* — фарба, афарбоўка, колер; чырвань, густачырвоны колер.

2. Растлумачце паэтычны вобраз: *Зноў верасень — // Запаслівы грыбнік — // Шчыруе па імшастых баравінах*.
3. Знайдзіце радкі верша, у якіх выяўлены асабістыя пачуцці паэта, яго думкі і перажыванні, што нахлынулі ад сузірання восеньскай прыроды. Што гаворыць паэт пра месяц верасень? Якім бачыць ён самога сябе, сваю творчасць? Каму паэт спявае свае песні, прысвячае свае творы?
4. Якія перажыванні, душэўныя хваляванні выяўлены ў радках: *Шчымліва // Адчуваючы душой // Закончаную яснасць у прыродзе, // І ў жураўліным сцішаным палёце, // І ў засцюдзёлай быстрыні рачной*?
5. Перачытайце апошнія два радкі верша. Якая асноўная думка выказана ў іх? Звярніце ўвагу на гучанне апошняга радка: *У барвах баравіннага святла*. Як вы думаеце, ці выпадкова аказаліся ў ім побач словы, падобныя па гучанні? (Можа, яны надаюць адчуванне ўрачыстасці, узнёсласці ці, наадварот, засяроджанасці, заглыбленасці, выкліканай сузіраннем прыгажосці прыроды? Ці ў вас ёсць нейкія іншыя меркаванні?) Абгрунтуйце іх.
6. Якія пачуцці выклікаў у вас верш? Паспрабуйце перадаць іх пры чытанні. Ці будзе мяняцца інтанацыя на працягу чытання? Абгрунтуйце свой адказ.
7. Разгледзьце на форзацы рэпрадукцыю карціны Уладзіміра Сулкоўскага «Бервянец.

Восень». Якой бачыць восень мастак? Якія фарбы пераважаюць на карціне? Якія адметныя дэталі восеньскага пейзажу заўважае жывапісец? Які агульны настрой перадае карціна?

**8.** Ці ёсць што сугучнае ва ўспрыманні восені мастаком і паэтам? Выкажыце свае меркаванні.

УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ

## Лісце

Восень прайшла пералескамі
Па няголеным ржышчы ніў,
Чырвонымі арабескамі[1]
Лісце лес ураніў.
Глянь на зямлю залатую,
Пяшчотную, сумную, чыстую,
Нехта па ёй вандруе,
У паветра ўзнімаючы лісце.
Медзь на азёрах сплывае,
Сум у небе імглістым...
Як песня, з галін злятае
Лісце, лісце,
Залацістае лісце,
Сто лісцяў,
Дзесяць лісцяў,
Ліст.

---

[1] *Арабе́ска* — складаны арнамент з геаметрычных фігур і стылізаваных кветак і лісця, падобны да арабскага ўзору.

 

1. Якой убачыў восень паэт? Які настрой перадае ў вершы? Ці блізкае вам такое ўспрыманне восені? Абгрунтуйце свой адказ.
2. Якія паэтычныя карціны створаны аўтарам? Зачытайце адпаведныя радкі. Пастарайцеся ўявіць гэтыя малюнкі. Якія з іх вас найбольш уразілі?
3. Як дапамагаюць эпітэты стварэнню паэтычных вобразаў у радках: *Глянь на зямлю залатую, // Пяшчотную, сумную, чыстую*? Якімі іншымі моўнымі сродкамі мастацкай выразнасці карыстаецца аўтар для стварэння вобраза восені?
4. Перачытайце апошні сказ верша: ён нібы выбіваецца з агульнага рытму. Услухайцеся ў яго гучанне. Што нагадвае вам сама мелодыя канцоўкі твора?

АНАТОЛЬ ГРАЧАНІКАЎ

## Як ападае ліст...

Як ападае ліст, як ападае...
Нібы дазволу ў восені пытае.

Бывай, галінка гнуткая, бывай!
Няхай цяпер цябе галубіць вецер,
Салодка закалыхвае пад вечар
І будзіць на зары цябе няхай.
Хіба табе, пажоўклы, я раўня?
З табою развітацца мне не сорам,
Як з небам — ціхім пераспелым зорам
Перад прыходам маладога дня.
Бывайце, сонца, поле і таполя!
Мне час заснуць у восені ў прыполе...

1. Як вы разумееце паэтычныя радкі: *Як ападае ліст, як ападае... // Нібы дазволу ў восені пытае*?
2. Як пачуваецца лісток, якім ён бачыць самога сябе?
3. Якой уяўляецца лістку галінка? Чаго жадае ёй лісток? Раскрыйце сэнс дзеяслова ў выразе *Няхай цяпер цябе* ***галубіць*** *вецер*.
4. Як характарызуюць сам лісток яго адносіны да галінкі?
5. Вызначце ролю эпітэтаў у стварэнні паэтычнага вобраза зорнага неба: *З табою развітацца мне не сорам, // Як з небам — ціхім пераспелым зорам // Перад прыходам маладога дня*.
6. Перачытайце апошнія радкі верша. Паспрабуйце ўявіць створаную паэтам карціну, апішыце яе словамі (рабіце гэта далікатна, асцярожна, каб не разбурыць уражання).
7. Звярніце ўвагу на своеасаблівую форму верша: у першай частцы прамаўляе аўтар, у другой — лісток. Перачытайце маналог[1] лістка. Каго нагадвае вам лісток?
8. Першы і апошні радкі верша заканчваюцца шматкроп'ем, пэўна, думкі паэта незавершаныя, яны патрабуюць роздуму і могуць быць развіты. У якіх кірунках, на вашу думку, іх можна было б прадоўжыць (намаляваць зрокавыя карціны восені, паразважаць пра непазбежнасць асенняга заміранне прыроды,

---

[1] *Мана́лог* — разгорнутае выказванне адной асобы.

 

пра яе веснавое адраджэнне, задумацца пра сэнс жыцця, хуткаплыннасць часу, імклівасць падзей ці пагаварыць пра нешта іншае)?

**9.** Параўнайце верш «Як ападае ліст...» з вершам Уладзіміра Караткевіча «Лісце». (Звярніце ўвагу на змест, форму, настрой, пачуцці, вобразы, гучанне.) Выкажыце свае адносіны да твораў.

## Пытанні і заданні да раздзела

**1.** Прыгадайце творы, змешчаныя ў гэтым раздзеле. Чым узбагацілі яны ваша ўспрыманне прыроды, закранулі вашы пачуцці? Выкажыце свае адносіны да асобных твораў і да раздзела ў цэлым.

**2.** Якую ролю адыгрываюць эпітэты ў мастацкіх творах? Пацвердзіце свае меркаванні прыкладамі.

**3.** Вызначце ролю параўнанняў у стварэнні мастацкага вобраза. Прывядзіце прыклады.

**4.** Падрыхтуйце невялікую ўласную замалёўку пра восень. (Выкарыстайце, калі будзе патрэба, вобразы знаёмых вершаў, прысвечаных восені, мастацкія фатаграфіі асенніх пейзажаў, рэпрадукцыі карцін прыроды беларускіх мастакоў. Прыгадайце ўласныя назіранні і ўражанні.) Праілюструйце свой аповед уласным малюнкам.

# АДГАДКІ

**Да літаратурных загадак.** *Ніл Гілевіч:* 1. Вецер; 2. Аловак. *Васіль Вітка*: Дзень і ноч. *Уладзімір Паўлаў*: Крыжадзюб.

**Да народных загадак.** 1. Сонца. 2. Сонца. 3. Сонца і месяц. 4. Воблака. 5. Месяц. 6. Месяц і зоркі. 7. Соль. 8. Блін. 9. Ільняны абрус. 10. Балота. 11. Берагі. 12. Хваля. 13. Гром. 14. Гром. 15. Завіруха. 16. Вецер. 17. Вецер. 18. Дождж. 19. Дождж. 20. Дождж, зямля і трава. 21. Раса. 22. Снег. 23. Снег. 24. Цень. 25. Рэха. 26. Маланка. 27. Бярозы. 28. Жолуд. 29. Сунічка. 30. Суніцы. 31. Грыб. 32. Сланечнік. 33. Пшаніца. 34. Каласы. 35. Гарбуз. 36. Вішні. 37. Клубніцы. 38. Чалавек у розным узросце. 39. Вожык. 40. Кот. 41. Бусел. 42. Рыба. 43. Муха. 44. Жук. 45. Клубок. 46. Іголка. 47. Іголка з ніткай. 48. Вугаль. 49. Комін. 50. Лесвіца. 51. Венік. 52. Чайнік. 53. Кніга. 54. Скрыпка. 55. Кніга. 56. Пальцы. 57. Язык, вочы, вушы. 58. Малаток і цвік. 59. Бабёр. 60. Лён. 61. Дарога. 62. Дрэва. 63. Шапка. 64. Лодка. 65. Сноп. 66. Вецер. 67. Павуціна. 68. Лядзяш. 69. Хмара. 70. Вожык. 71. Гадзіннік. 72. Акуляры. 73. На геаграфічнай карце. 74. Бульбакапалка. 75. Танк. 76. Барабан.

# КАРОТКІ СЛОЎНІК ЛІТАРАТУРНЫХ ПАНЯЦЦЯЎ

**Адухаўле́нне** — наданне нежывым прадметам ці з'явам прыроды ўласцівасцей жывых істот. Разнавіднасць метафары. *Напілося сонца са крыніц сцюдзёных* (Максім Багдановіч).

**Алего́рыя** — іншасказанне; мастацкі прыём, калі думка, рыса характару раскрываюцца праз паводзіны жывёл, асаблівасці раслін, з'яў ці прадметаў: хітрасць — праз паводзіны лісы, злосць — ваўка, баязлівасць — зайца і г. д.

**Афары́зм** — кароткае, трапнае і змястоўнае выслоўе, у якім выказваецца глыбокая думка. У адрозненне ад прыказак часцей за ўсё мае аўтара. *Раны гояцца часам, а дружбаю гора* (Аркадзь Куляшоў).

**Гіпе́рбала** — моцнае перавелічэнне ўласцівасцей, якасцей прадмета або з'явы з мэтай большай мастацкай выразнасці. *Узмахне крылом — быццам бор шуміць, // Узмахне другім — што мяцель гудзіць* (Максім Багдановіч).

**Гу́капіс** — гукавыя паўторы ў вершаванай мове, якія ўзмацняюць яе мілагучнасць і сэнсавую выразнасць. *Не шасцяць каласы, // Звон не валіцца з касы, // Не кладуцца ў стог пласты, // Толькі сыплюцца лісты // На яловыя кусты, // На сухія верасы* (Янка Купала).

**Гу́мар** — паказ жыццёвых з'яў або чалавека ў камічным, смешным выглядзе; нязлосны, добразычлівы смех.

**Дыяло́г** — размова дзвюх або некалькіх асоб.

**Зага́дка** — вобразнае апісанне ўтоенага прадмета ці з'явы, якое патрабуе разгадкі.

**Зачы́н** — устойлівая формула, з якой пачынаецца казка.

**Зваро́так** — эмацыянальны зварот аўтара да чытача, героя, да з'яў прыроды і інш. *Бывай, галінка гнуткая, бывай* (Анатоль Грачанікаў).

**Інсцэніро́ўка** — перапрацоўка літаратурнага твора для сцэны, пастаноўка спектакля па гэтым творы.

**Інтана́цыя** — характар вымаўлення фразы, у якім выяўляюцца пачуццё, душэўны стан, адносіны чалавека да прадмета размовы ці чытання. Інтанацыя складаецца з мелодыкі, тэмпу і тэмбру маўлення.

**Ка́зка** — апавяданне фантастычнага або бытавога зместу з шырокім выкарыстаннем вымыслу (выдумкі).

**Леге́нда** — фантастычнае апавяданне, заснаванае на паэтызацыі, услаўленні гістарычных падзей і народных герояў.

**Манало́г** — разгорнутае выказванне адной асобы.

**Мета́фара** — перанясенне ўласцівасцей адной з'явы на іншую, чым-небудзь падобную да яе. *Расчасалі вішні шоўкавыя косы // І ўранілі долу снегавы вянок* (Паўлюк Трус).

**Параўна́нне** — мастацкі прыём, супастаўленне двух прадметаў або з'яў на аснове іх падабенства. *Як песня, з галін злятае лісце* (Уладзімір Караткевіч).

**Па́ўза** — перапынак у гучанні фразы.

**Паэ́ма** — буйны вершаваны твор, часцей сюжэтны, які расказвае пра важныя падзеі, выяўляе глыбокія перажыванні аўтара і яго герояў.

**Паэты́чны твор** — мастацкі твор, напісаны вершаванай мовай.

**Пры́казка** — трапнае народнае выслоўе, часам з павучальным зместам, якое дае вобразную ацэнку чалавечым паводзінам, учынкам, якасцям.

**Прыкме́ты** — трапныя народныя выслоўі, у якіх прадказваецца пэўны вынік, пацверджаны шматвяковым народным вопытам.

**Рытм** — раўнамернае паўтарэнне, чаргаванне вершаваных радкоў, а ўнутры радкоў — націскных і ненаціскных складоў. Адна з найважнейшых адзнак верша. *Зямлі́ не чу́еш па́д сабо́ю // І ло́віш бе́лы пу́х руко́ю* (Якуб Колас).

**Ры́фма** — сугучнасць канчаткаў вершаваных радкоў. *Забыта многае ў жыцці, // З дарогі змецена і змыта. // Мне ў жыта хочацца ўвайсці, // Мне вечнасцю здаецца жыта* (Аляксей Пысін).

**Фальклó р** — вусная народная творчасць, творы невядомых аўтараў, што бытуюць у народзе ў вуснай форме (казкі, загадкі, прыказкі, песні, прыкметы, павер'і і інш.).

**Эпі́тэт** — мастацкае азначэнне, якое вобразна характарызуе прадмет (з'яву, асобу). Эпітэт дапамагае ярка, жыва ўявіць прадмет і адчуць адносіны аўтара. *Ціха па мяккай траве сінявокая ноч прахадзіла* (Максім Багдановіч).

## ЗМЕСТ



 

**ПРЫРОДЫ ВЕЧНАЯ КРАСА**

(Назва і нумар школы)

| Навучальны год | Імя і прозвішча вучня | Стан падручніка пры атрыманні | Адзнака вучню за карыстанне падручнікам |
|---|---|---|---|
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |

Вучэбнае выданне

**Цітова** Людміла Канстанцінаўна

**БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА**

Вучэбны дапаможнік для 5 класа
агульнаадукацыйных устаноў
з беларускай і рускай мовамі навучання

У дзвюх частках

Частка 1

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*
Рэдактар *Л. Б. Сопат*
Мастак *Ю. Д. Бяспалая*
Мастацкі рэдактар *І. А. Усенка*
Камп'ютарная вёрстка *Ю. М. Галавейкі*
Карэктары *К. І. Іванова, Т. Ф. Шайко*

Падпісана ў друк 25.04.2009. Фармат 60×90 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная № 1.
Гарнітура Школьная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 11,0.
Ул.-выд. арк. 4,9+0,38. Тыраж 117 760 экз. Заказ

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. ЛИ № 02330/0494469
ад 08.04.2009. Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск.

ААТ «Паліграфкамбінат імя Якуба Коласа».
ЛП № 02330/0056617 ад 27.03.2004.
Вул. Чырвоная, 23, 220600, г. Мінск.